# Ад рэдакцыі.

Увесь гэты нумар часопісі „Плуг“ прызначаецца выяўленьню тых дасягненьняў у сельскай і лясной гаспадарцы, якіх працоўным Савецкай Беларусі пад кіраўніцтвам Савецкай ўлады і Камуністычнай партыі ўдалося дасягнуць к 10-й гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі амаль на руінах, у якіх апынулася Беларусь пасьля імпэрыялістычнай вайны, нямецкай і бела-польскай акупацыі.

Усе гэтыя дасягненьні, падчас нават і маленькія, вельмі выразна сьведчаць, наколькі шырока пашла праца ў Савецкай Беларусі перш па адбудове сельскай гаспадаркі, а далей і перабудове яе на соцыялістычны лад. Ёсьць сотні і тысячы прыкладаў таго, як упарта, крок за крокам, у Савецкай Беларусі аднаўляецца і расьце сельская гаспадарка: зьнішчана нішчата безьзямельля, панская кабала і сыстэматычны голад; вядзецца ўпартая праца па стварэньні культурнай, у поўнай меры коопэраванай і машынізаванай сельскай гаспадаркі пры поўным матэрыяльным і духоўным росьце новай савецкай вёскі.

Побач з гэтым ростам, як вынікам цэлай сыстэмы належных мерапрыемств Савецкай улады, нязвычайна расьце ініцыятыва і самадзейнасьць шырокіх мас сялянства. *Даволі назваць працу мэліорацыйных і тарфяных т-в на балоце, паказаць на рост с.-г. коопэрацыі, арганізацыю сельскай гаспадаркі ў пасёлках, успомніць удзел сялянства на с.-г. выстаўках і курсах, пазнаёміцца з працай высокакультурных сялян-дасьледчыкаў або з стварэньнем і працай нашай с.-г. часопісі і г. д., каб быць упэўненым у тым, якім магутным фактарам для росту сельскай гаспадаркі БССР зьяўляецца Вялікі Кастрычнік.*

Шэрагам новых лёзунгаў і пастаноў аб далейшай працы ў сельскай гаспадарцы само працоўнае сялянства адзначыць 10-ю гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Увесь матэрыял гэтага нумара „Плуга“ нізавыя працаўнікі могуць выкарыстаць для падрыхтоўкі к дакладам па сельскай гаспадарцы, а школы, хаты-чытальні, с.-г. гурткі для прапрацоўкі ў сваіх занятках.

Нумар мае шмат справачнага матэрыялу.

**Рэдакцыя.**

---


**Прымаецца падпіска на 1928 год.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год | — 2 р. 20 к. | на 3 месяцы | — 60 к. |
| на 6 мес. | — 1 р. 10 к. | да канца 1927 г. | — 60 к. |

**Адрас рэдакцыі:** *Менск, Савецкая 71.*

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

III год выданьня Кастрычнік 1927 г. № 10

**ДЗЕСЯЦЬ ГОД КАСТРЫЧНІКА—ДЗЕСЯЦЬ ГОД БАРАЦЬБЫ ЗА НОВУЮ ВЁСКУ!**

**ПРАЗ КАСТРЫЧНІК—ДА АГРЫКУЛЬТУРНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ Ў ВЁСЦЫ.**

**ПРАЗ АГРЫКУЛЬТУРНУЮ РЭВАЛЮЦЫЮ—ДА СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ГАСПАДАРКІ!**

**НЯХАЙ ЖЫВЕ ВЯЛІКІ КАСТРЫЧНІК!**



## Нашы дасягненьні ў аграрнай палітыцы.

Каля зямельнага пытаньня групавалася бедняцка-серадняцкае сялянства ў сваёй рэвалюцыйнай барацьбе супроць абшарнікаў і кулакоў. Чужая зямельная ўласнасьць прыгнятала працоўных вёскі. Партыя камуністых (бальшавікоў) адразу ставіла пытаньне аб нацыяналізацыі зямлі і перадачы яе ў карыстаньне працоўных. Абшарнікі і кулакі агітавалі працоўнае сялянства супраць ліквідацыі прыватнай ўласнасьці на зямлю: з іх боку тут быў стратэгічны ход клясавых ворагаў. Яны добра ведалі, што калі пакінуць хаця-б дробную прыватную уласнасьць на зямлю, дык гэтым самым у далейшым можна выклікаць правал аграрнай рэвалюцыі і зварот старых парадкаў. Кожнаму вядома, што з дробнай прыватнай уласнасьці заўсёды праз некалькі год вырасьце буйная. Ва ўмовах Савецкай улады кожны, ставіўшы ў першыя часы рэвалюцыі пытаньне аб прыватнай уласнасьці на зямлю, стаяў на пазыцыях па абароне контррэвалюцыі, а стаяўшыя за нацыяналізацыю зямлі, абаранялі Савецкую ўладу і социялістычнае будаўніцтва.



А. Чарвякоў. (Старшыня ЦВКБ).

Цяпер у дзесятую гадавіну Кастрычнікавай рэвалюцыі кожнаму селяніну добра вядома тое, што ня можа быць і гутаркі аб савецкім социялістычным будаўніцтве, калі толькі ўвесьці прыватную ўласнасьць на зямлю.

У працы нашага сельска-гаспадарчага будаўніцтва на працягу дзесяці год сялянства ўпэўнілася, што толькі пасьля таго, як мы прагналі абшарнікаў, абрэзалі кулакоў і ліквідавалі прыватную ўласьнасьць на зямлю, стала магчыма пасьпяховая перабудова сельскіх гаспадарак шырокіх колаў працоўнага сялянства.

У старыя часы расла і разьвівалася толькі гаспадарка абшарніка і кулака, а цяпер, наадварот, бурна пашла ў гару бедняцка-серадняцкая гаспадарка.

У парадку перадачы абшарніцкіх зямель і спэцыяльнага дадатковага землянадзяленьня бедняцка-серадняцкае сялянства палучыла ўжо 1.854,000 гэкт. *)

Але і на дзесятым годзе Кастрычнікавай Рэвалюцыі, ня гледзячы на тое, што намі праведзена вялізарная праца, нам нельга сказаць, што пытаньне аб зямлі і малазямельлі вырашана.

Толькі ў параўнаньні з дарэвалюцыйным часам гастрата яго значна аслаблена. Мы да гэтага часу маем значны процант малазямельных гаспадарак, акрамя таго, у працэсе сялянскіх падзелаў лік малазямельных будзе павялічвацца. Таму перад намі стаіць задача, калі неканчаткова ліквідаваць групу малазямельных, дык давясьці яе да мінімума.

Разам з самім сялянствам мы будзем праводзіць і разгортваць працу па асушцы і культуры балот і на гэтых новых землях праводзіць калёнізацыйнае засяленьне беззямельнымі і малазямельнымі. Каласальныя плошчы такіх зямель мае БССР, асабліва ў багатым палескім раёне, які мы павінны засяліць і гэты глухі куток паставіць на шлях інтэнсыўнага культурна-гаспадарчага жыцьця.

Разгортваецца праца і па перасяленьню замежы БССР і мясцамі ў цэлым шэрагу выпадкаў зямля перасяленцаў пападае заможным, а не малазямельным, у якіх няма часам сродкаў, каб заарандаваць зямлю, а мы не даём дзеля гэтага спэцыяльнага крэдыту беднаце, каб ім засталіся ўсе зямельныя фонды перасяленцаў. Нельга дапускаць такога зьявішча, каб перасяленцы пладзілі ў нас капіталістычную форму арэнды зямлі, а капіталістычнай яна зьяўляецца тады, калі перасяленец яе здае ў арэнду кулаку з максымальнай нормай. Кулак-жа пасьля сканчэньня тэрміну арэнды садзіць туды дачку ці сына і ставіць зямельныя ўстановы перад ствары́ўшымся фактам.

Разам з нашымі мерапрыемствамі па рэорганізацыі сельскай гаспадаркі нам і на дзесятай гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі нельга сказаць, што праца і мерапрыемствы па землянадзяленьню скончаны. Наадварот, землянадзяленьне, як задача і цяпер стаіць перад намі гостра. Ніводная буржуазная „дэмакратычная“ дзяржава ніколі не ставіць і не паставіць гэтага пытаньня таму, што там ёсьць прыватная ўласнасьць. Такім чынам, толькі пры Савецкай уладзе, калі зямля нацыяналізавана, мы маем мажлівасьць рэгуляваць зямельныя ўзаемаадносіны паміж сялянствам і прымаць рэяльныя крокі ў адносінах да ліквідацыі беззямельля і малазямельля сярод сялянства. За 10 год Савецкай улады бедняцка-серадняцкае сялянства прывыкла да нацыяналізацыі зямлі і правільна лічыць, што толькі пры існаваньні такога закона магчыма разьвіваць гаспадарку наогул і будаваць яе праз коопэрацыю ў соцыялістычным напрамку.

Такім чынам, ужо ў дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі магчыма сказаць, што ідэя і практыка нацыяналізацыі зямлі зьяўляецца

*) Сюды уваходзяць і лясы мясцовага значэньня.

агульнапрызнанай бедняцка-серадняцкім сялянствам, а гэта служыць нам моцным фундаментам у нашай працы па арганізацыі соцыялістычнага будаўніцтва на вёсцы.

Пры існаваньні нацыяналізацыі зямлі перад намі пры правядзеньні аграрнай палітыкі маюцца вялікія мажлівасьці прыстасаваць няўдобныя землі пад сельскую гаспадарку і такім чынам шырока пашыраць зямельную плошчу пад сельскую гаспадарку. Да гэтага часу мы ня мелі яшчэ сродкаў, каб стала ахапіць няўдобныя плошчы і скарыстаць іх. Мы дзялілі беззямельным і малазямельным сялянам фонды ўдобных зямель.

Галоўныя фонды зямель спачатку рэвалюцыі, праўда, былі стыхійна расхоплены бяднейшым сялянствам і батракамі, але-ж інакшага парадку і цяжка было чакаць пры тых умовах, калі людзі галадалі без зямлі сотнямі і дзясяткамі год.

II.

Дзеля рэорганізацыі сельскай гаспадаркі галоўным і першачарговым пытаньнем зьяўляецца організацыя зямельнай плошчы праз земляўпарадкаваньне. Усе сяляне як быццам лічаць, што мы марудным тэмпам праводзім земляўпарадкаваньне. Але-ж, калі мы паглядзім, што намі ўжо зроблена за апошнія дзесяць год, дык мы ўбачым, што намі праведзена аграмадная праца, асабліва калі рабіць параўнаньне з даваенным часам. Так, напрыклад, да рэвалюцыі за 8 год (з 1907 года) земляупарадкаваньне было праведзена на плошчы 866.750 гэкт., а Савецкаю ўладаю к 10-й гадавіне Кастрычніка ўпарадкавана 2.605.000 гэкт. Ад плошчы падлягаючай земляўпарадкаваньню да рэвалюцыі было земляўпарадкавана 9,8 проц., пасьля рэвалюцыі—29,6 проц. Цяпер у часы рэвалюцыі земляўпарадкаваньне праходзіць хутчэй у тры разы, чым яно праходзіла ў старыя часы. І тут яшчэ трэба прыняць пад увагу, што значная частка сучаснай тэрыторыі Беларусі знаходзілася пад рознымі акупацыямі, і ў той час тут ніякіх мерапрыемстваў не праводзілася.

Такім чынам, ужо праведзена земляўпарадкаваньне на 39,4 проц. ад усёй тэрыторыі. У земляўпарадкаваньні мы ўзялі такі хуткі тэмп, што ў бліжэйшыя гады яно павінна быць праведзена на ўсёй БССР.

Зразумела, што організацыяй зямельнай плошчы (земляўпарадкаваньнем) мы падводзім нашы сялянскія гаспадаркі да організацыі інтэнсыўнага паляводзтва і жывёлагадоўлі і агульнага ўзросту ўсёй сельскай гаспадаркі.

*Пры правядзеньні земляўпарадкаваньня мы будуем новыя пасялковыя формы землякарыстаньня, на якіх ужо пачаліся і ў бліжэйшыя гады пройдзе самае шырокае вытворчае коопэраваньне. Ужо моцна ўрастае пасялковая форма землякарыстаньня (створаная рэвалюцыяй), на якой пачынае будавацца новы тып сельскай гаспадаркі* працілеглы таму, які будаваў Сталыпін.

Спачатку сялянства крытычна адносілася да гэтай формы землякарыстаньня, але зараз мы маем на пасёлках вялікія дасягненьні і сялянства пачало прызнаваць яе за карысную гаспадарчую форму.

Пры правядзеньні земляўпарадкаваньня мы ўсё бяднейшае сялянства аслабаняем ад платы за земляўпарадкаваньне. Пад гэты закон пападае 35 проц. гаспадарак пры ўнутрывясковым зямляўпарадкаваньні. Акрамя таго, усё землянадзяленьне таксама праводзіцца за кошт дзяр-

жавы. Разам з гэтым амаль што кожная бедняцкая гаспадарка атрымоўвае прырэзку зямлі, бо па закону кожная гаспадарка павінна быць ня менш мінімальнай нормы, адначасова праводзіцца дапамога лесам у парадку крэдыту і бяз кошту выдаецца грашовы крэдыт на адбудову гаспадаркі (бедняцкім гаспадаркам у першую чаргу).

Як з прынцыповага, так і з практычнага боку Савецкай уладай вырашана пытаньне, што ў нас усе працоўныя маюць аднолькавае права на карыстаньне зямлёю. Усе нацыянальнасьці ў Саюзе ССР карыстаюцца аднолькавымі палітычнымі і гаспадарчымі правамі. Таму, калі ў царскія часы яўрэям не давалі магчымасьці карыстацца зямлёю, дык цяпер ім ня толькі дадзена гэта права, але разам з гэтым праводзяцца і значныя мерапрыемствы ў кірунку ограрызацыі працоўнага яўрэйскага насельніцтва.

Мы на Беларусі ўжо маем такія вынікі нашай працы: *за 3 гады, пасьля спэцыяльнага закона аб земляўпарадкаваньні працоўных яўрэяў, організавана 124 колхозы ў 1066 сям'яў на плошчы 15.354 гэкт., а да гэтага было організавана 45 колхозаў на плошчы 5332 гэкт.*

*Такім чынам, у нас організована ўсяго яўрэйскіх калхозаў 169,* на плошчы 20.686 гэкт. *Акрамя таго, галоўным чынам у працягу дзесяці год рэвалюцыі перашло яўрэяў да працы на зямлі 5374 сям'і на плошчы 25.102 гэкт. Значыць, к дзесяцігодзьздю Кастрычнікавай рэвалюцыі на Беларусі мы маем 7951 сям'ю, якая займаецца сельскай гаспадаркай на плошчы 54.054 гэкт.*



Праца трактара на балоце Заслаўскага мэл. т-ва (Меншчына).

Галоўным недахопам у нашым земляўпарадкаваньні зьяўляецца ня поўная гаспадарчая і асабліва агрыкультурная адбудова. Тлумачыцца гэта тым, што нашай аграноміі прыходзіцца мець справу з сялянствам, якое толькі пачынае знаёміцца з новай тэхнікай і лепшымі прыёмамі вядзеньня сельскай гаспадаркі, ды і самі агрономы дагэтуль ня ведалі практычнай масавай формы падрыхтоўкі сялянства для орга-

нізацыі новай сельскай гаспадаркі. Але і тут за дзесяць год рэвалюцыі праведзена шырокая праца; яна ў некалькі раз правышае тую, якую царскі ўрад праводзіў сотні год.

Толькі за апошнія некалькі год дзяржаваю асыгнована сродкаў на земляўпарадкаваньне:

| | |
|---|---|
| 1925-24 . . | 422.340 руб. |
| 1925-26 . . | 653.690 „ |
| 1926-27 . . | 981.310 „ |
| Усяго . | 2.057.340 руб. |

Акрамя таго, выдадзен на будынкі крэдыт 1.300.000 р. грашыма і за апошнія чатыры гады адпушчана лесаматэрыялу бяз кошту на 2.559.041 руб. і ў крэдыт за той-жа час на 1.731.562 руб.

Намі праводзіцца вялізарная праца па мэліорацыі і культуры нашых балот. Савецкая ўлада даб'ецца таго, што на Беларусі ўся зямля будзе ўдобнай і на кожным кавалачку зямлі мы будзем бачыць росквіт сельска-гаспадарчай культуры. Толькі за апошнія чатыры гады намі асыгнована сродкаў на гідратэхніку 1.929.684 руб. і гэтымі мерапрыемствамі была выклікана ініцыятыва самаго сялянства, якое ўлажыла сваіх уласных сродкаў на тыя-ж мерапрыемствы 823.283 р.



Асушанае балота Зубараўскага пасёлка Мсьціслаўскага р. У 1927 г. на балоце былі ўжо пасевы.

*У сярэднім у год мы расходвалі 756.849 руб., а царскі ўрад расходваў на гэта ў сярэднім у год 128.113 руб. Такім чынам, нашы выдаткі на мэліорацыю ў шэсьць разоў большыя, чым на гэта адпускалася ў царскія часы.* Тут трэба прыняць пад увагу, што царскім урадам мэліорацыя праводзілася на абшарніцкіх і дзяржаўных землях. Сялянства-ж ня бачыла ніякай карысьці ад мэліорацыі, а цяпер усе мэліораваныя землі пойдуць толькі ў карыстаньне працоўнага сялянства.

Але мы цяпер ставім перад сабою мэтаю ня толькі асушыць балоты, але і правесьці калёнізацыю (засяленьне) гэтых зямель. Раздаўшы ў працоўнае карыстаньне ўсе ўдобныя землі, мы пачынаем організоўваць сельскую гаспадарку на двух мільёнах гэкт. новых зямель, якія раней не скарыстоўваліся.

Пры правядзеньні палітыкі калёнізацыі мы ўжо з сёлетняга году пачалі праводзіць на вялізарных плошчах адразу мэліорацыю і земля-

ўпарадкаваньне, што дае мажлівасьць ліквідаваць зямельную цеснату цэлых раёнаў. Праз мэліорацыю мы да дзесяцігодзьдзя адчынілі новыя багатыя землі. На асушаных балотах заложан цэлы шэраг апорных пунктаў і паказальных вучасткаў з рознымі культурамі, якія даюць у сярэднім такі ўраджай на 1 гэктар:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сена . . . | 400-500 пуд. | Ячмень . . . | 125 пуд. |
| Капуста . . | 3.265 „ | Каноплі . . . | 43 „ |
| Авёс . . | 113 „ | Бульба . . . | 1.659 „ |

Ураджай сам гаворыць аб тым, якую аграмадную каштоўнасьць маюць нашы балоты. У дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі мы павінны сказаць, што ў бліжэйшыя гады мы адваюем два мільёны забалочаных зямель і арганізуем там сельскую гаспадарку.

III

Калясальна вырасла і сялянская самадзейнасьць і актыўнасьць па ўсіх галінах нашага сельска-гаспадарчага будаўніцтва, прычым з кожным годам рост сельскай самадзейнасьці пашыраецца. Возьмем, напрыклад, сялянскую актыўнасьць у галіне мэліорацыйнага будаўніцва.

Рост мэліорацыйных т-ваў.

| ГАДЫ | Лік мэліорацыйных т-ваў | Плошча зямлі (гэкт.) | Лік членаў | % росту |
|---|---|---|---|---|
| 1923-24 . . | 103 | 7.990 | 4.868 | 75 |
| 1924-25 . . | 254 | 38.995 | 13.811 | 146 |
| 1925-26 . . | 425 | 79.666 | 24.746 | 66 |
| 1926-27 . . | 617 | 125.291 | 35.871 | 45 |

Праўда, да гэтага часу мы цалкам не змаглі ахапіць сваім тэхнічным абслугоўваньнем усе гэтыя таварыствы, і само сялянства толькі пачынае прыстасоўвацца да культуры балот. Але ня гледзячы на гэта, такі шырокі ўдзел сялянскай самадзейнасьці па мэліорацыі ёсьць відавочны фактар нашага гаспадарчага будаўніцтва. Дзеля большай яскравасьці дадаю яшчэ некалькі прыкладаў самадзейнасьці нашага сялянства па торфу, агнятрываламу будаўніцтву, сельска-гаспадарчым гурткам, курсам, паказальным вучасткам.

| ГАДЫ | Рост тарфяных т-ваў | Т-ваў па агнятрыв. будаўніц. | Рост с.-г. гурткоў | | Рост с.-г. курсаў | | Рост паказальн. вучас. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | лік | Лік членаў | Лік | Лік слухачоў | |
| 1923-24 . . | — | — | 105 | — | 66 | 3.390 | 1.329 |
| 1924-25 . . | 4 | 7 | 533 | 12.298 | 127 | 6.820 | 1.932 |
| 1925-26 . . | 76 | 31 | 778 | 15 400 | 272 | 13.468 | 3.799 |
| 1926-27 . . | 100 | 36 | — | — | — | — | 3.955 |

Як бачым, па ўсіх галінах ускалыхнулася сялянства. Будуе новую гаспадарку, новую вёску. Вялікая хваля сялянскай актыўнасьці ў вёсцы. За палітычнай рэвалюцыяй у вёсцы пачалася рэвалюцыя ў гаспадарцы.




1923-24 1924/25 1925/26 1926/27 — Рост мэліарацыйных т-в.
1924/25 1925/26 1926/27 — Рост торфяных т-в.

Гаспадарчы ўзрост сельскай гаспадаркі, мерапрыемствы па рэорганізацыі вёскі пасьля вайны і ваеннага камунізму выклікалі з боку сялянства вялікія запатрабаваньні на розныя сродкі вытворчасьці: машыны, угнаеньне. Насенны матэрыял у вялікай колькасьці ўжо патрэбны сялянству. За апошнія гады намі сярод сялянства былі пашыраны сродкі вытворчасьці ў такім разьмеры (паказваю на суму руб.):

| | 1922-23 | 1923-24 | 1924-25 | 1925-26 |
|---|---|---|---|---|
| Цэнтраземсклад . . . . . | 280.000 | 916.359 | 2.710.845 | 3.825.986 |
| Белсельсаюз (без Акрсаюзаў) | — | 46.891 | 671.235 | 1.561.106 |

Яшчэ пакуль што малавата капіталу ў сялянства дзеля таго, каб належным чынам абсталяваць гаспадарку, асабліва ў той час, калі вёскі земляўпарадкоўваюцца. І ўсё-ж такі трэба адзначыць, што вёска за кароткі час абсталявалася сродкамі вытворчасьці больш, чым яна мела ў дарэвалюцыйныя часы. І гэта таму, што ўсе накапленьні ў сельскай гаспадарцы ідуць цяпер не на куплю зямлі, а на організацыю самой гаспадаркі. Пры нацыяналізаванай зямлі разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ідзе хутчэй, чым гэта было пры існаваньні прыватнай уласнасьці на зямлю.

Завоз у вёску сродкаў вытворчасьці і організацыя агранамічнай дапамогі далі мажлівасьць селяніну разгарнуць мерапрыемствы па пераходу на шматпольле і рэорганізацыі палявой гаспадаркі. Намі пераведзена на шматпольле за пяць год 342.565 дзес. З кожным годам пераход на шматпольле павялічваецца.

Прыемна адзначыць і такі факт, як рост сялян-дасьледчыкаў. Організацыя іх была пачата журн. „Плуг“, а далей праходзіла такім чынам:

| | |
|---|---|
| Выяўлена вучастковымі аграномамі . . . | 350 |
| Організована часопісьсю „Плуг“ . . . | 41 |
| „ Дасьледчымі станцыямі . . | 118 |
| „ Н.-Д. Інстытутам . . . | 107 |
| Усяго . . . | 616 |

Пакуль што лік іх невялікі. Але мы бачым, што сялянства ня толькі імкнецца перабудоўваць сваю гаспадарку, але ў гэтай працы пачынае карыстацца агранамічнай навукай.

Наша палітыка ставіць сваёю мэтаю дабіцца ня толькі агульнага ўзросту сялянскай гаспадаркі, але разам з гэтым і накіроўваць дробную гаспадарку па шляху яе абабшчэствленьня, карыстаючыся дзеля гэтага рознымі формамі коопэраваньня, організацыяй розных тэхнічных прадпрыемстваў па перапрацоўцы сельска-гаспадарчай сялянскай сыравіны.

У галіне коопэраваньня мы на дзесятым годзе Кастрычнікавай рэвалюцыі можам сказаць, што сельска-гаспадарчая коопэрацыя, якой да рэвалюцыі на сучаснай тэрыторыі Беларусі зусім ня было, зараз яднала 34,5 проц. сялянскіх двароў. Разам з узростам сельскай гаспадаркі і дзякуючы нашай працы на вёсцы, пачалося пагалоўнае коопэраваньне сялянства.

Праз коопэрацыю мы ствараем больш спрыяючыя ўмовы для сельскай гаспадаркі і дробныя адзінкі сялянскіх гаспадарак пачынаем яднаць па розных галінах у адну гаспадарчую галіну цэлых раёнаў, акруг і рэспублікі, што дае нам мажлівасьць пачаць плянавае будаўніцтва на вёсцы. Праўда, коопэрацыя наша стыхійна вырасла ў кароткі час і таму нельга сказаць, што яна моцная, але-ж самы факт стыхійнага коопэраваньня сьведчыць аб здаровым пачатку нашай працы ў галіне абабшчэствленьня сельскай гаспадаркі.

Сельска-гаспадарчая коопэрацыя пакуль што пашыраецца галоўным чынам у двух напрамках—па крэдыту і збыту-снабжэньню сродкамі вытворчасьці. Вытворчая коопэрацыя пакуль што слаба разьвіваецца, і ўдзельная яе вага да гэтага часу нязначная, а нам неабходна дабіцца таго, каб уся вытворчасьць сялянскай гаспадаркі была коопэравана. Перад намі цяпер стаіць задача — правесьці пагалоўнае вытворчае коопэраваньне сялянскіх гаспадарак.

У момант нашага сьвяткаваньня ўспомнім і аб другой Беларусі, якой пакуль што ўладаюць польскія паны. За ўсе мінулыя дзесяць год становішча рабочага і селяніна там ня толькі не палепшылася ў параўнаньні з царскімі часамі, а, наадварот, яшчэ стала горшым. На сучасным гістарычным прыкладзе ўсёй Беларусі ўсе рабочыя і сяляне бачаць, што дае працоўным Савецкая ўлада і ўлада паноў і капіталістых.

Калі гаварыць аб сялянсьцьве Заходняй Беларусі, дык яно там мае каля 5.000 абшарніцкіх маёнткаў, якім належыць больш 50 проц. усіх зямель. Ня гледзячы на тое, што „аграрных рэформ“ у Польшчы было шмат, а зямлі сялянам не далі; земляўпарадкаваньне правялі толькі на плошчы 11.000 гэкт. і організавалі ўсяго 6 мэліорацыйных т-ваў. Вось і ўсе панскія мерапрыемствы ў адносінах да сялян. Прыгнечаны селянін Заходняй Беларусі няхай зробіць параўнаньне нашых і сваіх мерапрыемств і вырашыць, што яму рабіць.

У нашым сельска-гаспадарчым будаўніцтве мільёны сялян прымаюць актыўны ўдзел у вырашэньні аграрнага пытаньня. Кожны селянін паступова становіцца практыкам-аграномам і коопэратарам. Іх рукамі відавочна ўтвараецца новая сельская гаспадарка.

І мы ў сьвята дзесядзігодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі будзем ня толькі рабіць агляд вынікаў зробленай працы, але і вызначаць далейшыя шляхі гэнэральнай перабудовы вёскі.

**Зьм. Прышчэпаў.**

# Што трэба памятаць селяніну, сьвяткуючы 10-цігодзьдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі.

У агні рэвалюцыі нарадзіўся Кастрычнік і зьнішчыў паноў і фабрыкантаў. Ён перадаў фабрыкі рабочым, якія працуюць на іх і добра спраўляюцца і без „гаспадароў"—фабрыкантаў, а зямля перашла да беднякоў-сялян і яны пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі будуюць на новы лад сельскую гаспадарку.

Паглядзім, што-ж зроблена з ёю за 10 год існаваньня Савецкае ўлады. Небагатую спадчыну пакінула нам царская ўлада. Разбураная вайной сялянская гаспадарка з трохпалёўкай і церазпалосіцай, з сталыпінскімі хутарамі, з старымі спосабамі апрацоўкі зямлі—вось што засталося нам. І наша Савецкая ўлада рашыла грунтоўна перабудаваць сельскую гаспадарку, каб зрабіць яе больш выгаднай. Дзеля гэтага яна пачала рашуча праводзіць земляўпарадкаваньне, пасьля якога замест дзедаўскай трохпалёўкі зьявілася шматпольле з шырокімі паласамі, з павялічаным засевам карысных культурных расьлін. Яна разьбіла веру, што ўраджай залежыць ад бога, і паказала праз нашу сялянскую аграномію, якая пранікла ва ўсе куткі нашай вёскі, што ня бог дае ўраджай селяніну, а лепшая машынная апрацоўка зямлі, розныя ўгнаеньні і палепшанае насеньне.

Утворана была с.-г. коопэрацыя, а яна мае вялікае значэньне ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі, бо толькі праз яе, замест дзедаўскай сахі, а ў лепшым выпадку звычайнага плуга, у нас зьявіліся плугі, пружыновыя і талеркавыя бароны, малатарні, арфы і інш. машыны У колектыўных гаспадарках зьявіўся жалезны конь—трактар. Пры дапамозе с.-г. коопэрацыі насельніцтва мае насеньне, хімічныя ўгнаеньні, а таксама грашовыя пазыкі.

Асушаюцца балоты, каб зьнішчыць малазямельле. Балотаў у нашай Беларусі шмат. Раней яны лічыліся нягоднымі для апрацоўкі пад засевы, цяпер-жа з іх зрабілі добрыя с.-г. вучасткі.

Для бяднейшага сялянскага насельніцтва земляўпарадкаваньне праводзіцца бяз кошту, даюцца ільготы па с.-г. падатку; у кожным раёне ёсьць пункты па ачыстцы насеньня, на якіх сялянства ачышчае сваё насеньне.

Для абслугоўваньня насельніцтва мэдычнай дапамогай у кожным раёне ёсьць больніцы, мэдычныя і вэтэрынарныя пункты. Там сялянам дапамагаюць дактары замест шаптуноў і знахароў (як гэта было раней).

Адчынены працоўныя школы, дзе сялянскіх дзяцей вучаць карысным навукам, а не забіваюць ім галоў рознай драньню.

Організаваны чырвоныя савецкія гаспадаркі, якія паказваюць карысьць розных агрыкультурных мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы.

Прыватнага гандляра, які жыў за кошт пакупацеляў, зьмяніла коопэрацыя. Гаспадаром у ёй сам селянін у якасьці пайшчыка.

Дзякуючы ўсім мерапрыемствам, якія праводзяцца ўладай і тым сродкам, якія яна дае, наша сельская гаспадарка перагнала даваенную. Але гэта яшчэ ня ўсё і спыніцца на гэтым ня можна.

Каб сялянская гаспадарка стала зусім культурнай і даходнай, трэба, каб шырокая сялянская маса стала больш актыўнай. Неабходна, каб само сялянства ў гэтым напрамку праявіла больш ініцыятывы, каб яно не чакала, што за яго нехта зробіць.

І таму, таварышы сяляне, давайце будзем на сваіх сходах у час сьвята Кастрычніка ставіць задачы палепшаньня сельскай гаспадаркі. Будзем выносіць прыгавары аб пераходзе на шматпольле, аб лепшых спосабах апрацоўкі і ўгнаеньня зямлі, гадоўлі скаціны палепшанай пароды, аб арганізацыі т-ваў агнятрывалага будаўніцтва, малочных арцеляй, аб правядзеньні мэліорацыі, аб уступленьні ў коопэрацыю, утварэньні машынных т-ваў.

Толькі дружнай працай нас саміх разам з Савецкай уладай і пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі мы падымем нашу гаспадарку на тую вышыню, на якой яна павінна быць.

Сяляне-вылучэнцы,
члены ЦВКБ **Козыраў і Тафеенка.**

---

# Чым адзначаюць працоўныя БССР 10-цігодзьдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі.

Тут паказваюцца толькі некаторыя з тых прац, якія праводзіліся ў мінулае лета зараз заканчваюцца.

І. **Землеўпарадкаваньне.** 1. У Магілеўскай акрузе пры разьмеркаваньні земфонду створаны—101 пасёлак, 95 хутароў і 3 колектывы на плошчы 15.721 гэкт.

б). Землеўпарадкавана 22 вёскі на плошчы 20.475 гэкт., дзе ўтворана 88 пасёлкаў, 514 хутароў і 2 вёскі на месцы.

в) На сялянскіх землях на плошчы 320,8 дзесяцін організована 2 с.-г. арцелі і 1 камуна.

2. Закончана праца па адбудове паказальнага пасёлку ў Нараўлянскім раёне. Усе будынкі пасёлка крыты чарапіцаю і жалезам і забудованы па пляну. На полі ўведзена шматпольле *(Мазырск. акр.).*

II. **Мэліорацыя**. 1. Праведзен магістральны канал на колфондзе „Мар‘іна“ працягам 11 кілм. і шырынёю 12 мэтр.

2, Урэгулявана рака „Іпуць“ на працягу 3,8 кілм. і адрамантована рака Гроза на працягу 27,1 кілм. *(Магіл. акр.).*

III. **Культуртэхніка**. 1, *Пад‘ельскае* мэліорацыйнае т-ва (Глускі р. Бабр. акр.) закончыла асушку балота на 75 гэкт.

2. *Старобінскае мэліорац. т-ва* (Бабр. акр.) правяло гаспадарчых пасеваў на 200 гэкт. асушанага балота.

3. *Падароўскае т-ва* (Шклоўскі р. Магіл. акр.) узарала трактарам 50 гэкт. балота.

4. *Дрыбінскае т-ва* (Аршанск. акр.) асушыла і ўзарала трактарам 40 гэкт. балота.

IV. **Агнятрывалае будаўніцтва**. 1. Будуць закончаны пабудаваньнем агнятрывалыя будынкі: 5-ці вэтэрынарных пунктаў (м-ка Рассона, Улла, Ліёзна, Коханава, Тураў), 3-х аграпунктаў (Крупкі, Ліёзна, Копыль), 4-х апорных пунктаў на балоце (Котуш, Талачына, Дымоўшчына).

2. Адчыняюцца майстэрні: чарапічна-бэтонная ў Сьмілавічах і ганчарнай чарапіцы ў в. Забалацьце таго-ж р. *(Менск. акр.).*

3. Пабудаваны ў Полацкай акр. 2 вэтэрынарных больніцы агнятрывалага тыпу з 10 будынкаў (Улла і Рассона), 1 школа (Віцебскі р.) і 1 будынак с.-с. (Дырсса).

V. **Індустрыялізацыя.** Белсельтрэстам пускаюцца ў ход 2 крухмальні і 5 броўвараў.

VI. **Электрафікацыя.** 1. У саўхозе „Дойнічава“ пускаецца электрастанцыя сілаю 25 кіловат. Станцыя будзе абслугоўваць 3 вёскі і 1 пасёлак.

2. Закладваецца электрастанцыя пры Палескай дасьледчай станцыі для асьвятленьня станцыі і м-ка Скрыгалава (Мазырск. акр.).

VII. **Аградапамога.** 1. Па Гомельскай акр. праведзен конкурс на лепшы пасёлак. На конкурсе прымала ўдзел 15 пасёлкаў. Прэміі на суму 600 р. палучаюць 4 пасёлкі.

VIII. **Жывёлагадоўля** Адчыняюцца два сьвіназаводы ў Вымна і Падбярэзьзі (Віцебскай акр.).

IX. **Вэтэрынарыя.** 1. Адчыняецца 9 новых вэтэрынарных больніц (Койданава, Заслаўе, Плешініца, Парычы, Любань, Старобін, Чэчэвічы, Чаўсы, Сіроціна, Ворша) і 4 новых вэтамбуляторыі (Заслаў‘е, Смалявічы, Шацк, Каралін).

X. **С.-г. коопэрацыя.** 1. Адчыняецца ў гор. Віцебску II-я Ўсебеларуская малочная выстаўка.

2. Адчыняецца масласыраварны завод ў Новасацкай малочнай арцелі, Койданаўскі р. (вытворчасьць 1.500 пуд. сыра і 120 п. масла).

3. Організуюцца і адчыняюцца курсы па рахункаводзтву для колхозаў.

4. Адчыняюцца ў гэты дзень (намечаныя па пляну) машынныя і іншыя т-вы.



Арлова-амэрыканскі рысак на беларускім конзаводзе.




# Дасягненьні ў галіне земляўпарадкаваньня, сельскага будаўніцтва, мэліорацыі, скарыстаньні торфу і рыбнай гаспадарцы.

*(Да 10-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі).*

Рабочыя ў саюзе з працоўным сялянствам і пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі зрабілі Кастрычнікавую рэвалюцыю ў 1917 г.

Рэвалюцыя прагнала фабрыкантаў-капіталістых і абшарнікаў, прыдушыла кулака.

Зараз падыходзіць 10-я гадавіна Кастрычніка і трэба падлічыць, што зроблена дзяржаваю рабочых і сялян у адбудове і перабудове сельскай гаспадаркі. Заўважым, што на Беларусі сталая гаспадарчая праца пачалася толькі з 1921 году. Да гэтага часу прыходзілася змагацца з акупантамі немцамі, бела-палякамі і рознымі бандытамі. Уся зямля на абшарах сучаснай БССР да 1917 г. разьмяркоўвалася так:

| | | |
|---|---|---|
| У карыстаньні сялянства было | 6.816.000 гэкт. | —54,3 проц. |
| „ памешчыкаў „ | 4.836.000 „ | —38,5 „ |
| Іншых зямель . . . | 903.000 „ | — 7,2 „ |
| Усяго . . | 12.555.000 гэкт. | —100 проц. |

Зараз-жа агульная плошча зямель Савецкай Беларусі разьмяркоўваецца па карыстаньнях так:

| | | |
|---|---|---|
| 1. Працоўнае сялянскае карыстаньне і запасны фонд . . . . . | 8.178.000 гэкт. | —65,2 проц. |
| 2. Дзяржаўны лясны фонд . . . | 3.263.000 „ | —26 „ |
| 3. Лясы мясцовага значэньня . . . | 492.000 „ | — 3,9 „ |
| 4. Дзяржаўная зямельная маемасьць (саўхозы, рыбн. гаспадаркі, буйныя вазёры, тарфяныя балоты і інш. . . | 400.000 „ | — 3,2 „ |
| 5. Землі спэцыяльнага прызначэньня і гарады . . . . . . | 222.000 „ | — 1,7 „ |
| Усяго . . . | 12.555.000 гэкт. | —100 проц. |

Такім чынам плошча зямлі, якую фактычна атрымала сялянства ў выніку рэвалюцыі, ёсьць 1.854.000 гэкт. (уключаючы лясы мясцовага значэньня). Акрамя таго, дзяржава вядзе лясную гаспадарку на 2.263.000 г. і здавальняе патрэбы прамысловасьці і мясцовага насельніцтва ў драўніне.

Усю плошчу зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня Савецкая ўлада імкнецца скарыстаць як найлепш, для чаго яна праводзіць мерапрыемствы, на галаўнейшых з якіх трэба спыніцца.

**Земляўпарадкаваньне.** Плянавая праца па ўпарадкаваньню зямель працоўнага карыстаньня вядзецца з 1922 году. Мэта земляўпарадкаваньня — зьнішчэньне заблытанасьці ўнутрыселішчнага землякарыстаньня і, галоўным чынам, гаспадарчага ўпарадкаваньня зямель: перавод на шматпольле, організацыя пасёлкаў і г. д. Гэтай працы перашкаджае надзвычайнае малазямельле Беларусі. Каб зьменшыць яго і даць зямлю беззямельным і малазямельным, з 1925 году вядзецца



Канава на балоце пасёлка „Перадавы Беларус" (*Магілеўск. акр.*).

спэцыяльная работа па адшуканьню зямельнага фонду; ён ужо складае 718.500 гэкт. 3 мая 1925 г. вядуцца работы па яго разьмеркаваньню і ўпарадкаваньню (на жаль 109.500 гэкт. з гэтага фонду могуць быць скарыстаны толькі пасьля мэліорацыі). Да 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі будзе канчаткова разьмеркавана і ўпарадкавана 305.700 гэкт., на якіх разам з бягучым годам будзе надзелена 14.920 двароў і данадзелена 52.560 малазямельных двароў. Уся работа па землянадзяленьню выканана выключна за кошт дзяржавы і на яе патрачана 484.540 руб. Рэшта працы па землянадзяленьню будзе закончана да 1-га красавіка 1929 году.

Сталыпінскае земляўпарадкаваньне імкнулася разьбіць „непакойную" вёску на хутары і замацаваць уласнасьць на зямлю багацейшых земляробаў, а Савецкая ўлада наадварот праводзіць земляўпарадкаваньне, каб надзяліць зямлёю бяднейшых земляробаў і адабраць лішкі зямлі ў заможнікаў. За дзяржаваю пакінуты невялікія плошчы зямель (117.345 гэкт.), на якіх організаваны савецкія гаспадаркі, дасьледчыя станцыі, конскія, сьвіныя заводы і іншыя асяродкі буйнай гаспадаркі. Адсюль сялянская гаспадарка карыстаецца дапамогаю насеньнем, інвэнтаром і інш. Упарадкаваньне тэрыторыі сялянскіх гаспадарак ідзе надта шпарка, і да 1-га кастрычніка 1926 году ім ахоплена 208 650 двароў з усіх 802.330 двароў БССР. І гэта праца пачалася з 1922 г. Між

тым, да рэвалюцыі за 8 гадоў (з 1907—1915 г. г.) земляўпарадкавана было ўсяго 106.780 двароў. Па плошчы гэта будзе так:

Да рэвалюцыі за 8 гадоў (1907—15 г.) упарадкавана 866.750 гэкт.
Пасьля рэвалюцыі за 5 г. (1922—26 г. I. X.) „ 2.112.840 „

Савецкая земляўпарадкаваньне пашыраецца з году ў год.

За 1925-26 г. упарадкавана . . . 404.400 гэкт.
„ 1926-27 г. намечана ўпарадкаваць . 492.200 „
„ 1927-28 г. мяркуецца „ . . 640.000 „

Усяго да 10-цігодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі будзе земляўпарадкавана па БССР 2 605.000 гэкт., што складае ад усей плошчы зямель, падлягаючых упарадкаваньню . . . 29,6 проц.
Да рэвалюцыі было ўпарадкавана ад усяе плошчы . 9,8 „
Агульны процант земляўпарадкаванасьці БССР . 39,4 „

Да 1926 г. сярод упарадкаваных зямель сялянскія складалі 83 проц., а ў бягучым годзе 85,5 проц. ад упарадкаванай плошчы.

Формы землякарыстаньня, якія выбірае сабе сялянства, можна бачыць з таго, што на плошчы зямель упарадкаванай пасьля рэвалюцыі да I. X. 1926 г. створаны:

| №№ | Формы землякарыстаньня | На плошчы | % да сялянскіх зямель | % да ўсёй упарадк. плошчы |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Калектывы . . . . . . . . | 54.745 гэкт. | 3,26 | 2,5 |
| 2. | Пасёлкі . . . . . . . . . | 873.030 „ | 52,02 | 41,4 |
| 3. | Упарадкаваныя на месцы вёскі з разьбіўкай на шматпольле і шырокія палосы . | 233.900 „ | 13,93 | 11,1 |
| 4. | Хутары і адрубы . . . . . . | 347.885 „ | 20,73 | 16,5 |
| 5. | Прырэзкі да існуючых вёсак (не земляўпарадкаваных) . . . . . . . | 168.760 „ | 10,06 | 7,9 |
| 6. | Дзяржаўная зямельная маемасьць вучасткаў спэц. прызначэньня і ўпарадкаваньня гарадоў . . . . . . . | 434.520 „ | — | 20,6 |
| | Усяго . . . | 2.112.840 гэкт. | 100 | 100 |

З гэтае табліцы відаць, што групавыя формы (пасёлкі і колектывы) складаюць 69 проц. ад агульнай плошчы зямель упарадкаваных дзеля сялянства, у той час як хутары і адрубы складаюць 21 проц.

Паказанае разьвіцьцё форм землякарыстаньня забясьпечвае магчымасьць коопэраваньня ўпарадкаванай вёскі і паступовага разьвіцьця ў ёй соцыялістычных форм гаспадараньня. У пасёлку пры земляўпарадкаваньні ў апошнія тры гады кожны паасобны двор атрымоўвае па 1-2 шырокай паласы ў кожным полі шматпалёвага севазвароту і сядзібу.

Разам з ростам земляўпарадкаваньня кожны год павялічваюцца і сродкі, якія затрачваюцца дзяржаваю на гэту справу. Так патрачана дзяржавай:

| | | |
|---|---|---|
| У 1924-25 г. | . . | 422.340 руб. |
| „ 1925-26 г. | . . | 653.690 „ |
| „ 1926-27 г. | . . | 981.310 „ |

З 1-га кастрычніка 1926 г. ўсе выдаткі па земляўпарадкаваньню ў БССР прыняты на дзяржаўны бюджэт, а паступаючая ад насельніцтва плата за земляўпарадкаваньне ідзе ў прыбытак скарбу. Усе работы па разьмеркаваньню запаснага фонду беззямельным і малазямельным сялянам, а таксама 35 проц. работ па ўнутрыселішчнаму земляўпарадкаваньню праводзіцца бясплатна.

| | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|
| На гэта ільготнае земляўпарадкаваньне было адпушчана дзяржаваю . . | 67.300 р. | 132.500 р. |

За гэтыя сумы аслабаняюцца ад платы бедняцкія гаспадаркі а серадняцкія гаспадаркі для гэтай мэты карыстаюцца кароткатэрміновым крэдытам. Да 1-га кастрычніка 1927 г. адпушчана 552.000 руб.

Пры земляўпарадкаваньні бяднейшыя двары палучаюць зямлю пераважна пры старых сядзібных мясцох. Тыя-ж бяднейшыя гаспадаркі, якія пераносяць свае будынкі, палучаюць на ільготных умовах для будоўлі лес. За апошнія тры гады дапамога земляўпарадкаванай беднаце лесам была такой:

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|
| а) ільготна і бясплатна на суму . . . | 1.127.313 р. | 822.728 р. | 309.000 р. | 300.000 р. |
| б) у крэдыт праз сыстэму Сельбанку . . | 144.162 р. | 219.400 р. | 618.000 р. | 750,000 р. |

Для адбудовы гаспадарак на новых мясцох даецца доўгатэрміновы крэдыт (да 10-ці год).

| | | |
|---|---|---|
| 1925-26 г. | . . | 680.000 руб. |
| 1926-27 г. | . . | 350.000 „ |

Апрача таго, створан спэцыяльны фонд крэдытаваньня беднаты 290.000 р.

Гаспадаркі, якія перасяляюцца з старых сядзіб пры земляўпарадкаваньні аслабаняюцца ад с.-г. падатку ад 1 да 3 год.

*Земляўпарадкаваньне працоўных яўрэяў.* Законамі царскага ўраду яўрэйскае насельніцтва на Беларусі прымушана было жыць у гарадох і мястэчках, займацца галоўным чынам гандлем і амаль ня мела магчымасьці займацца земляробствам. Да Кастрычнікавай рэвалюцыі яўрэі-земляробы складалі толькі 3 проц. ад ўсяго яўрэйскага насельніцтва Беларусі. У іх карыстаньні было 11.500 гэкт. зямлі.

Камуністычная партыя і Савецкая ўлада, якія вырашаюць нацыянальнае пытаньне ня толькі палітычна, але і эканамічна, паставілі сваёй мэтай уцягнуць яўрэйскае жыхарства ў вытворчую працу, зрабіўшы іх земляробамі.

Пастановай ЦВК БССР у 1924 г. быў зроблен першы крок к плянаваму правядзеньню надзяленьня яўрэяў зямлёю і дапамозе ім заснаваць сельскую гаспадарку. Да выданьня пастановы ЦВК у БССР

яўрэяў-земляробаў ужо было 5.707 сем'яў з 32.253 ядакамі, якія мелі ў сваім карыстаньні 29.336 гэкт. Паасобна карысталася зямлёю 5.374 сям'і, а 333 сям'і карысталіся 4234 гэктарамі ў 45 колектыўных гаспадарках. К 10-й гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі яўрэйскае земляробства налічвае ўжо 7951 сям'ю, у карыстаньні якіх знаходзіцца 54.054 гэкт. зямлі. У 169 колектывах на плошчы 20.686 гэкт. жывуць 1.399 сем'яў.

Такім чынам, за тры гады пасьля пастановы ЦВК колькасьць сем'яў уцягнутых у земляробства вырасла на 40 проц. Шпаркае разьвіцьцё яўрэйскага земляробства, асабліва калектыўных яго форм, сьведчыць аб тым, што яўрэі могуць быць добрымі земляробамі.

Адначасна з надзяленьнем зямлёю ў БССР праводзіцца перасяленьне яўрэяў у іншыя раёны СССР. За апошнія тры гады пераселена 1862 сям'і.

Сацыяльны склад земляўпарадкаваных яўрэяў наступны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Рабочых . . . . . | 1,9 проц. | Бяз пэўных заняткаў | 1,7 проц. |
| Саматужнікаў . . . | 26,7 „ | Іншыя . . . . . . | 1,7 „ |
| Земляробаў . . . . | 41,7 „ | Сярод іх выхадцаў з мястэчка . . . . . | 63,3 „ |
| Гандляроў . . . . | 13,3 „ | З вёсак . . . . . | 10,9 „ |
| Іншых працоўных . . | 13,3 „ | Акруговых і быўш. павят. гарад. . . . | 23,8 „ |
| | | Іншыя . . . . . . | 1,7 „ |

Як відаць, большасьць надзельных яўрэяў адносяцца да працоўных пластоў жыхарства.

**Перасяленьне.** Вельмі гострае беззямельле і малазямельле, з аднаго боку і ўціск пана і ўрадніка з другога, у царскія часы гнала з Беларусі шырокую хвалю перасяленцаў на акраіны Расіі, асабліва ў Сібір і Д. Усход.

За час з 1896 г. па 1914 г. з Беларусі перасялілася за Урал 458.359 душ, што складала 11,33 проц. ад агульнага ліку сельскага насельніцтва. Вайна, а потым рэвалюцыя спыніла перасяленьне, але к 1925 г. яно зноў аднавілася. У рэвалюцыйны час беларусам перасяляцца не патрэбна было, бо тут дома звыш мільёна гэктараў зямлі быўшых паноў перайшла к сялянам. Аднак тыя сяляне, у якіх пры дастатку рабочых рук ня так шмат было зямлі, сталі імкнуцца ў Сібір і Д. Усход. К 1925 г. перасяленчаскі рух стаў досыць шпаркім. Асабліва ішлі перасяленцы з Беларусі, бо яна зьяўляцца краінай перасялянай.

17-га кастрычніка 1924 году Савет Працы і Абароны СССР прыняў пастанову „аб бліжэйшых задачах калёнізацыі і перасяленьня“, дзе былі сфармаваны асноўныя задачы калёнізацыі і перасяленьня.

Прымаецца шэраг мерапрыемстваў да высьвятленьня маючыхся фондаў для засяленьня, падрыхтоўкі новых фондаў і г. д. Упарадкаваньне перасяленчаскага руху на Беларусі дало магчымасьць выявіць лік жадаючых перасяліцца. За час з 1924 г. па 1-IV-1927 г. усіх заявак на перасяленьне паступіла ад 162.276 душ, але па не дахопу гатовых фондаў здаволіць можна было толькі 55.000 душ., хаця Саюзны ўрад вядзе вялікую работу па пабудове чыгунак, грунтовых шляхоў, абсушцы забалочаных зямель і інш. з мэтаю ў самы кароткі час упарадкаваць перасяленцаў. Аднак падрыхтованых фондаў хопіць толькі

на 1/3 жадаючых перасяліцца. Таму, набывае асаблівую ўвагу палепшаньне сваей гаспадаркі—пераводам яе на шматпольле, увядзеньнем тэхнічных працаёмкіх культур з тым, каб лішкі працоўнай сілы скарыстаць у самой сельскай гаспадарцы.

**Сельскае будаўніцтва.** Значная гарымасьць вёскі, нездавальняючыя санітарныя ўмовы, у якіх жыве селянін, патрабуюць шырокага разварочваньня мерапрыемстваў па зьнішчэньню гэтых недахопаў. Наш селянін прывык жыць так, як жыў дзед; падругое, слабая лясістасьць некаторых раёнаў Беларусі не дазваляла дасягнуць значных вынікаў у сельскім будаўніцтве. Але ўсё-ж, пачынаючы з 1924-25 г. праца тут шпарка пашыраецца.

| ШТО ЗРОБЛЕНА | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|
| 1. Расплянавана пасёлкаў . . . | 27 | 45 | 300 |
| 2. Пабудована бэтонных студняў . | 50 | 207 | 975 |
| 3. Організована т-ваў па агнятрывал. ламу будаўніцтву . . . . . | 7 | 31 | 36 |
| 4. Выраблена чэрапіцы (тыс.) . . | 140.5 | 220 | 1604 |
| 5. Пустацелых бэтонных каменьняў (тыс.) . . . . . . . . | 8,39 | 21 | 63 |
| 6. Бэтонных калец для студняў . | 815 | 4341 | 13184 |
| 7. Вапны тон . . . . . . . | — | 44,73 | 1040 |
| 8. Чырвонай цэглы (тыс.) . . . | 112 | 2158 | 7370 |
| 9. Пабудадавана агнятрывалых стрэх | 42 | 162 | 833 |
| 10. „ „ будынкаў | 12 | 61 | 244 |

Асыгнаваньні і крэдыт на агнятрывалае будаўніцтва таксама павялічваюцца па гадох:

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. (па пляну). |
|---|---|---|---|
| 1. Сродкаў з сум Белдзяржстраху і па мясц. бюджэту (руб.) . . . | 11.000 | 26.000 | 27.000 |
| 2. Крэдыту ад Лесельбанку . . . | 25.000 | 60.000 | 285.000 |

У далейшым работа па сельскаму будаўніцтву будзе разьвівацца яшчэ больш шпарка ў напрамку таннага агнятрывалага будынку і з матэрыялаў, якія знаходзяцца пад рукою ў сялян. Тэхнічная дапамога сялянству забясьпечваецца дзяржаваю дарэмна.

**Мэліорацыя** *(Сельска-гаспадарчая гідратэхніка)*. Зямельная цесната, малыя ўраджаі, недахоп корму (нармальна для жывёлы не хапае 104 мільёнаў пуд. штогодна) пры жывёлаводным ухіле нашай гаспадар-

кі, агульная беднасьць сялянскае гаспадаркі ў Беларусі і высокі прырост насельніцтва (2,3 проц.)—усё гэта вымагае шпаркага пашырэньня мэліорацыйных работ і шырэйшага скарыстаньня нашых балот. А іх ня мала ў нас. Толькі Ноўгарацкая, Архангельская ды Астраханская г. маюць большы процант няўжыткоўных зямель, чым Беларусь. У сярэднім процант забалочанасьці па БССР дае 16,4 проц., а ў Паўднёвай і Паўднёва-заходняй частцы даходзіць да 30 проц.

У сярэднім на адну сялянскую гаспадарку выпадае 2,5 дзес. балота, а на душу сельскага насельніцтва—0,46 дзес. Балоты складаюць да зямель с.-г. карыстаньня 30 проц.
„ ральлі . . . . . . . 48 „

Балот мы маем 2.131.000 гэкт. Характэрызуюцца яны так:

Балот нізінных і пераходнага тыпу, якія лёгка можна ўцягнуць у сельска-гаспадарчы зварот—75 проц., махавых (скарыстаць, якія пакуль што цяжка)—25 проц.

Вось, чаму адным з важнейшых мерапрыемстваў зьяўляецца мэліорацыя.

Экстэнсыўнае асушэньне ў Беларусі праводзілася досыць шпарка



Канал на Мар'інскім колфондзе, па велічыні першы ў СССР (11 клм.).

яшчэ царскаю ўладаю і абшарнікамі ў мэтах павялічэньня непрацоўнага даходу ад лясоў і балотных сенажацяй і закранула каля 400.000 дзес. па ўсяму быўш. Палесьсю.

Выконвала гэту працу, так званая Заходняя экспэдыцыя Жылінскага з 1873 па 1897 г. Далей кіраўніцтва работамі перайшло да б. Кіраўніцтва земляробства і дзяржаўнае зямельнае маемасьці і работы праводзіліся да 1915 г.

Дзяржаўныя крэдыты на мэліорацыйныя работы расьлі так:
1907 г.—27.835 руб. 1914 г. 265.335 руб.

У 1915 годзе крэдыты падаюць да 227.036 руб. На гэтым і зусім спыняецца праца з прычыны імпэрыялістычнай вайны. Спыняюцца ня толькі мэліорацыйныя работы, але наадварот у мэтах вайны запруджваецца надта шмат каналізаваных рэк, вялікіх і малых каналаў, і асушаныя балоты зноў забалачваюцца.

Цяпер-жа шмат сіл і сродкаў трэба траціць на адбудову зробленага да вайны і вельмі патрэбнага цяпер, бо канавы і рэчкі гэтыя праходзяць на абшарах, якімі карыстаюцца цяпер сяляне або якія ўваходзяць у дзяржаўны лясны фонд.

Царскаю уладаю за доўгі час з 1873 па 1917 г. было затрачана: 6.263.271 руб. на асушку ўсяго Пінскага Палесься, а на сучасную тэрыторыю БССР адышло работ да 5.693.944 руб. (10 проц. застаецца ў Заходняй Беларусі).

Разьмеркаваньне царскіх крэдытаў па гадох было такім:

| ГАДЫ. | Сума | | Сярэдняя на 1 год |
|---|---|---|---|
| | руб. | кап. | |
| 1874-1880 г. адпушчана . . | 673517 | 60 | 96217 |
| 1881-1890 „ „ . . | 1363252 | — | 136325 |
| 1891-1897 „ „ . . | 1046976 | — | 149568 |
| 1898-1902 „ „ . . | 132488 | — | 26498 |
| 1903-1991 „ „ . . | 243838 | — | 34834 |
| 1910-1917 „ „ . . | 1106336 | — | 138292 |

Такім чынам на год у сярэднім трацілася 128.113 руб.

Царская і грамадзянская вайна амаль зусім спыніла работу па мэліорацыі і толькі некалькі организаваных таварыстваў вялі нязначныя работы ў 1921-22 годзе.

1923 год зьяўляецца пачаткам мэліорацыйных работ на Беларусі, калі Савецкая дзяржава ўзяла на сябе кіраўніцтва работамі, як дзяржаўнымі, так і работамі мэліорацыйных т-ваў і шпарка стала павялічваць тэмп работ.

Дзяржава ўзяла на сябе рэгуляваньне рэк, пракладку магістральных каналаў, а больш дробную сетку асушыцельных канаў і далейшыя работы па скарыстаньні балота вядуць мэліорацыйныя таварыствы пры дарэмным кіраваньні тэхнікаў і пры дапамозе дзяржавы доўгатэрміновым крэдытам, інвэнтаром і інш.

Самадзейнасьць насельніцтва ў скарыстаньні балота шпарка расьце, што відаць з наступнага:

| ГАДЫ. | Лік мэліорацыйных т-ваў | Плошча зямлі | Лік членаў | Проц. узросту |
|---|---|---|---|---|
| 1923-24 . . . . | 103 | 7990 | 4868 | 75 |
| 1924-25 . . . . | 254 | 38995 | 13811 | 146 |
| 1925-26 . . . . | 425 | 79666 | 24746 | 66 |
| 1926-27 . . . . | 617 | 125291 | 35871 | 45 |

Праца, якая праведзена т-вамі і неорганізаваным насельніцтвам паказана ў табліцы:

| ГАДЫ | | Прарыта канаў кл. | Выкінута зямлі к. м. | Кошт работы ў руб. |
|---|---|---|---|---|
| 1924-25 | Таварыств. . | 356 | 328929 | |
| | Неорганізав. насельніц. . | 675 | 370823 | 204.898 |
| 1925-26 . . . . . . | | 676,5 | 669522 | 214.285 |
| 1926-27 (па пляну) . . | | — | 1270000 | 404.000 |

За гэты-ж час зроблена дзяржаваю.

| ГАДЫ | Рэгул. рэк (кілм.) | Выкінута зямлі к.м. | Прарыта каналаў кілм. | Выкінута зямлі к.м. | Адрамант. канаў | Выкінута зямлі к.м. | Ахоплена вадапрыем. гэкт. | Асушана гэкт. | Кошт работы руб. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1923-24 розныя дробныя работы . . . . . | — | — | — | — | — | — | — | — | 11566 |
| 1924-25 . . . . . . | 76,34 | 307716 | 11,86 | 52262 | 47,87 | 122230 | 21160 | 2830 | 241707 |
| 1925-26 . . . . . . | 114,5 | 448022 | 16,26 | 67621 | 130,65 | 114603 | 34247 | 7737 | 366103 |
| 1926-27 (па пляну) . . | 122,42 | 380755 | 55,00 | 92452 | 81,5 | 98467 | 46700 | 8521 | 336267 |

Апрача таго, на арганізацыю 6 апорна-балотных пунктаў і на правядзеньне гідратэхнічных работ затрачана 22.138 руб. 10 кап. Таксама праведзены гідратэхнічныя працы на Горацкім вопытна-асушыцельным вучастку, у Варонецкім с.-г. тэхнікуме, Палескай дасьледчай станцыі, Забалацкай балотнай гаспадарцы на суму 35.550 р. 36 к.

Праца па гідрамэтрыі на суму 17.234 р. 88 кап.

Але асабліва трэба падкрэсьліць работы па асушцы буйных балотных масываў з мэтаю засяліць іх і заснаваць выключна сельскую гаспадарку. Спроба гэтай работы вядзецца на плошчы балота у 7787 гэкт. у быўш. саўгаспадарцы „Мар'іна" у Бабр. акр., басэйне р. Арэсы з агульнага масыва балот каля 100.000 гэкт. Дзікае балота перасечана ўжо дарогаю на працягу 11 кілм., што насельніцтву дало магчымасьць езьдзіць проста, а не кружыць на 30 кілм.

Дарога абышлася ў 49289 руб. і пабудавана за восень 1926 г., вясну і лета бягучага 1927 г.

Балотны масыў гэты перасякуць некалькі каналаў, галоўным з іх па шырыні і даўжыні зьяўляецца канал № 1, самым буйным у СССР (стар. 18). Пракапалі яго ўвосень 1926 г. 2 клм. і сёлета 11 клм.; застаецца яшчэ пракапаць 7 клм. (Затраты ў саўгаспадарцы „Мар'іна" 202.596 р. 43 к.).

Асушка гэтага масыву ў 7787 гэкт. па пляну павінна быць скончана ўлетку 1931 г. Ужо асушана каля 24-х гэкт. Вясною 1928 г. гэта плошча будзе заарана і к восені некалькі сямей беднякоў пачнуць закладаць гаспадаркі на асушаным дзяржаваю балоце.

Гэты першы вопыт ня будзе толькі спробаю, бо за работамі на „Мар'іна" шпарка падганяюцца работы па земляўпарадкаваньні і мэліорацыі буйнага масыву балота ў басэйне ракі Талькі і яе прытока Суцінкі. (Пухавіцк. р., Менск. акр.) на плошчы каля 20.000 гэкт. Гэта работа больш значная і выконваецца яна адначасова і дзяржаваю і насельніцтвам.

Таксама ўжо падрыхтована яшчэ некалькі масываў (на тысячы гэктараў) у Мазыршчыне, Гомельшчыне, дзе з вясны 1928 г. разгарнуцца работы па падрыхтоўцы балота для засяленьня.

Усяго Савецкаю дзяржаваю затрачана на гідратэхнічныя работы 1.929.684 р. і насельніцтвам на 823.283 руб. Такім чынам у сярэднім на адзін год з 1924 па 1927 г. трацілася на гідратэхніку:

| | |
|---|---|
| 1) насельніцтвам, аб'яднаным у мэліорац. т-вы | 274.423 руб. |
| 2) дзяржаваю . . . . . . | 482.421 „ |
| Усяго . . | 756.844 руб. |

Гэта выходзіць на 628.736 руб. больш, чым траціла царская ўлада, або ў сярэднім у 6 разоў больш.

Апрача таго, мэліорацыйным т-вам на гідратэхнічныя работы выдадзена крэдыту:

| | Доўгатэрміновага | Кароткатэрміновага |
|---|---|---|
| у 1924-25 г. . | — | 27.000 |
| у 1925-26 г. . | 128.700 | — |
| у 1926-27 г. . (па пляну) | 166.500 | — |

Рэгуляваныя рэкі і пралажаныя Савецкаю дзяржаваю каналы ахапілі 102.107 гэкт. балот, дзе асушана экстэнсыўна 19.088 гэкт. Насельніцтвам жа асушана экстэнсыўна 30.648 гэкт. і інтэнсыўна—1746 гэкт.

Каб больш дасканала праводзіць мэліорацыйныя работы і кіраваць работамі таварыстваў, а таксама, каб вывучыць, як мэтады выпаўненьня саміх работ, так і ўмовы пры якіх мэліорацыйныя работы будуць найбольш карыснымі, увесь час вядзецца навуковае вывучэньне нашых балот і вод [1]).

Таксама ўвесь час вядзецца складаньне мэліорацыйных проектаў. Паступовае іх павялічэньне па гадох такое:

| ГАДЫ | Зроблена ізысканьняў клм. | На плошчы | | Кошт у рубл. | % павялічэньня |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Дзярж. | Сялянск. | | |
| 1924-25 . . | 4542 | 67992 | 20307 | 31292 | — |
| 1925-26 . . | 7017 | 64813 | 31733 | 38543 | 19 |
| 1926-27 . . | 7117 | 71100 | 29862 | 52499 | 27 |

[1]) Па некаторых пытаньнях мы ўжо маем надрукаваныя працы (гл. выданьні Кіраўмэліазема Наркамзему БССР).

Проекты складаюцца на ўвесь басэйн пэўнай ракі, чым дасягаецца мажлівасьць прыступіць да асушкі і скарыстаньня усяго балота ў плянавым парадку, ведаючы адразу, што і дзе будзе рабіцца на шэраг гадоў наперад.

Шпаркі ўзрост работ і неабходнасьць выконваць іх найхутчэй прымушае шукаць больш танных спосабаў павялічэньня мэліорацыйных работ. Дзеля гэтага ў бягучым годзе з Нямеччыны дасталі пакуль што дзьве землячарпалкі, адна з якіх ужо складзена і можа быць спушчана на раку Арэсу. Кошт двух землячарпалак 50338 руб.

Апрача таго, выпісаны і прыбываюць з-за межаў 2 плугі (па 2500 р.), для рыцьця невялікіх канаў. Цягнуць іх будзе трактар. Прымаюцца і іншыя меры да мэханізацыі мэліорацыйных работ.

Прыступлена да складаньня гэнэральнага пляну мэліорацыі БССР, з разьлікам выканаць яго ня больш, як у 15 год. Агульны кошт яго выкананьня патрабуе асыгнаваньняў 63 мільёнаў руб. і доўгатэрміновага крэдыту 55 мільёнаў руб.

**Культуртэхніка.** Культуртэхніка дапаўняе мэліорацыю, бо яна організуе і вядзе працу па падрыхтоўцы і скарыстаньню балот.

Да 1915 г. культуртэхнічныя мерапрыемствы ў БССР праводзіліся толькі на землях памешчыкаў, але разьмер іх ня выходзіў за межы спроб. Гаспадарчай вартасьці яны ня мелі.

Культуртэхнічныя мерапрыемствы сялянскіх зямель пачалі ажыцьцяўляцца больш дакладна з 1914 г. земствамі, але таксама далей закладкі паказаных вучасткаў ня ішлі. Вайна спыніла ўсе пачынаньні.

З 1923 году пры Савецкай уладзе культуртэхнічныя мерапрыемствы прымаюць іншы напрамак. Само насельніцтва пачынае бурна прымацца за культуру сваіх балот, для чаго організуюцца мэліорацыйныя таварыствы. Рост іх за 4 гады дасягае 617.

Нічога падобнага да такой організацыі насельніцтва ня было раней. Памешчыку такая організацыя была нявыгадна, бо ён страціў-бы танную рабочую сілу, калі-б селянін пачаў сеяць інтэнсіўныя культуры і ўсе лішкі сваіх сіл траціў-б у сваёй гаспадарцы. Да памешчыка ён пашоў-бы тады выпадкова і па дарагой цане. Такім чынам, палітыка царскае ўлады старалася штучна трымаць сялянскую гаспадарку поўгалоднаю.

За час працы мэліорацыйных т-ваў імі зроблена наступнае:

| | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. (па пляну) |
|---|---|---|---|---|
| Высечана хмызьняку | 3000 | 2115 | 1101 | — |
| Выкарчавана пнёў . | — | 494 | 683 | — |
| Зрэзана куп'я . . | — | 208 | 317 | — |
| Сплянавана . . | — | 10 | 111 | — |
| Узорана . . . | — | 106 | 173 | 1588 |
| Засеяна папярэднімі культурамі . . | — | — | 110 | 500 |
| Залужана . . | — | 2,5 | 32 | 100 |
| Забаранавана . . | — | — | 183 | 3000 |
| Угноена . . . | — | — | 87 | — |
| Агульны кошт работ насельніцтва . | 12000 | 108277 | 82625 | 200000 |

Дзяржаваю трацяцца сродкі і на разьвіцьцё культуртэхнічных мерапрыемстваў. Па гадох яны былі:

| | | |
|---|---|---|
| 1924-25 г. | . . | 10.633 руб. |
| 1925-26 „ | . . | 82.341 „ |
| 1926-27 „ | . . | 125.566 „ |

За гэтыя сумы адчынена 38 пракатных пунктаў балотна-лугавых машын і прылад (плугі, каткі, лугавыя бароны, трактары і інш.). Насельніцтва карыстаецца імі дарэмна.

Пачынаючы з 1926 г., закладаюцца паказальныя вучасткі. У 1926 г. было закладзена 162 паказальных вучасткі па культуры балот і лугоў на плошчы 79 гэкт. у 150 мэліорацыйных т-вах і адчынена пяць апорных пунктаў па культуры балот, дзе насельніцтву паказваюцца розныя прыёмы і мэтады культуры балот. У 1927 г. частка пунктаў приступіла да нармальнае працы.

Пэрсонал працуючы па культуртэхніцы ўзрастае так:

| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|
| У цэнтры . . . | 1 | 1 | 2 | 2 |
| У акругах і раёнах . | 4 | 24 | 34 | 57 |

Ад прынятых мерапрыемстваў ажывілася і дзейнасьць мэліорацыйных т-ваў. У 1925 г. працавала толькі 170 т-ваў, у 1926 г. ужо 311, у 1927—617.



Авёс на балоце Падзеркоўскага мал. т-ва. Здымак А. Гэрасімавай.

Уся праца ў таварыствах як па асушцы, так і па культуры праводзіцца на падставе даных, устаноўленых Менскай балотнай станцыяй.

Асабліва інтэнсыўна працуе Старобінскае яўрэйскае мэліорацыйнае т-ва. К 1-му кастрычніку 1926 г. пры 34 членах яно асушыла 245 гэкт., з якіх асушана дранажом 27 гэкт., раскарчована 70 гэкт., узорана і засеяна living рознымі культурамі 31 гэктар.

Каб паказаць насельніцтву, якія вынікі можна атрымаць на асушаным балоце, штогодна організуюцца экскурсіі сялян-членаў мэліорацыйных т-ваў на Менскую балотную станцыю і ў Забалацкую балотную гаспадарку. Экскурсіі ажыцьцяўляюцца альбо за кошт дзяржбюджэту, альбо за кошт саміх т-ваў ці мясцовага бюджэту.

Лік членаў пабываўшых на станцыі:

| | |
|---|---|
| 1924 г. . . . | 14 |
| 1925 „ . . . | 25 |
| 1926 „ . . . | 60 |

Для дапамогі насельніцтву ў скарыстаньні балот дзяржава адчыніла танны (4 проц. у год) доўгатэрміновы мэліярацыйны крэдыт (да 15 год)

| | |
|---|---|
| На 1926 г. . . | 59.355 руб. |
| „ 1927 „ . . | 114.000 „ |

Дзякуючы ўсім гэтым мерапрыемствам, насельніцтва, аб'яднанае ў мэліярацыйныя т-вы, мае магчымасьць карыстацца плошчаю каля 30.000 гэкт. і палучаць добры ўраджай.

А ўраджай на інтэнсыўна асушаных тарфяных балотах мэліярацыйныя т-вы за мінулыя гады здымалі такі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сеяная сенажаць (сена) | 400-500 п. | Ячмень . . . . | 125 п. |
| Капуста (качаны) . . | 3265 „ | Каноплі . . . . | 43 „ |
| Авёс (зярня) . . . | 113 „ | Бульба . . . . | 1659 „ |

Дасягненьні самі за сябе кажуць, што ў гэтым сіла і дастатак сялянскай гаспадаркі, а разам з ёй і ўсёй дзяржавы.



Міхановіцкія торфараспрацоўкі, дзе працуе прэс Дольберга.

Першы раз сёлета пушчаны на балота працаваць трактары з спэцыяльнымі для работы плугамі.

Вынікі работы трактараў надта добрыя. Там, дзе конь ня можа ісьці, трактар праходзіць. Апрача таго, і кошт ворыва трактарам значна абыходзіцца таней, чым коньмі.

Заслаўскаму мэліорацыйнаму т-ву (Менскае акругі) ворыва коньмі аднаго гэктара у 1926 г. каштавала каля 90 руб., а ворыва такой-жа плошчы трактарам у 1927 г. каштавала каля 37 руб.

З папярэдніх даных па Менскай акрузе бачым, што трактарам заараць адзін гэктар асушанага тарфяніка каштуе ад 19 да 40 руб. Чым менш на балоце карчоў, тым таней каштуе ворыва і наадварот.

Сяляне з трактарам, землячарпалкамі і мэханічнымі плугамі для канаў адваююць балота для добрай воранай зямлі, бо ў саюзе з рабочымі дзесяць гадоў таму назад яны заваявалі ад пана ўсю зямлю.

**Торф.** Уласнасьць на зямлю перашкаджала распрацоўцы торфу. Буйны земляўладар меў апал з свайго лесу, а сяляне прымушаны былі набываць апал ад памешчыка. Прамысловасьць таксама вельмі мала патрабавала торфу, як апалу. Царскі ўрад мала зварочваў увагі на разьвіцьцё тарфяных распрацовак. Толькі ў 1923 г. на 5 губ. (Віцебская, Менская, Магілеўская, Смаленская і Чарнігаўская) былі асыгнаваны сродкі:

1913 г.—6.000 руб.; 1914 г.—10.000 руб.

У 1913 г. было 2 торфмэйстеры, у 1914 г.—4 (2 сэзонных).

У 1915 г. ніякіх сродкаў ня было адпушчана, а ў 1916 г. на ваенныя крэдыты было заложана 6 новых буйных торфараспрацовак, але ў 1917 годзе пры нямецкай акупацыі яны былі разбураны і зьнішчаны.

Торфаздабыча сярод сялянства ня была разьвіта і лічылася ў сотнях куб. саж. сухога торфу. Слаба была разьвіта торфадабыча і для патрэб прамысловасьці.

Так, пры патрэбе прамысловасьцю апалу ў 1914 г. да 150.000 куб. саж дроў, торфу было здабыта ўсяго каля 7.000 куб. саж.

Для прамысловасьці торфадабыча пачала разьвівацца з 1924 г. і для сельскага насельніцтва з 1922 г.

Рост торфадабычы па гадах паказаны далей (у куб. саж.):

| ГАДЫ | Прамысловасьцю | Сельскім насельніцтвам | Усяго | % адносна 1914 г. |
|---|---|---|---|---|
| 1914. . . . | 6.500 | 500 | 7.000 | 100 |
| 1920. . . . | 1.500 | — | 1.500 | 21,4 |
| 1921. . . . | 5.500 | — | 5.500 | 78,6 |
| 1922. . . . | 10.000 | 200 | 10.200 | 145.7 |
| 1923. . . . | 8.000 | 300 | 8.300 | 118,6 |
| 1924. . . . | 8.000 | 3.500 | 8.500 | 121,4 |
| 1925. . . . | 9.000 | 3.000 | 12.000 | 171,4 |
| 1926. . . . | 12 000 | 11.300 | 23.300 | 332,9 |
| 1927. . . . | 23 000 | 19.000 | 42.500 | 607,1 |

Рост торфадабычы сярод сельскага насельніцтва павялічваецца адначасова з ростам тэхпэрсоналу і дзяржаўным водпускам сродкаў.

| ГАДЫ | Было тэхпэрсоналу | Асыгнавана сродкаў | УВАГА |
|---|---|---|---|
| 1923-24. . . | 3 | 500 | Для абсьледаваньня тарфянікаў на патрэбы электрафікацыі адпушчана яшчэ 25.000 р. |
| 1924-25. . . | 5 | 3.594 | |
| 1925-26. . . | 14 | 35.000 | |
| 1426-27. . . | 35 | 91.000 | |

У 1926-27 г. на дасьледаваньні тарфянікаў для патрэб прамысловасьці працуе 15 чал., а астатнія абслугоўваюць насельніцтва і праводзяць вучот і абсьледаваньне балот.

Работы па дасьледаваньню тарфяных балот, маюць такі выгляд

| | Выбарачнае абсьледаван. (гэкт.) | Дэтальнае абсьледаван. (гэкт.) |
|---|---|---|
| 1925-26 . . . | 18.000 | 4.000 |
| 1926-27 . . . | 35.000 | 13.000 |



Рост распрацоўкі торфа насельніцтвам (куб. саж.).

Для мэтаў навуковага вывучэньня пытаньняў тарфяной справы ў 1926-27 г. прыступлена да організацыі вопытнай тарфяной станцыі. Да рэвалюцыі такіх станцый ня было ня толькі ў Беларусі, але і Расіі

Для правільнай эксплёатацыі тарфянікаў праз колектыўную торфадабычу былі організованы тарфяныя т-вы.

| | |
|---|---|
| у 1924-25 г. . . . . . | 4 |
| „ 1925-26 „ . . . . . | 76 |
| „ 1926-27 „ . . . . . | 100 |
| Усяго. . . . | 180 |

Акрамя гэтага маецца каля 15 торфараспрацовак у саўхозах.

Прамысловасьць вядзе распрацоўку ў 14 пунктах, дзе працуе 24 элеватарныя ўстаноўкі (у 1914 г. іх працавала 9).

У 1927 годзе пры НКЗ БССР былі праведзены 4-х месячныя курсы дзесятнікаў-інструктароў па торфу, галоўным чынам дзеля абслугоўваньня тарфяных таварыстваў.

Для скарыстаньня торфу ў сельскай гаспадарцы ў 1927 г. заложаны ў 10-ці пунктах вучасткі па скарыстаньню торфа.

**Рыбная гаспадарка БССР**. На тэрыторыі Беларусі маецца 2.368 вазёр з агульнаю плошчаю 82.017 гэктараў 32.273 клм. рэк і 243 сажалкі з плошчаю 1.800 гэкт.

Рыба, якая засяляе гэтыя воды, к 1918 г. пачынае ўжо служыць ня толькі прадуктам спажываньня для мясцовага насельніцтва, але і прадметам вывазу ў буйныя гарады быўш. Расіі і замежы.

За час імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны рыбная гаспадарка ня толькі не разьвівалася, але прышла ў заняпад.



Зімавальныя сажалкі рыбаводнага завода ў Жыткавічах (Мозыр). Гаспадарка аднаўлена ў 1925-26 г. і можа даваць 8000 п. рыбы.

У 1923 г. рыба-гаспадарчыя ўгодзьдзі ў поўным развале былі перададзены ў веданьне земорганаў, якія прыступілі да аднаўленьня рыбнай гаспадаркі на натуральных і штучных вадаёмах.

Рыбная гаспадарка стала ізноў адраджацца і мы з наступнай табліцы бачым павялічэньне з году ў год улова рыбы.

Было вылаўлена рыбы.

| ГАДЫ | Для рынка | | Для уласнага спаж. | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькі (тон) | Рыначны кошт (руб.) | Колькі (тон) | Рыначны кошт (руб.) | Колькі (тон) | Рыначны кошт (руб.) |
| 1922-23 . . . | 200 | 26.000 | 850 | 110.000 | 1.050 | 136.000 |
| 1923-24 . . . | 670 | 167.500 | 1.000 | 200.000 | 1.670 | 367.500 |
| 1924-25 . . . | 1.000 | 300.000 | 1.010 | 252.500 | 2.010 | 552.500 |
| 1925-26 . . . | 1 200 | 360.000 | 1.015 | 253.750 | 2.215 | 613.750 |

Прадукты рыбнае гаспадаркі, падобна прадуктам жывёлаводзтва даюць бялкі і жыры і папаўняюць норму мяса, якое насельніцтва Беларусі заўсёды палучала менш нормы і адставала ня толькі ад Заходняй Эўропы, але і ад жывёлаводных раёнаў Расіі.

Рыбных прадуктаў насельніцтва палучае ў сярэднім штогодна 16.880 тон або ад 6 да 41,7 грам на едака ў дзень, што складае 3% 20,8 проц. нормы.

Сьвежарыбны дэфіцыт Беларусі можна пакрыць прадукцыяй сваёй гаспадаркі, але пры ўмове аднаўленьня рыбнага промыслу на нашых натуральных і штучных вадаёмах і пабудовы новых сажалкавых гаспадарак на плошчы каля 20.000 гэкт.

Акрамя валікіх спросаў рыбных прадуктаў на рынках БССР, у нас ёсьць магчымасьць вывозіць рыбу ў Польшчу і іншыя краіны.



Возера Лукамль, дзе ў 1925 г. адчынен рыбаводны завод, які выпускае штогодна 100 мільёнаў ікрынак.

Для рэгуляваньня і разьвіцьця рыбнае гаспадаркі на натуральных і штучных вадаёмах праводзяцца такія мерапрыемствы:

1. Забарона на рыбагаспадарчых угодзьдзях драпежнага лову.

2. Організацыя рыбаводных гаспадарак на натуральных вадаёмах,

3. Організацыя штучнага рыбаразьвядзеньня.

4. Організацыя прамысловых сажалкавых гаспадарак.

5. Організацыя сельска-гаспадарчага рыбаводзтва ў сялянскіх сажалках і інш.

Усе гэтыя мерапрыемствы даюць ужо значныя вынікі.

1. Організавана 8 вазёрных гаспадарак з агульнай плошчаю 3.000 гэкт. вазёр.

2. Організавана 4 рыбаводных завода, 8 паходных рыбаводных станцый, якія выпусьцілі ў вадаёмы БССР пасадачнага матэрыялу (малькоў).:

| НАЗВЫ РЫБЫ | 1922-25 г. | | 1925-26 г. | | 1926-27 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць (у тыс.) | Плошча вадаёмаў (гэкт.) | Колькасьць (у тыс.) | Плошча вадаёма (у гэкт.) | Колькасьць (у тыс.) | Плошча вадаёма (у гэкт.) |
| Чудскі сіг . . . | 1.000 | 3.880 | 2.000 | 12.000 | 6.450 | 23.300 |
| Рапушка . . . . | — | — | 400 | 6.500 | 5.036 | 21.200 |
| Лешч . . . . . | — | — | 24.000 | 5.000 | 26.000 | 14.800 |
| Карп . . . . | 135 | 30 | 1.350 | 120 | 1.400 | 170 |
| Усяго. . | 1.135 | 3.910 | 27.750 | 23.620 | 38.886 | 59.470 |

3. Організавана 3 прамысловых сажалкавых гаспадаркі, на плошчы 1419 гэкт.

4. Організавана 10 сялянскіх прудоў на плошчы 6 гэкт.

Гадавы прыбытак ад рыбнае гаспадаркі і затраты за мінулыя пяць год паказаны ў табліцы:

| ГАДЫ | Даход у рублях | Расход ў рублях | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Капітальныя затр. | Іншыя выдаткі | Усяго |
| 1922-23. . . . | 7.200 | — | 8.200 | 8.200 |
| 1923-24. . . . | 38.000 | — | 9.100 | 9.100 |
| 1924-25. . . . | 42.000 | 6.200 | 8.800 | 15.000 |
| 1925-26. . . . | 67.700 | 9.400 | 15.600 | 25.000 |
| 1926-27. . . . | 79.000 | 15.000 | 25.000 | 40.000 |
| Усяго. | 244.500 | 30.600 | 66.700 | 97.300 |

Такім чынам, рыбная гаспадарка становіцца на ногі, каб запоўніць недахоп у мясе для належнага харчаваньня насельніцтва.

**А. Шычко.**

# Аграназмічная дапамога насельніцтву ў БССР.

У мерапрыемствах па разьвіцьцю сельскай гаспадаркі Беларусі, якія праводзяцца Наркамземам і яго мясцовымі органамі, агранамічная дапамога насельніцтву разам з земляўпарадкаваньнем і мэліорацыяй займае адно з галоўных месц.

Калі земляўпарадкаваньне дапамагае гаспадарцы ўпарадкаваць раскінутую зямлю, а мэліорацыя нягодную балотную зямлю перарабляе ў цэнныя с.-г. вучасткі, дык агранамічная дапамога высьвятляе вёсцы шляхі і сродкі да перабудовы гаспадарак на больш рацыянальныя, і дапамагае ў гэтай перабудове.

Аграном на вёсцы цяпер ужо патрэбны чалавек, аб ім ведаюць сяляне і яго патрабуюць. У гэтым адно з вялікіх дасягненьняў савецкай аграноміі. Савецкі аграном за некалькі год многа дапамог вёсцы ў яе барацьбе за новыя шляхі, за новую вёску.

Каб больш яскрава паказаць сучаснае становішча аградапамогі ў БССР і яе дасягненьні—прыводзіцца кароткая даведка аб агранамічнай дапамозе ў межах сучаснай БССР у даваенны час і яе разьвіцьцё пры Савецкай уладзе.

**Аградапамога ў Беларусі ў даваенны час.** У трох беларускіх губ. Віцебскай, Менскай і Магілеўскай да 1911 г. ніякай організаванай аградапамогі насельніцтву ня было. Аграномы калі і былі, дык толькі адзінкі і тыя працавалі пры ўрадавых установах, мясцовых „спрошачных“ земскіх кіраўніцтвах і губэрскіх т-вах сельскіх гаспадарак, якія аб'ядналі буйных земляўласьнікаў. Напрыклад, Віцебскае „спрошачнае“ земскае кіраўніцтва ў 1910 г. мела на ўсю губэрнію 6 аграномаў і 3 інструктары; Менскае у тым-жа 1910 г. запрасіла на службу 5 першых аграномаў (па 1 на павет з агульнага ліку 9-ці паветаў). Аб вучастковых аграномах тады і гутаркі ня было. У 1911-12 г. у гэтых трох беларускіх губ., хоць з апазьненьнем на 50 гадоў у параўнаньні з іншымі часткамі Расіі, было ўведзена так званая выбарнае земства. У гэты-ж час значна пашырылася праца па стварэньню хутарскіх гаспадарак (так званае сталыпінскае земляўпарадкаваньне).

Усё гэта павысіла попыт на агранома. Пачынаючы з 1912 г., наглядаецца рост аграпэрсаналу, асабліва па Віцебскай губ.; павялічылася колькасьць аграномаў, як земскіх, гэтак і тых, што пашлі па лініі абслугоўваньня земляўпарадкаваных хутароў.

Ва ўсіх 3-х губ. было аграпэрсаналу, працуючага па аградапамозе насельніцтву:

| ГОДЫ | Урадавых | Земскіх | Усяго |
|---|---|---|---|
| На 1-I-1913 г. . . | 155 | 86 | 241 |
| На 1-I-1914 г. . . | 218 | 184 | 402 |

Падзел аграназміі на земскую і землябудаўнічую быў вельмі характэрным для таго часу. Кожная з гэтых організацый вяла працу па свойму. Аб'яднаньне аграназміі было праведзена ў 1912 г. толькі ў Віцебскай губ. У Віцебскай губ. да вайны ўдалося больш менш наладзіць сетку вучастковых аграномаў, а ў Менскай і Магілеўскай гэтага

зрабіць не ўдалося. Тут у некаторых паветах было по 1-2 аграномы, якія знаходзіліся ў павятовых гарадох. Характэрным для агранаміі таго часу зьяўляецца адсутнасьць належнае сувязі між аграномамі і насельніцтвам.

З 31 павета 3-х губ. у 1912 г. вучастковая аграномія ўводзілася толькі ў 22 паветах, дзе было 46 вучастковых аграномаў; у 1913 г. вучастковыя аграномы ўводзіліся ў 25 паветах (лічылася 73 вучастк. агранома). Зразумела, што аграном на вёсцы быў вельмі рэдкім госьцем, а то і зусім незнаёмая фігура „аграмон", „агралом".

Вось чаму праца аграномаў у той час давала мала карысьці; тады было неабхода грунтаваць агранамічную працу больш на каштарысных асыгнаваньнях, чым на самадзейнасьці і сродках самога насельніцтва.



С.-г. выстаўка ў Пухавіцкім раёне 1925 г. (Падблонь).

Усе мерапрыемствы, якія праводзіліся аграномамі ў даваенныя часы, праходзілі галоўным чынам па: 1) організацыі с.-г. складаў і пунктаў, па ачыстцы насеньня; 2) організацыі паказальных вучасткаў, паказальных хутароў; 3) злучных пунктаў з палепшанымі племянікамі; 4) правядзеньню курсаў па сельскай гаспадарцы. Сел.-гас. коопэрацыя ў той час была разьвіта вельмі слаба; аграномы ў гэтым напрамку больш абмяжоўваліся аднэй толькі прапагандай карысьці коопэрацыі.

Для таго часу было характэрным зьявішчам абмяжаванасьць працы нават і пры асыгнаваных сродках, разьмеры якіх перад вайною (1913-14 г.), былі не малыя. На адно ўтрыманьне аграномаў у 3-х губ. было патрачана: у 1912 г.—336.000 р.

„ 1913 „—516.000 „

Напрыклад, працу па аградапамозе ў даваенны час можна характэрызаваць гэткімі лічбамі:

Было праведзена с.-г. курсаў і чытаньняў:

| ГУБЭРНІ | Лік паветаў | Колькасьць курсаў | Лік слухачоў на курсах | Лік чытаньняў | Лік слухачоў на іх |
|---|---|---|---|---|---|
| Менская 1914 г. . . . | 9 | 12 | 393 | 530 | 48.896 |
| Магілеўск. 1914 г. . . | 11 | 14 | 521 | 676 | 51.202 |
| Віцебская 1913 г. . . | 11 | 36 | 629 | 442 | 19.518 |

Сетка пракатных пунктаў дзяржаўных і земскіх ў 1914 г. была па 3-х губ. да 350. Было ачышчана зярна:

Менскай губ. (1914 г.)—да 180.000 пуд.
Магілеўск. „ (1914 „)— „ 129.000 „
Віцебск. „ (1913 „)— „ 39.430 „




1913/14 1923/24 1924/25 1925/26 1926/27 1913/14 1923/24 1924/25 1925/26

Правядзеньне с.-г. курсаў. Правядзеньне чытанак.

Аградапамога насельніцтву наогул у Віцебск. губ. ішла ўперадзе 2-х іншых губэрняй. У прыватнасьці гэта тлумачылася тым, што тут шырэй ішло земляўпарадкаваньне на хутары.

**Аградапамога насельніцтву БССР у пэрыяд 1914-21 г.** Вайна 1914-17 г. адразу спыніла агранамічную працу. У Менскай губ. ўжо к пачатку Лютаўскай рэвалюцыі ня было ніякай ораганізацыі па аградапамозе. Трохі лепш была справа з аградапамогай у Магілеўскай і Віцебскай г. Першыя гады пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі (1917-21 г.) зразумела, не маглі спрыяць разьвіцьцю мясцовай аграноміі. Трэба толькі ўспомніць, як пераходзіла Беларусь ад немцаў да палякаў, успомніць той заняпад сельскай гаспадаркі, да якога дайшлі мы ў 1921 г. Гэта быў год найбольшага гаспадарчага крызісу. Але з гэтага-ж году пачалася і організацыя аградапамогі ў БССР, якая ў той час складалася з 6-ці толькі паветаў б. Менскай губ. Пачынаць гэту працу Наркамзему прышлося, як кажуць, з пустога месца і ва ўмовах яшчэ ня скончанай барацьбы з бандытызмам. Першай задачай НКЗ было стварэньне агранамічнага апарата, які-б мог блізка падыйсьці да патрэб на-

сельніцтва. Дзеля гэтага трэба было палепшыць і ўмовы працы аграномаў на вёсцы; гэта была другая задача. Надаць агранамічнай працы масавы характар, каб яна здавальняла першыя запатрабаваньні сельскае гаспадаркі БССР, гэта была трэцяя задача НКЗ Беларусі пры пачатку організацыі аградапамогі насельніцтву.

**Аградапамога да часу пашырэньня БССР у 1924 г.** Пэрыяд 1921-23 г. ў адносінах аградапамогі насельніцтву ў галоўным і быў запоўнен вырашэньнем усіх адзначаных першачарговых організацыйных задач. Ня гледзячы на ўсе труднасьці, іх удалося ў значнай частцы вырашыць.

Напрыклад, агранамічная сетка Меншчыны была разгорнута шырэй, чым у далучаных Магілеўшчыне і Віцебшчыне, што відаць з наступнай таблiцы:

| Часткі павялічанай БССР | Лік былых паветаў | Лік павятовых аграпрацоўнікаў | Пэрсон. вучаст. сеткі (аграномаў-тэхн.) | Усяго пэрсоналу | На 1 аграпрацоўніка прыходзіцца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Сельскага насельніцтва | Пасеўнай плошчы дзес. |
| БССР да яе павялічэньня ў 1924 г. . . . . | 6 | 19 | 84 | 103 | 13 082 | 7.115 |
| Віцебшчына . . . . | 4 | 6 | 38 | 44 | 21.385 | 8.778 |
| Гомельшчына (Магіл.) . | 3 | 11 | 43 | 54 | 17.677 | 10.946 |
| Смаленшчына . . . | 2 | 4 | 8 | 12 | 17.500 | 6.088 |
| Усяго . . | 15 | 40 | 173 | 213 | 16.211 | 8.377 |

Пэнсію аграномы атрымлівалі наогул ў той час вельмі мізэрную. Напрыклад, вучастковы агроном у 1923 г. палучаў 8-11 руб., альбо каля 1/15 часткі даваеннай зарплаты. Але ў Меншчыне ўчастковы аграпэрсанал знаходзіўся ў лепшых умовах, бо пэнсію яму выплачвалі з сродкаў больш моцнага дзяржбюджэту, тады як Віцебшчына была на мясцовым бюджэце, а Магілеўшчына на асабным „хозрашчоце". Пры ўсіх аграпунктах БССР меліся гаспадаркі, якія значна паляпшалі ўмовы працы аграномаў, асабліва ў адносінах забясьпячэньня кватэрамі, сродкамі перасоўваньня па вучастку, а ў Віцебшчыне і Магілеўшчыне ня менш 50 проц. аграпунктаў зямельных вучасткаў ня мелі.

Гэта праца НКЗБ па стварэньню агранамічнай організацыі і лепшых умоў для працы была адзначана на Усесаюзнай с.-г. выстаўцы ў Маскве ў 1923 г., дзе Наркамзему БССР быў прысуджаны ганаровы дыплём ІІ-й ступені „за энэргічную працу па організацыі аградапамогі ў БССР".

Што належыць таго, які галоўны напрамак у працы быў узяты аграноміяй у час з 1921 па 1924 г., дык гэта—агульная ў той час задача: хутчэй адбудаваць сельскую гаспадарку да даваеннага ўзроўню, зьліквідаваць заняпад у сельскай гаспадарцы ад папярэдніх гадоў вайны.

Гэты напрамак адбіўся ў распрацоўцы так званых пасеўных пляпаў, пропагандзе за выкананьне іх гаспадаркамі, у правядзеньні кампаніі па забесьпячэньню насельніцтва насеньнем і г. д. Важнае месца

ў працы аграномаў зпачатку займала абслугоўваньне калхозаў і саўхозаў. Поўнай плянавасьці ў працы, вядома, ня было. Але ўжо і ў гэты час савецкія аграномы пачалі працаваць, як працаўнікі адзінага дзяржаўнага апарату.

У гэты пэрыяд пасяўных плянаў і рэгуляваньня гаспадарак, мясцовая агранамія вучылася практычна працаваць па пляну, у мэтавым напрамку. Абмежаваньне дзяржаўных сродкаў і крэдыту ставілі перад аграномамі неабходнасьць скарыстаць сродкі самога насельніцтва. А дзеля гэтага трэба было зацікавіць самога гаспадара. Адсюль, напрыклад, пачалася праца аграномаў па ўхваленьню сялянскіх племянікоў (бо ня было дзяржаўных), адсюль—жа і пашырэньне агранамічнай прапаганды.

Новыя палітычныя і гаспадарчыя ўмовы патрабавалі і новых мэтадаў у працы агранаміі. Іменна ў гэты час яны і зьяўляюцца, але разгортваюца ўжо пазьней у наступны пэрыяд з 1924 г.

**Пэрыяд 1924-27 г. Рост агранамічнай організацыі ў БССР.** За 4 гады агранамічная організацыя БССР павялічвалася так:

| Гады | Акруговых агранамічных працоўнікаў | Раённых агранамічных працоўнікаў: Раённых аграномаў | Пам. райагран. і пам. інструктароў | Усяго раённага пэрсаналу | Усяго агранамічн. пэрсаналу ў акругах |
|---|---|---|---|---|---|
| 1923-24 з 1-X. | 25 | 92 | 71 | 163 | 188 |
| 1924-25 „ | 27 | 97 | 133 | 230 | 257 |
| 1925-26 „ | 37 | 98 | 215 | 313 | 350 |
| 1926-27 1-IV | | | | | |
| а) бяз Гомельшчны | 40 | 99 | 281 | 380 | 420 |
| б) з Гомельшчынай | 47 | 116 | 301 | 417 | 464 |

Як відаць з лічбаў, колькасьць аграпэрсаналу ў параўнаньні з 1923-24 г. павялічылася амаль у $2^1/_2$ разы. Найбольш павялічыўся раённы пэрсанал, які непасрэдна працуе на вёсцы.




Рост агранамічнага пэрсаналу БССР (раён., акр., усяго).

Разам з гэтым павялічваецца і проц. асоб з большай кваліфікацыяй па адукацыі, з адначасовым памяншэньнем ліку асоб з ніжэйшай адукацыяй, а таксама і значным практычным стажам.

Гэта відаць з наступных лічбаў (у процантах ад агульнага ліку аграпрацаўнікаў).

| На які час | Адукацыя | | | Практычны стаж | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вышэйш. | Сярэдн. | Ніжэйш. | Да 1 г. | Ад 1 г. да 5 г. | Ад 5 да 10 г. | Звыш 10 г. | |
| На 1-X—1924 г. | 10,5 | 46 | 43,5 | 15,5 | 47,5 | 27,0 | 10,0 | Параўнальныя даныя ўзяты за 1927 г. бяз Гомельшчыны |
| На 1-IV—1927 г. | 25,5 | 48.1 | 26.4 | 24,7 | 49,5 | 17,9 | 7.9 | |

На працягу вызначанага пэрыяду сетка агранамічных раёнаў амаль што не зьмяншалася (да далучэньня Гомельшчыны з 1927 г. было ўсяго 100 аграраёнаў).

Каб яшчэ больш прыблізіць аграпэрсанал да насельніцтва, з 1926-27 г. пачалося выдзяленьне ў межах агранамічных раёнаў яшчэ асобных падраёнаў, якія павінны ахопліваць толькі некалькі с.-с. у раёне. У сярэднім прыходзілася на 1 аграраён 308 населеных пунктаў, 12 с.-с. 6872 сялянскіх гаспадаркі і 35.839 дзес. воранай зямлі (бяз Гомельшчыны).

Наколькі бліжэй да насельніцтва стаіць у сучаснае БССР агранамія ў параўнаньні з даваенным часам па 3 беларускіх губэрнях, паказваюць лічбы сярэдняга ліку засеву і насельніцтва на 1 чалавека вучастковай сеткі:

| На які час. | Дзесяцін засеву ў тысячах | Сялянскага насельніцтва ў тыс. |
|---|---|---|
| На 1-I-1914 г. | 14,5 | 28,5 |
| На 1-V-1926-27 г. | 7.4 | 10,0 |

Як відаць, савецкая агранамія БССР у 2—2½ разы стаіць бліжэй да насельніцтва, чым стаяла даваенная агранамія.

Цяпер пакажам у лічбах прыклады працы аграномаў па аградапамозе насельніцтву ў БССР за апошнія 4 гады бяз Гомельшчыны).

Напрыклад. як разьвівалася аграпрапаганда праз курсы, гутаркі, чытаньні і канфэрэнцыі, відаць з наступных лічбаў:

| Гады | Праведзена курсаў | | Праведзена гутарак і чытаньняў | | Праведзена с.-г. канфэрэнцый | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік курсаў | Лік слухачоў | Лік гутарак і чытаньняў | Лік слухачоў | Лік канфэрэнцый | Лік удзельнікаў |
| 1923-24 г. . . . | 66 | 3390 | 5043 | 182770 | 82 | — |
| 1924-25 „ . . . | 127 | 6820 | 8054 | 318360 | 496 | 37310 |
| 1925-26 „ . . . | 240 | 11225 | 10843 | 356820 | 356 | 21680 |
| 1926-27 „ . . . | 272 | 13468 | 8547 | 281395 | 388 | 20766 |
| (Толькі па 1-VI-27 г.) | | | | | | |

Гэта таблічка гаворыць, што асабліва шырока праводзілася аграпрапаганда праз с.-г. курсы ў 1926-27 г. У сярэднім на раён у 1926-27 г. БССР прыходзілася да 2-х курсаў.

Рост с.-г. гурткоў, у якіх найчасьцей аграномы вялі гутаркі і чытаньні па сельскай гаспадарцы, па гадох ішоў такім чынам.

| Гады | Лік гурткоў | Лік сяброў у іх | Увага |
|---|---|---|---|
| 1923-24 г. . . | 105 | — | Вучот ня поўны |
| 1924-25 „ . . | 533 | 12.298 | |
| 1925-26 „ . . | 778 | 15.400 | |

Аграпрапаганда вялася яшчэ і шляхам паказальных мерапрыемстваў.

Вось, напрыклад, лічбы росту заложаных паказальных палявых і лугавых вучасткаў:

| Гады | Лік вучасткаў | Плошча ў дзес. | Увага |
|---|---|---|---|
| 1923-24 г. . . | 1.329 | 216 | Найбольш закладалася вучасткаў з мінэральнымі ўгнаеньнямі, караньплодамі, лубінам (да 70 проц. усіх вучасткаў). |
| 1924-25 „ . . | 1.932 | 450 | |
| 1925-26 „ . . | 3.799 | 970 | |
| 1926-27 „ . . | 3.955 | 557 | |
| (Толькі на 1-VI) | | | |

У 1925-26 г. ў раёнах было зарэгістравана 362 культурна-паказальных сялянскіх гаспадаркі (у 1924-25 г. іх было толькі 298).

Далей пяройдзем да вытворчай працы. Працу па шматпольлю аграномы праводзілі на 70 проц. у пасёлках і вёсках. Усяго з 1923/24 г. па 1-IV 1927 г. пераведзена 50.708 дв. на плошчы 342.565 дзес.




1923/24 1924/25 1925/26 1926/27 23/24 24/25 25/26 26/27
Лік гаспадарак з шматпольлем (т.). Плошча пахаці з шматпольлем.

Шмат было працы аграномам па пашырэньню ў сялянскіх гаспадарках засеваў кармовых траў, кораньплодаў, лубіну. Аграномы прымалі значны ўдзел у забесьпячэньні насельніцтва насеньнем гэтых культур. Пры дапамозе аграномаў было разьмяркована насеньня (у пуд.).

| ГАДЫ | Канюшыны | Выкі | Сэрадэлі | Лубіну | Кораньплодаў кармавых |
|---|---|---|---|---|---|
| 1923-24 г. . | 12.565 | 41.943 | 4 895 | 10.107 | — |
| 1924-25 " . | 14.92' | 17.032 | 4.870 | 25.210 | 500 |
| 1925-26 " . | 17.420 | 40.477 | 9.909 | 34.577 | 1.212 |
| 1926-27 " . | 24.562 | 71.980 | 7.763 | 22.474 | 2.070 |

Праца папалепшаньню насеннага матэрыялу выяўлялася галоўным чынам у організацыі масавай ачысткі і распаўсюджваньні палепшанага насеньня.

| ГАДЫ | Ачыстка насеньня | | | Пашырэньне сартав. насеньня (пуд). | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Працавала ўсяго машын | У тым ліку аграпунктаў | Усяго ачышчана зярна ў тыс. пуд. | Аўса | Ячменю | Ільну-даўгунцу |
| 1923-24 г. . | 320 | 286 | 704 | — | — | 1.188 |
| 1924-25 " . | 800 | 525 | 1.430 | 11.330 | 32.116 | 4.634 |
| 1925-26 " . | 1.420 | 656 | 1.836 | 12.118 | 19.558 | 12.473 |
| 1926-27 " . | 1.854 | 869 | 2.000 (прыблізна) | 25.321 | 6.386 | 27.791 |

Трэба адзначыць удзел аграномаў у будаўніцтве с.-г. коопэрацы, і можна напэўна сказаць, што за апошнія гады рост, так званых спэцыяльных с.-г. коопэрацыйных аб'яднаньняў—малочных, насенных машынных і г. д. тлумачыцца іменна працай аграномаў у гэтым напрамку. Вось прыклад, які яскрава гаворыць аб удзеле агранаміі ў с.-г. коопэрацыі. У 1925-26 г. аграпэрсаналам абслугоўваліся 404 коопэрацыйных аб'яднаньні, пры гэтым 121 агранамічны працаўнік былі сябрамі кіруючых органаў коопэратываў, праўленьня, саветау і рэвізыйных камісій.

У галіне садоўніцтва трэба адзначыць як аснаўную працу—організацыю пладовых выхавальнікаў, якія неабходны для разьвіцьця садоўніцтва ў будучым. У наступны момант з'організавана 24 вялікіх выхавальнікі з штогоднім выпускам сажанцаў да 552 шт., ня лічачы існуючых больш дробных выхавальнікаў. Агульная плошча, якую займаюць гэтыя выхавальнікі раўняецца 203 дзес.

Усе прыклады адзначаныя ў гэтым артыкуле гавораць аб тым, што праца савецкай агранаміі БССР далёка абагнала працу даваеннай.

Праўда і ў нашай агранаміі ёсьць недахопы—бяз гэтага трудна абыйсьціся, бо праца аграномаў у сучасны момант ня так проста, патрабуе вопыту; у нас шмат маладых працаўнікоў, у якіх мала organізацыйнага вопыту. Але усе-ж можна сказаць, што ў дасягненьнях, якія мае сялянская гаспадарка Беларусі, відаць выразны сьлед агранамічнай работы.



Бялыніцкі агранамічны габінэт, абсталяваны с.-г. кооп. за ўдзел у працы.

Перш гэта відаць у тым, што аснаўныя пункты плянавай работы мясцовых аграномаў адпавядаюць найбольш выразным дасягненьням у сельскай гаспадарцы. Араномы ўзмацняюць аграпрапаганду, каб пашырыць засевы кармовых траў, корапьплодаў і мы бачым, як з года ў год пашыраецца палявы травасеў. Так, напрыклад, у 1923 годзе пад засевам траў было 2,1 проц. ад пасеўнай плошчы—у 1927 годзе ужо 5,5 проц. Аграномы ўзмацняюць прапаганду па пашэрэньню засе-

ву лубіну і мы бачым, як плошча засеву лубіну з 7.014 дзес. у 1922 г. дайшла да 62.663 дзес. у 1926 г. (бяз Гомельшчыны).

Аграномы вядуць працу па ўвядзеньню шматпольля, якое зьмяншае засевы азімага жыта і пашырае засевы бульбы. Плошча пад бульбаю штогодна расьце (праўда, на гэта робіць уплыў і пашырэньне сеткі заводаў па перапрацоўцы бульбы), а азімага жыта штогодна памяншаецца.

Аграномы з году ў год паказваюць на паказальных вучастках, як карыстацца мінэральнымі ўгнаеньнямі і мы бачым, як попыт на мінэральныя ўгнаеньні павялічыўся ў 1926 г. да 615.000 пуд. (нават пры дарагіх мінэральных угнаеньнях), а ў 1927 г. загатоўленых угнаеньняў не хапіла, прададзена-ж 670.000 пуд. па няпоўных вестках.

Вёска прызнала агранома. І гэта гаворыць за тое, што ў будучыне савецкага агранома Беларусі ляжаць яшчэ большыя дасягненьні ў будаўніцтве новай і культурнай сацыялістычнай вёскі.

**А. Міхайлаў.**

---

# Снабжэньне селькае гаспадаркі сродкамі вытворчасьці.

*(Да 10-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі).*

Да Кастрычнікавай Рэвалюцыі царскі ўрад ня спрыяў машынізацыі сельскай гаспадаркі. Купляць машыны маглі толькі заможныя сяляне, якія далей гэтымі машынамі часта эксплёатавалі беднае сялянства.

З 1909 году на Баларусі пачалі зьяўляцца земскія сельска-гаспадарчыя склады, якія ўсё-ж такі слаба дапамагалі насельніцтву. Напрыклад, у 1913 г. яны даставілі толькі 25 проц. патрэбных сялянству матэрыялаў, а рэшта ішла праз прыватных гандляроў. Гандляры-ж цікавіліся прыбыткам і машыны давалі часта не падыходзячыя да нашых мясцовых умоў.

Дзякуючы гэтаму ў сельскай гаспадарцы Беларусі зьяўляліся машыны розных тыпаў і форм (на Беларусі ёсьць каля 150 розных тыпаў і марак плугоў, 56 тыпаў і марак малатарняў, 64 тыпы сячкарняў і г. д.).

Такім чынам, ніякай сыстэмы тут ня было.

З агляду работы земскіх сельска-гаспадарчых складаў відаць, што склады ў 1913 годзе прадалі машын, прыладаў, насеньня і ўгнаеньняў.

| | |
|---|---|
| Па Магілеўскай губ. на . . | 209.052 руб. |
| „ Віцебскай „ „ . . | 308.483 „ |
| „ Менскай „ „ . . | 842.957 „ |
| Усяго . . | 1.360.492 руб. |

Малазямельле, трохпалёўка, някультурнасьць сялянства і адсутнасьць дзяржаўнай дапамогі, як крэдытамі і аградапамогаю, не давала магчымасьці большасьці сялянскіх гаспадарак палепшыць спосаб апрацоўкі зямлі і прымушалі іх трымацца дзедаўскай сахі.

Імпэрыялістычная вайна 1914-18 г. вельмі шкодна адбілася на сельскіх гаспадарках Беларусі і прывяла да абядненьня іх і тым інвэнтаром, які быў.

І толькі пясьля Кастрычнікавай Рэвалюцыі зьявілася мажлівасьць селяніну быць гаспадаром зямлі і свабодна падымаць сваю гаспадарку на аснове культуры і тэхнікі.

Адным з мерапрыемстваў Наркамзема БССР у дастаўцы сродкаў вытворчасьці была організацыя асобнага апарату Центраземсклада. Заснаваны ён быў у 1922 г. і працуе дагэтуль. Галоўнай мэтай Цэнтраземсклада зьяўляецца дастаўка сельскай гаспадарцы патрэбных і падыходзячых ў нас машын, насеньня, угнаеньняў і інш. і як мага таньней. Таксама неабходна было дамагацца, каб усё гэта было даступна бяднейшаму сялянству (праз льготы, крэдыт).

Работаю машынна-спробнай станцыі і абсьледаваньнем інвэнтара Цэнтраземскладу ўдалося выбраць для выпуску на рынак толькі неналькі тыпаў і формаў машын.

Напрыклад, плугоў выбрана . 15 замест 150
асыпнікаў . . . . 2 „ 20
барон „ Зіг Заг“ . . . 3 „ 75 і г. д.

Адначасова з гэтым разгортваліся опэрацыі Цэнтраземсклада і па снабжэньню сельскай гаспадаркі Беларусі. Рост гэтай працы паказан ў табліцы:

| НАЗВА | ЛІК ПРАДАНЫХ ТАВАРАЎ. | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1922 г. | 1922-23 г. | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | УСЯГО |
| Плугі розныя . . | 1116 | 1658 | 4652 | 32880 | 32267 | 7905 | 60488 |
| Бароны пруж. . . | 72 | 170 | 816 | 4418 | 4131 | 2233 | 11840 |
| Малатарні . . . | 11 | 83 | 608 | 1621 | 2900 | 1367 | 6590 |
| Арфы і сартыроўкі . | 117 | 190 | 208 | 1250 | 1848 | — | — |
| Сячкарні . . . | 54 | 226 | 457 | 887 | 5130 | 781131 | — |
| Жняяркі . . . | 12 | 23 | 47 | 69 | 118 | — | — |
| Косы . . . . | 6825 | 8384 | 64457 | 197338 | 166145 | 87267 | 530416 |
| Сярпы . . . . | 1472 | 4903 | 42540 | 78556 | 39878 | 68563 | 235912 |
| Вілы . . . . | 640 | 7500 | 21183 | 81479 | 41860 | 11293 | 163955 |
| Супэрфосфат (у кгр) | 92760 | 72237 | 490325 | 944506 | 4321884 | 1303590 | 7225302 |
| Фосфарытная мука . | 13693 | 136400 | 375921 | 573365 | 159330 | 189557 | 1448266 |
| Насеньне траў . . | — | — | 192692 | 303357 | 272090 | 1048853 | 12117098 |
| Весь зварот па продажы (у руб.) . . | 260000 | 280000 | 961359 | 2710845 | 3825986 | 3032768 | 11070958 |
| Рост ў проц. . . | 100 | 107 | 370 | 1042,6 | 1471,5 | 1166,4 | — |

Апрача Цэнтраземсклада на тэрыторыі Беларусі дастаўляе сродкі вытворч сьці сельскай гаспадарцы і Саюз Сельска-гаспадарчай коопэрацыі—„Белсельсаюз“.

Паказваю параўнаньне яго зваротаў з зваротамі Цэнтраземсклада:

| | | 1923-24 г. | 1924-25 т. | 1925-26 г. |
|---|---|---|---|---|
| Цэнтраземсклад | на суму . . . . . | 9.61359 | 2.542.791 | 3.625.986 |
| | у проц. . . . . . | 95,3 | 79,1 | 71 |
| Белсельсаюз | на суму . . . , . . | 146.891 | 671.235 | 1.516.106 |
| | у проц. . . . . . | 4,7 | 20,9 | 29 |

Цэнтраземсклад за ўвесь час свайго існаваньня даставіў у вёску да 1-га жніўня 1927 г. машын, насеньня і інш. на 11.070.958 рублёў.



Машына на с.-г. раеннай выстаўцы у Заслаўі (Меншчына).

Побач з узрастаючым попытам на іншыя машыны павялічваецца попыт і на трактары. У мінулым годзе цэнтраземсклад разьмеркаваў 12 шт. трактароў і не здаволіў усіх заявак насельніцтва.

Дзеля зьніжэньня цэн на свае тавары Цэнтраземскад зьніжаў розныя накладныя і адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі.

Паказваю скарачэньне выдаткаў на зарплату і розныя іншыя выдаткі па гадох:

| | 1922-23 г. | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. |
|---|---|---|---|---|
| Зарплата . . . . | 10 | 5,27 | 2,75 | 3,13% |
| Усе выдаткі . . . | 31,74 | 18,87 | 13,54 | 12,72 „ |

Такое зьніжэньне расходаў дало магчымасьць зьнізіць прадажныя цэны на тавары.

На галоўныя машыны мы маем такое зьніжэньне цэн:

| НАЗВА ТАВАРАЎ | Прадажныя цэны | |
|---|---|---|
| | У 1924 г. | 1926-27 г. |
| Малатарні п/т. Ланца . . | 135 р. | 101 р. |
| Арфа № 1 Вітмэтпрома . | 55 „ | 50 „ |
| Плуг тыпа Сухені № 0 . | 9 „ 50 к. | 9 „ 5 к. |
| Жалеза сартовае . . . . | $17^1/_2$ к. за кгр. | 16 „ |

Для шырэйшага набыцьця машын, асабліва бяднейшым сялянам, Цэнтраземсклад дае крэдыт і льготы. Крэдыты даваліся з 3 месяцаў да $1^1/_2$ году. Па гадох крэдыт адпускаўся так:

| | |
|---|---|
| У 1923-24 г. . . . | 539.240 р. |
| „ 1924-25 „ . . . | 1.484.200 „ |
| „ 1925-26 „ . . . | 1.696.800 „ |
| „ 1926-27 „ . . . | 1.389.932 „ |
| Усяго . . | 5.110.172 р. |

Бяднейшаму насельніцтву крэдыт даецца на больш доўгі тэрмін. За 10 месяцаў 1926-27 г. па 6-ці акругах Цэнтраземсклад задаволіў крэдытам 1.163 бедняцкія гаспадаркі, пры чым без задатка было дано ў крэдыт машын, прылад і насеньня 276 бедняцкім гаспадаркам.

*Свая вытворчасьць с.-г. машын* вядзецца Цэнтраземскадам з 1924 г. ў майстэрнях імя Бурбіса.

За ўвесь час свайго існаваньня майстэрні Бурбіса вырабілі машын (да 1 кастрычніка 1926 г.):

| НАЗВА | 1922-23 г. | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|
| Плугі № 0 . . . | 972 | 3400 | 5332 | 5497 | 15.201 |
| „ № 1 . . . | — | 500 | 1030 | 2005 | 3.335 |
| Асыпнікі . . . | — | 101 | 913 | 3921 | 4.935 |
| Сартоўкі . . . | — | 68 | — | — | 68 |
| Арфы . . . | — | 108 | 368 | 440 | 916 |
| Сячкарні . . . | — | — | — | 218 | 218 |
| На суму . . | 46.142 р. | 233.243 р. | 207.155 р. | 435.090 р. | 821.630 р. |

Усе гэтыя даныя сьведчаць аб тым, што вытворчая праца Цэнтраземсклада мае вялікае значэньне для ўнутранага беларускага рынка, дастаўляючы яму патрэбныя машыны.

Такім чынам, можна сказаць, што сельскія гаспадаркі Беларусі ўсё больш і больш машынізіруюцца і паляпшаюць спосабы гаспадараньня.

Кастрычнікавая Рэвалюцыя стварыла найлепшыя магчымасьці, каб селянін ня быў рабом зямлі, а яго культурным гаспадаром.

---

# Саўхозы да 10-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі.

Савецкія гаспадаркі ёсьць асяродкі буйнага земляробства, якія прыцягнуты на вопыце паказаць перавагу буйнага земляробства над дробным; быць пунктамі індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі і рабіць уплыў на перабудову сялянскае гаспадаркі праз пашырэньне культурных прыёмаў апрацоўкі зямлі, прыбліжэньня рынку збыта на сялянскую сыравіну і. г. д.



Чырвона-беларускі бык. Вага 47 п. у 6 г. (Саўхоз Вязань).

Гісторыя савецкіх гаспадарак дае магчымасьць да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі падгледзець, наколькі яны выпаўнілі тыя галоўныя мэты, якія перад імі паставіла улада працоўных.

1. *Агрыкультурная праца саўхозаў.* Адна з галоўных задач саўхозаў заключаецца ў правядзеньні агрыкультурных мерапрыемстваў у сялянскае насельніцтва, шляхам снабжэньня яго гатунковым насенным і пасадачным матэрыялам, гадоўляй палепшаных племянікаў і г. д. Ня гледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча, саўхозы падышлі да

выкананьня гэтае задачы. Саўхозы з кожным годам пашыраюць аградапамогу насельніцтву. Рост гэтай аградапамогі па гадох і па відах паказны ў табліцы:

| ГОДЫ | Перададзена і абменена насельнія (пуд.) чыстагатун. і палепшанага | Адсартавана сялянскага насельнія бяз кошту (пуд.) | Сялянам праведзена злучак | | | | Прададзена сялянам | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | з жарабкамі | з быкамі | з баравамі | з баранамі | Быкоў | Цялят | Парасят | Пладовых прышчэп |
| 1924 . . . | 19.107 | 86.265 | 465 | 2.205 | 1172 | — | 68 | 100 | 491 | 4.484 |
| 1925 . . . | 46.331 | 93.200 | 1.232 | 5.146 | 1.605 | — | 97 | 110 | 513 | 19.022 |
| 1926 . . . | 66.063 | 116.094 | 1.325 | 6.548 | 1.723 | 55 | 46 | 395 | 1.099 | 6.985 |
| 1927 . . . | 125.782 | 156.038 | 2.960 | 7.232 | 2.323 | 245 | 86 | 2.130 | 2.592 | 13.764 |

С-г. машыны і прылады даваліся для бясплатнага карыстаньня. Тып машын і колькасьць дзён паказана ў табліцы:

| ГОДЫ | Дадзена на пракат машын бясплатна ў днёх | | | | | | | | | Запахана насельніцтву бясплатна трактарамі дзес. зямлі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Плугоў | Барон | Сеялак | Асыпнікаў | Арф | Сячкарань | Жняярак | Касілак | Малатарняў | |
| 1926 . . . | 1.922 | 3.019 | 197 | 1.592 | 567 | 215 | 79 | 17 | 46 | — |
| 1927 . . . | 2.705 | 3.727 | 405 | 1.800 | 663 | 300 | 88 | 137 | 80 | 104 |

2. *Індустрыялізацыя сельскае гаспадаркі.* Цяпер паглядзім, як выпаўняюць саўхозы другую задачу ня меншай важнасьці, ускладзеную на іх—*быць базамі вытворчых камбінатаў у індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі* з мэтаю падняцьця таварнасьці ня толькі саўхозаў, але і сялянскіх гаспадарак. Перш скажам, што ў спадчыну саўхозам засталіся ўбогія толькі астаткі ад прадпрыемстваў; шмат што было папсавана. Вось амаль што з пустога месца прышлося саўхозам аднаўляць разбураную сельска-гаспадарчую прамысловасьць.

Першачарговая ўвага была зьвернута на аднаўленьне прадпрыемстваў па перапрацоўцы прадукцыі паляводзтва—млыноў, крухмальняў

і бровараў з ахопам саўхозскай і сялянскай прадукцыі. Працы прадпрыемстваў гэтага тыпу можна ўгледзець з табліцы 3 і 4.

*Табліца 3.*

| СЭЗОН | Бровары | | | | | Крухмальні | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | Перапрацована сыравіны (пуд.) | | | Выкурана сьпірту вёдзер у 40° | Колькасьць | Перапрацована бульбы (пуд.) | | Выпрацавана крухмалю |
| | | Кукурузы | Бульбы сваёй | Бульбы сялян. | | | Сваёй | Сялянскай | |
| 1925-26 . | 17 | 226.321 | 154.432 | 343.256 | 426.857 | 11 | 142.332 | 162.042 | 48.179 |
| 1926-27 . | 21 | 259.000 | 461.000 | 996.000 | 845.380 | 14 | 333.400 | 270.000 | 91.900 |

*Табліца 4.*

| | Працуе млыноў з дапаможнымі прадпрыемствамі | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | | | | | | | Перапрацована зярна (пуд.) | Звалена сукна (паг. арш.) | Расьпілавана драўніны (куб. фут.) | Выраблена гонт (коп.) | Выраблена пэглы (штук) |
| | Млыноў | Сукнавалак | Лесапільн. рам | Гонтарэз. станкоў | Цыркуляр | Цагельн. заводаў | Электра-установ. | | | | | |
| 1925-26 . | 79 | 21 | 20 | 9 | 57 | 4 | 11 | 3.062.598 | 135.067 | 785.443 | 1.889 | 424.000 |
| 1926-27 . | 17 | 20 | 20 | 14 | 54 | 5 | 12 | 2.858.910 | 85.416 | 1.331.397 | 4.037 | 829.000 |

Ня менш распаўсюджаны ў саўхозах і прадпрыемствы па пераапрацоўцы малака, як саўхозскага, так і сялянскага. Пераапрацоўка малака пачалася з 1925 г., але сыстэматычная праца пачалася толькі з 1925 г.

Колькасьць установак малочнае перапрацоўкі і іх прапускная здольнасьць паказаны ў табліцы.

*Табліца 5.*

| ГОДЫ | Колькасьць | Перапрацована на іх малака (пуд.) | | Атрымана ў пудох | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Свайго | Сялянск. | Сыр гал. і бакшт. | Масла |
| 1923 . . | 11 | 22.237 | — | 724 | 642 |
| 1924 . . | 16 | 43.003 | 1.800 | 3.361 | 420 |
| 1925 . . | 23 | 145.839 | 12.490 | 6.070 | 2.815 |
| 1926 . . | 32 | 147.476 | 19.982 | 9.873 | 3.262 |
| 1927 . . | 44 | 222.000 | 42.000 | 14.400 | 6.948 |

Факты паступленьня на саўхозскія сыраварні сялянскага малака, сьведчаць аб значэньні саўхозаў у будучым, як пунктаў па стварэньню малочных таварystваў і кантрольных саюзаў.

3. *Рост саўхозаў.* Саўхозы пачалі сваю арганізацыю з 1921 г. і перанесьлі цэлы шэраг зьмен; значная частка іх была ліквідавана, частка была абрэзана і г. д. У выніку ўсіх гэтых зьмен у складзе Белсельтрэсту на 1/VIII-27 г. лічыцца 157 зямельных адзінак на плошчы 86.835 гэкт. усіх ужыткаў, што складае нямнога больш 0,5% да ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Цягавую сілу саўхозаў складаюць коні і валы, мэханічную—трактары. Патрэба ў цягавай сіле вызначаецца колькасьцю 3774 коняй, а саўхозы маюць (у пераводзе ўсёй цягавой сілы на коні) 3.736 адзін, г. з. 99% нормы. Сюды ўваходзяць 49 трактараў „Фордзон“ і 9 „Каломенец“. Але цягавая сіла саўхозаў на 20 проц. складаецца з старых коняй, ваеннага браку, якіх трэба зараз-жа замяніць. З гэтай папраўкаю трэба прызнаць, што здавальняючым матэрыялам саўхозы ўкамплектаваны толькі % на 80.



Пладова-ягаднае вінаробства. Саўхоз Забалоцьце Арш. акр.

Даволі доўга балючым месцам у жыцьці саўхозаў было скарыстаньне ня толькі сенажацяй, але і пахаці з часьці. Недахоп сродкаў вытворчасьці вымушаў саўхозы ў першыя гады будаваньня стаць на гэты шлях. Але з паступовым ростам гаспадарак саўхозы ад гэтага пачалі адыходзіць і сваімі сіламі абхватваць усю пахатную плошчу. Аб гэтым зьявішчы ў жыцьці саўхозаў гавораць наступныя даныя:

| | Па гадох | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 |
| Плошча пахаці дзес. . . . . . | 44.377 | 25.982 | 25.136 | 27.518 | 35.598 | 30.671 |
| % скарыстаньня ад агульнай плошчы | 63,4 | 85,9 | 92,7 | 94,2 | 95,4 | 100% |
| Скарыстана сваімі сіламі . . . . | 41,6 | 75,5 | 84,8 | 94,2 | 98,87 | 100% |

Як мы бачым саўхозы ўсю тэрыторыю сталі скарыстоўваць ужо з 1926 г.

*Буйны рагаты скот.* У папаўненьні буйнай скаціны мы яшчэ далёка ня дасягнулі неабходнай нормы. Але ўсё-ж той вялізны рост саўхозскага стада, які мы маем зараз, сьведчыць аб тым, што саўхозы хутка давядуць свае стады да патрэбнай нормы. Колькасны рост буйнае рагатае жывёлы па гадох праходзіў так:

| ЖЫВЁЛЫ БЫЛО | Гады | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 |
| Узрослай малочнай жывёлы . . | 657 | 950 | 1529 | 1604 | 3157 | 3957 | 4724 |
| Маладняка . . . . . . . | 460 | 833 | 1385 | 1484 | 2900 | 2763 | 2798 |
| Сярэдняе на адну гаспадарку галоў дарослай . . . . . | 3,4 | 5,9 | 10,9 | 13,7 | 19,4 | 25,7 | 39,1 |
| Маладняка . . . . . . | 2,4 | 5·2 | 10,6 | 12,3 | 17,8 | 17,9 | 17,9 |

Маючаяся колькасьць буйнай рагатай жывёлы складае 34 проц. ад нормы, якую мы павінны трымаць для поўнага ўгнаеньня палёў і якую нам дазваляе трымаць налічча ў гаспадарцы гуменных кармоў. Склад стада па ўзростным групам амаль што нармальны.

Сярэдні гадавы ўдой павялічваўся так:

| | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 |
|---|---|---|---|---|
| Сярэд. гад. ўдой . . | 56 п. | 70 п. | 95 п. | 120 п. |

У палявой гаспадарцы саўхозаў адзначаецца пашырэньне травяного і бульбяного кліна за кошт зярновых культур, зьмены гэтыя паказаны ў табліцы.

| НАЗВА КУЛЬТУР | Гады | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 (па пляну) |
| Азімыя . . . | 45,5 | 37,9 | 32.6 | 29,6 | 26,6 | 24.6 |
| Яравыя . . . | 38,1 | 39,7 | 39,4 | 37,0 | 35,8 | 33,7 |
| Прапашныя . . | 7,9 | 9,5 | 8,7 | 11,7 | 15,7 | 18,1 |
| Канюшыны і травы . | 8,5 | 13,0 | 19,2 | 21,8 | 21,9 | 23,6 |
| Усяго . | 100% | 100% | 100% | 100% | 100% | 100% |

Бульбяны клін за пяцігодзьдзе ўзрастае да 18,1 проц. ад усёй пасяўной плошчы замест 7,9 проц. у 1922 годзе. Рост бульбянога кліна стварае базу для працы броварнай і крухмальнай вытворчасьці. Яшчэ большы ўзрост мы маем па канюшыне і сеяным травам (ад 8,59 да 23,6 прц. пасяўной плошчы), што забясьпечвае цэннымі кармамі.

Дзяржаўная культура насеньня організована ў саўхозах, каб поўнасьцю здаволіць патрэбу насельніцтва ў чыстагатунковым насенным матэрыяле. Дзяржаўная насенная культура мае дзьве базы—адна Гомельская ў скадзе 4 саўхозаў (Іванаўска-Дземьянскі, Ачэса-Рудня-Навасёлкі і Закружжа) для абсугоўваньня паўднёвага раёну БССР і другая Аршанская ў складзе 4 саўхозаў (Райцы, Межава, Усьце, Казечкі) для абслугоўваньня іншых раёнаў.

Акрамя таго ў саўхозах Трэсту маецца да 9000 гэкт. пасеваў з чыста гатунковым і палепшаным насеньнем. Такім чынам у Беларусі ў шырокім маштабе паложан пачатак насеннаводзтву.

Як вынік гаспадараньня саўхозаў, можна паказаць на іх рост асноўных, зваротных капіталаў саўхозаў і прыбыткаў па гадох.

| ЯКІ КАПІТАЛ | На 1/І-25 г. | На 1/І-26 г. | На 1/І-27 г. |
|---|---|---|---|
| 1. Асноўны . . | 5.575.659-38 | 5.981.911-36 | 6.292.815-59 |
| рост у проц. . | 100 | 107,3 | 113,0 |
| 2. Зваротны . . | 408.945-12 | 361.596-19 | 939.700-02 |
| рост у проц. . | 100 | 88,4 *) | 205,3 |
| 3. Прыбытак . | 332.702-90 | 491.626-85 | 409.286-70 |
| рост у проц. . | 100 | 221 | 184 |

*Быт рабочых саўхоза.* З ростам саўхозаў паляпшаецца і быт рабочых, Заработная плата рабочага ў 1925 г. для 1-га разрада раўнялася 8 р. 25 к., у 1926 г.—9 р. 60 к. і ў 1927 г. 10 р. 25 к., а з дабаўленьнем кожнаму рабочаму штомесечна 7 р. 30 к. замест натуральнага харчаваньня месячны заработак рабочага складае 29 р. 85 к. пры гатовай кватэры і апале. А з гэтай прычыны нам прышлося паставіць пытаньне аб ліквідаваньні ската ў рабочых, як пэражытак мінулага, калі рабочы прымушан быў мець сваю гаспадарку, бо саўхоз яго ў поўнай меры не забясьпечваў нават малочным пайком. Колькасьць сталых рабочых і служачых занятых у саўхозах з пашырэньнем вытворчасьці расьце з кожным годам: у 1926 г. было 3580 чалавек, у 1927 г. сталых 3662 і сэзонных 1300 чалавек, акрамя падзённых каля 475.000 чалавека-дзён. Аднак рост саўхозаў залежыць і ад рацыяналіацыі самой вытворчасьці. А гэта можна праводзіць толькі тады, калі ўсе рабочыя, занятыя ў вытворчасьці, зацікаўлены ў гэтай справе.

Каб уцягнуць рабочага ў справу рацыяналізацыі вытворчасьці, у саўхозах адбываюцца вытворныя нарады, дзе кожны рабочы сумесна з адміністрацыяй абгаворваюць пляны працы, кожнае намечае мерапрыемства і г. д. Інакш кажучы, рабочы саўхоза зараз зьяўляецца не батраком, а ён зьяўлляецца непасрэдным тварцом і удзельнікам сваёй вытворчасьці. Праўда ня ўсюды мы маем канчаткова складзеную такую псыхолёгію рабочага. Рабочы на справе пераканаўся, што рост саўхоза вядзе за сабой і паляпшэньне яго быта, (павышэньне зарплаты і г. д.)

*) Зьніжэньне зваротнага капітала з 100 проц. да 88 проц. на 1/І-26 г. тлумачыцца ліквідацыяй шэрага гаспадарак.

На жылбудаўніцтва ў саўхозах патрачана сродкаў:

| 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. (Намечана). |
|---|---|---|---|
| 9.102 р. 87. к. | 53.812 р. 72 к. | 204.102 р. 46 к. | 274.093 р. |

Сярод рабочых саўхозаў вядзецца і культасьветная праца. Так у 1926 г. ў клюбах саўхозаў было 1175 пастановак-спэктакляў, 528 час. лекцый, 774 бясед, 501 даклад. У саўхозах маецца 101 клюб і пры іх 82 бібліатэкі з лікам кніг па агульных пытаньнях—11.177 экз. і па с.-г.—2690 экз.

*Падаткі саўхозаў.* Савецкія гаспадаркі ўперуч з сялянскімі гаспадаркамі нясуць шэраг падаткаў (с.-г. падатак, прамзбор, уравзбор па прамысловых прадпрыемствах). Акрамя гэтага, да апошняга часу савецкія гаспадаркі абавязаны былі плаціць арэнду за зямлю. І толькі з 1927 г. арэнда з саўхозаў за зямлю зьнята.

Разьмер падаткаў і збораў, паступаючых у прыбытак казны можна бачыць з наступных даных:

| 1924 г. | 1925 г. | 1026 г. |
|---|---|---|
| 140.000 руб. | 166.276 р. 26 к. | 394.846 р. 62 к. |

Такім чынам, савецкія гаспадаркіі ня гледзячы яшчэ на цэлы шэраг недахопаў у працы, усё-ж такі пачалі выконваць галоўныя мэты, якія стаяць перад імі—гэта быць падставамі агрыкультуры і індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі, дапамагаючы селяніну паляпшаць сваю гаспадарку і паказваць на справе перавагі соцыялістычнага земляробства перад дробным.

**І. Стралкоў.**

---

# Што дала Кастрычнікавая рэвалюцыя сельскай беднаце.

Да рэвалюцыі найбольш балючым пытаньнем для сельскай бедната было зямельнае пытаньне, бо зямельная нястача была першай прычынай і голада і нядолі бедняка. Вось чаму пасьля Кастрычнікавай Рэвалюцыі, калі ўлада трапіла ў рукі рабочых і сялян, першы дэкрэт Савецкай улады быў выданы аб адабраньні зямлі ад памешчыкаў—капіталістых і ліквідаваньні прыватнай уласнасьці на зямлю, як і на іншыя прыродныя багацьці, а таксама фабрыкі і заводы.

У выніку гэтага сельская бедната получыла ад паноў у сваё працоўнае карыстаньне сельска-гаспадарчай плошчы 1.362.000 гэкт.
і лясоў мясцовага значэньня 492.000 „

Усяго . . 1.854.000 гэкт.

Страшэнна падумаць, колькі мільёнаў руб. прышлося-б плаціць беднаце памешчыкам за гэту зямлю, калі-б яе трэба было палучыць ад памешчыкаў дарэвалюцыйным спосабам—купляй.

Апрача таго, для дадатковага надзяленьня беднаты (беззямельных і малазямельных) у 1925 г. быў выдзелены новы зямельны фонд у 587.000 гэкт. З гэтага фонду 109.500 гэкт. будуць скарыстаны толькі

пасьля мэліорацыі, а рэшта ужо зараз разьмяркоўваецца сельскай беднаце. Калі ўлічваць і працы 1927 г., дык можна лічыць, што з запаснага фонду занова надзелена 14.920 гаспадарак.

і данадзелена 52.500 „

Пры земляўпарадкаваньні праводзіцца прынцып найбольшага спрыяньня беднаце, а іменна:

1. Надзяленьне і данадзяленьне беднаты праводзіцца бясплатна, а пры ўнутрыселішчным земляўпарадкаваньні праводзіцца бясплатна 35 проц. работ. Льготаю карыстаецца таксама бедната, на што дзяржава патраціла:

у 1925-26 г. 67.300 руб.
1926-27 г. 132.500 „

Для заснаваньня гаспадарак беднатою на новых месцах вылучаны дзяржавай земляўпарадкаваўчы фонд, з якога даюцца пазычкі на 10 г. з $2^{1}/_{2}$ проц. Гадавы разьмер гэтага фонду ў сыстэме с.-г. крэдыту дасяг 1 мільёна руб.

Для серадняцкіх гаспадарак на земляўпарадкаваньне прадстаўлен крэдыт у 1927 г. 552.000 руб.

2. Пры ўнутрысялібным земляўпарадкаваньні бедната звычайна з сялібы ня выходзіць, а пашырае яе да нормы, скарыстоўваючы зямлю сялібы вышэйшых груп і палучае блізкія і лепшыя землі.

У тых выпадках, калі беднацкая гаспадарка выходзіць з старой сялібы па сваёй волі, дык яна получае дапамогу лесам бясплатна ці льготна. Гэта льгота ў грашовым вылічэньні мае такі разьмер (руб.):

| | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1927-28 г.. |
|---|---|---|---|---|
| а) Адпушчана льготна і бясплатна беднаце лесу. . . . . | 1.127.313 | 822.728 | 309.000 | 300.000 |
| б) У крэдыт праз Белсельбанк . . . | 144.162 | 219.400 | 618.000 | 750.000 |

Для далейшай адбудовы бедняцкіх гаспадарак у 1926 г. створан спэцыяльны фонд крэдытаваньня. Склаўся гэты фонд так:

| | |
|---|---|
| а) Па дзяржбюджэту . . . . . . | 400.000 руб. |
| б) Сродкі рэзэрвнага фонду СНК . . . | 100.000 „ |
| в) Адлік з прыбыткаў Белсельбанку . . | 36.500 „ |
| | 536.500 руб. |

Зараз-жа гэты фонд дасягае 900.000 руб.

З гэтай сумы 56.500 р. выдана ЦК Сялян. Кам. Узаемадапамогі на організацыю натуральнага фонду, а рэшта пашла на крэдытаваньне бедняцкіх гаспадарак для набыцьця рабочых коняй, с.-г. машын, забудаваньня і г. д.

Для большага ўцягненьня сельскай беднаты ў коопэрацыю створан спэцыяльны фонд па коопэраваньню беднаты ў суме 19.729 руб.; фонд ідзе на ўплату бедняцкіх паёў.

На колькі гэта мерапрыемства жыцьцёвае, можна заўважыць па процанту беднаты ў с.-г. коопэрацыі.

| | Крэдыт. т-вы. | С.-г. т-вы | Малоч кооп. |
|---|---|---|---|
| Удзел беднаты ў коопэрацыі ў проц. . . . | 34 | 31,8 | 17,2 |

Лік-жа бедняцкіх гаспадарак да ўсіх гаспадарак рэспублікі складае 21,14 проц. Такім чынам, толькі ў малочнай коопэрацыі бедната мае меншы процант, чым процант бедняцкіх гаспадарак.

Вельмі выразнай дапамогай сельскай беднаце трэба лічыць і звальненьне 25 проц. бедняцкіх гаспадарак ад выплаты с.-г. падатку, што прымерна ў 1926-7 складае суму ў 690.000 руб.

Таксама трэба адзначыць, што і нашы савецкія гаспадаркі аказваюць бесплатна агрыкульную дапамогу беднаце праз ачыстку насеньня, бясплатную злучкў сялянскай скаціны з заводзкімі племянікамі і г. д.

Уся гэта дапамога саўхозаў беднаце складала.

у 1925 г. 35.000 руб.
1926 г. 97.040 „

У тым-жа кірунку пачынаюць разьвіваць агрыкультурную дапамогу і колектыўныя гаспадаркі.

Таксама трэба ўспомніць, што і ўся аграработа Савецкай аграноміі зьяўляецца бясплатнай для насельніцтва і гэтай дапамогай у першую чаргу карыстаюцца бедняцкія гаспадаркі, пасёлкі, шматпольнікі, і г. д. Гэты від дапамогі нельга дакладна паказаць у грашовым вылічэньні, але яна вельмі рэяльна для кожнай гаспадаркі завёўшай шматпольле, адсартаваўшай насеньне, абсталяваўшай цёплы і сьветлы хлеў, палучаўшай у крэдыт мінэральныя ўгнаеньні і г. д.

Затрымаемся яшчэ на працы Камітэтаў Сялянскай Узаемадапамогі, што для бедняцкай гаспадаркі зьяўляецца вельмі каштоўным.

Дапамога насеньнем, с.-г. машынамі і інш.

| Гады. | Беззваротная дапамога | | Зваротная дапамога | |
|---|---|---|---|---|
| | Лік гасп. | На суму | Лік гаспадар. | На суму |
| 1923-24 | -- | — | 8.687 | 66.000 |
| 1924-25 | 11.703 | 35.109 | 56.162 | 189.156 |
| 1925-26 | 4.168 | 15.722 | 118.230 | 571.582 |

Ачышчана сялянскага насеньня . . 960.302 пуд.
Дадзена юрыдычная дапамога . . 24.030 гаспадаркам.
„ мэдычная дапамога . . . 16.955 „
Коопэравана за грошы камітэтаў. . . 22.394 „

Таксама вясковай беднаце ў 1921 і 1922 г. аказвала значную дапамогу і наша Чырвоная армія, перадаючы ёй праз свае камісіі выбракаваныя і дэмабілізаваныя коні.

**Каровікаў.**




# Дасягненьні і недахопы ў працы сел.-гасп. коопэрацыі.

*(Да 10-ці годзьдзя Кастрычніка).*

Організавалася і пачала працаваць с.-г. коопэрацыя ў БССР толькі ў канцы 1921 г. калі з с.-г. сэкцыі пры Цэнтрабелсаюзе быў організован самастойны саюз „Белсельпромсаюз“, чаму 10-ці годзьдзе Кастрычніка ня ёсьць дзесяцігодзьдзе с.-г. коопэрацыі. Коопэрацыя к гэтаму часу можа лічыць толькі 6 гадоў сваёй працы.

Але ўсё-ж ня гледзячы на гэта, ёсьць неабходная патрэба выявіць, што зроблена с.-г. коопэрацыяй за гэтыя 4 гады. Гэта пакажа нам, што толькі пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі с.-г. коопэрацыя магла шырока разгарнуць сваю працу.

Ва ўмовах савецкае дзяржавы коопэрацыя наогул, а асабліва с.-г. коопэрацыя мае вельмі важнае палітычна-эканамічнае значэньне. І гэта кожнаму зразумела.

Адзначу, што ў нас у працы дзьвюх сыстэм коопэрацыі—*сельскагаспадарчай і спажывецкай* часта ня ўлічваюць той розьніцы, якая ёсьць паміж гэтымі двумя сыстэмамі коопэрацыі.

Вось узяць хаця-б організацыйнае пытаньне. У спажывецкай коопэрацыі яно вельмі проста, бо там адзін від коопэрацыі, дзе пабудавана зусім закончаная сыстэма для правядзеньня тавараў. У с.-г. коопэрацыі такой сыстэмы няма і пакуль-што і быць ня можа, бо гэта коопэрацыя расьце і пашыраецца, як расьце і пашыраецца сельская гаспадарка наогул. З прычыны гэтага спажывецкі саюз яшчэ доўга будзе ісьці паперадзе с.-г. коопэрацыі. Спажывецкая коопэрацыя абмяжоўваецца толькі зваротам тавараў, *а гэта справа лёгкая.*

Вось чаму спажывецкая коопэрацыя лепш наладзіла сваю працу і хутчэй узмацнілася, чым с.-г. коопэрацыя. Таксама і гістарычныя ўмовы разьвіцьця спажывецкай коопэрацыі былі больш спрыяючыя. Да яе перашлі сродкі, якія засталіся ад царскай коопэрацыі і ад дзяржавы.

Умовы-ж працы с.-г. коопэрацыі зусім іншыя: напэўна яны былі на многа горшыя, чым тыя, пры якіх працавала спажывецкая коопэрацыя.

Усё гэта трэба браць пад увагу пры ацэнцы дасягненьняў с.-г. коопэрацыі.

Цяпер пяройдзем да лічбаў, якія пакажуць рост с.-г. коопэрацыі ад пачатку яе існаваньня і да 1-га ліпеня 1927 г.

У час організаваньня Белсельпромсаюзу, ён абхопліваў 18 аб'яднаньняў, якія мелі да 300 пайшчыкаў. Як ішло коопэраваньне насельніцтва далей, відаць з наступных лічбаў:

| | 1-X 1924 г. | 1-X 1925 г. | 1-X 1926 г. | 1-X 1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| Колькасьць аб'яднаньняў . . | 849 | 904 | 947 | 1201 |

Гэтыя начальныя організацыі аб'ядналіся 8 саюзамі (самім Белсельсаюзам і 7 акруговымі саюзамі). За гэты час было коопэравана такая колькасьць сялянскіх двароў:

| | 1-X 1924 г. | 1-X 1925 г. | 1-X 1926 г. | 1-X 1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| Колькасьць членаў | 48.074 | 122.230 | 188.022 | 272.375 |
| % коопэраваньня . | 7,4 | 17,5 | 27,4 | 34,5 |



Коопэраваньне сялянскіх гаспадарак ў %%

Рост балянсу па сельска-гаспадарчых т-вах і с.-г. крэдытных т-вах, Акрсельсаюза і Белсельсаюза з 1 кастрычніка 1924 г. па 1-га кастрычніка 1927 г. выяўляецца ў такім відзе:

| | 1-X 1924 г. | 1-X 1925 г. | 1-X 1926 г. | 1-X 1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| Рост балянсў (у тыс. руб.) . . | 3024,6 | 8456,5 | 14924 | 22381,3 |

Звароты с.-г. коопэрацыі па снабжэньню і збыту можна бачыць з табліцы (у тыс. руб.):

| | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|---|
| Снабжэньне . . | 2.855 | 7.887 | 12.720 | 16.060 |
| Збыт . . . | 2.535 | 7.588 | 11.403 | 13.165 |
| Усяго . . | 5390 | 15.475 | 24.123 | 29.225 |

Рост пайшчыкаў па галоўных галінах с.-г. коопэрацыі з 1-га кастрычніка 1924 г. па 1-е ліпеня 1927 г. паказана ў наступнай табліцы:

| ГРУПЫ СЕЛЬСК.-ГАСПАДАРЧАЙ КООПЭРАЦЫІ | Лічылася членаў на | | | | К мінуламу году ў % % | | | Кооп. на 1-VII 1927 г. па групам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1-X 1924 г. | 1-X 1925 г. | 1-X 1926 г. | 1-VII 1927 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | |
| С.-г. крэдытн. т-вы . . | 27898 | 90502 | 148636 | 227131 | 324 | 163 | 142 | 28,8 |
| С.-г. таварыствы . . . | 10230 | 18151 | 22435 | 12934 | 177 | 123 | 55,8 | 1,6 |
| Колхозы . . . . . | 6085 | 6471 | 5342 | 7369 | 106 | 82 | 133 | 0,9 |
| Малочныя арцелі . . . | 958 | 1867 | 3719 | 8797 | 194 | 190 | 229 | 1.1 |
| ншыя спэцыяльныя віды кооперацыі . . . . | 2614 | 4994 | 7501 | 14796 | 191 | 150 | 197 | 1,9 |
| Саматужна-прамысловыя . . | 289 | 245 | 389 | 1338 | 86 | 158 | 116 | 0,2 |
| Усяго . . . | 48074 | 122230 | 188022 | 272375 | 254 | 153 | 135 | 34,5 |




Звароты па збыту-снабжэньню ў тыс. руб.

Сацыяльны склад пайшчыкаў с.-г. крэдытных т-ваў, с.-г. таварыстваў і малочных арцеляй па вырабу масла і сыру на 1926-27 г. паказваецца далей у проц.

| ГРУПЫ | С.-г. крэдытн. т-вы | Сел.-гасп. т-вы | Малочныя т-вы |
|---|---|---|---|
| Беднякі [1] . . . . | 34,0 | 31,8 | 17.2 |
| Серадннякі . . . . . | 61,4 | 63.7 | 75,6 |
| Заможныя . . . . | 4,6 | 4,5 | 7,2 |
| Усяго . . . | 100 | 100 | 100 |

[1]) Да бедняцкіх адносяцца гаспадаркі, якія засяваюць ня больш 2-х дзес. Да серадняцкай гаспадаркі—з плошчаю засеву 2-8 дзес., з 1 канём і 2 каровамі. Да заможных тыя, у якіх засеяна больш 8 дзес., ёсьць 2 кані і 3 каровы.

С.-г. коопэрацыя ахапляе да 235 пунктаў па перапрацоўцы малака, з іх заводаў па вырабу масла 92, сыраварных заводаў 102 і 41 пункт па збыту няздыманага малака. За час сваёй працы (уключаючы сюды 1926-27 г.) гэтымі заводамі было выраблена масла—22.4000 п., сыру—47.900 пуд., прадана малака 7 мільёнаў літраў; усяго на суму 2.479.0)0 руб. У сетку коопэратываў уваходзіць яшчэ 115 мэліорацыйных т-ваў.

Паказаныя лічбы, гавораць аб тым, што с.-г. коопэрацыя за гэты час расла і расла досыць шпарка. Раўняць нашу коопэрацыю з тэй, якая была да рэвалюцыі амаль што немагчыма, бо ў той час ня было ніякіх відаў коопэрацыі, апрача крэдытовай. Тыя нямногія весткі, якія захаваліся, гавораць нам, што толькі заможнае насельніцтва магло быць пайшчыкам царскай крэдытовай коопэрацыі. Бедната ніякага ўдзелу ў гэтым ня прымала, бо ўмовы, якія ставіла крэдытовая коопэрацыя, былі не пад сілу беднаце.

Наша-ж с.-г. коопэрацыя пастаўлена іначай; савецкая дзяржава імкнецца ня толькі да таго, каб організацыя давала больш прыбыткаў, а і да таго, каб праца данай оргацізацыі адпавядала лёзунгам соцыяльнай палітыкі савецкай дзяржавы. Праўда, розныя віды коопэрацыі па сацыяльных адзнаках і ў нас даюць неаднолькавыя процанты. Напрыклад, ў крэдытных с.-г. таварыствах, машынных і колхозах большы процант падае на беднату; малочная-ж коопэрацыя яднае больш заможнае насельніцтва, бо яна зьвязана кароўнасьцю двара. У колхозах—пайшчыкі на 64 проц. бednякі (батракі і малазямельныя).

Усё паданае гаворыць аб тым, што с.-г. коопэрацыя ў БССР ва ўмовах савецкае дзяржавы разгарнула сваю працу нязвычайна шырока. У гісторыі коопэрацыйнага руху няма прыкладаў больш шпаркага разьвіцьця с.-г. коопэрацыі ні ў аднэй з буржуазных краін. Падругое, коопэрацыя ва ўмовах савецкай дзяржавы мае вельмі важнае палітычна-эканамічнае значэньне, бо толькі праз коопэрацыю магчыма будзе пабудаваць соцыялізм у вёсцы. А такія мажлівасьці хуткага росту коопэрацыя палучыла толькі ў выніку Кастрычнікавай рэвалюцыі і дыктатуры пролетарыяту.

Гаворачы аб выніках працы і дасягненьнях коопэрацыі, адзначым і недахопы працы, каб у будучым пазбавіцца іх. Тут першае і асноўнае гэта тое, што сыстэма с.-г. коопэрацыі вельмі шырокая: у нас шмат розных відаў коопэрацыйных ячэек, нашы саюзы коопэрацыі унівэрсальны. Усё гэта перашкаджае кіраваньню ў працы. Калі магчыма больш-менш наладзіць снабжэньне і збыт вытворчых коопэратываў, дык тэхніка абслугаваньня іх саюзамі амаль немагчымая рэч. Гэту працу саюзы і цяпер выконваюць дрэнна. У будучым тут патрэбна дапамога дзяржаўнага апарату.

Другое, па ўсёй БССР побач з коопэратывамі працуюць розныя спэцыяльныя дзяржаўныя загатоўчыя пункты, якія, замест таго, каб дапамагаць коопэрацыі, перашкаджаюць ёй. Коопэрацыя цалкам залежыць ад гэтых дзяржаўных загатавіцеляў, хоць гэта і павінна так быць, але дрэнна пачынае выглядаць гэтая залежнасьць, калі коопэрацыйнай ячэйцы прыходзіцца здаваць свае прадукты тэй дзяржаўнай організацыі, якая мае свае загатоўчыя пункты і хоча іх пашырыць. У такім разе дзяржаўная загатоўчая організацыя аддае перавагу сваім агентам, і ў выніку ўсяго гэтага коопэрацыя церпіць страту.

Трэцяе гэта тое, што коопэрацыя ёсьць ня толькі гандлюючы апарат, але яна павінна інструктаваць і займацца коопэрацыйным выха-

ваньнем сваіх членаў, і дзеля гэтага яна павінна мець належны апарат. А між тым яе ставяць у аднолькавыя ўмовы з дзяржаўнымі загатоўчымі органамі.

І яшчэ адно я хачу адзначыць, што часта да с.-г. коопэрацыі адносяць ўсе тыя аб'яднаньні, якія нельга зьвязаць з іншымі сыстэмамі коопэрацыі.

Гэта зусім ня правільны погляд, бо ня можна, скажам, т-ва па агнятрываламу будаўніцтву аднесьці да с.-г. коопэрацыі толькі таму, што яны організованы на вёсцы.

Я скажу аб мэліорацыйных т-вах. Гэты від коопэрацыі набывае асаблівае значэньне ў БССР, дзе вялікая плошча зямлі забалочана і дзе трэба праводзіць вялікія мэліорацыйныя работы. Гэтыя работы павінна ўзяць на сябе насельніцтва, бо дзяржава можа толькі дапамагаць у гэтым.

Але мэліорацыйныя аб'яднаньні носяць часовы характар. Яны організуюцца, каб асушыць якую-небудзь плошчу балот і, выканаўшы сваю працу, павінны будуць зьнікнуць. Цяпер паўстае пытаньне ці магчыма гэтыя т-вы зваць коопэратывамі? Тэхнічнае абслугоўваньне іх, бязумоўна, павінна ўзяць на сябе дзяржава. Гэты прыклад я ўзяў, каб уявіць, якую працу па інструктаваньню і організацыі гэтых коопэратываў павінны ўзяць на сябе саюзы і што трэба аднесьці на спэцыяльны апарат НКЗБ.

Да недахопаў, якія залежаць ад самой сыстэмы, трэба аднесьці наступнае: мы слаба вядзем чыста коопэрацыйную працу; дрэнна абслугоўваем свайго пайшчыка, зьвяртаем мала ўвагі на яго запатрабаваньні. Дрэнна пастаўлены ў нас вучот і адчотнасьць. Слаба скарыстоўваем сродкі самаго насельніцтва, між тым як на гэтым павінна грунтавацца наша праца.

Апарат наш вялікі і дарагі, а здольнасьць яго да працы слабая. Трэба зьнішчыць усе гэтыя недахопы, трэба ўнесьці ў нашу працу больш яснасьці і тады, пры дапамозе савецкай дзяржавы, пад кіраўніцтвам ленінскай Камуністычнай партыі, с.-г. коопэрацыя пойдзе далей па шляху свайго росту і замацаваньня.

**Н. Аксючыц.**

---

# Колектыўнае будаўніцтва на Беларусі.

„Праз сельска-гаспадарчыя колектывы да соцыялістычнага земляробства“ вось лёзунг, які быў кінуты правадырамі Савецкай улады і Камуністычнай партыяй.

Шлях, які прайшлі с.-г. колектывы, быў надзвычайна цяжкі, але ён мае цяпер сваю гісторыю і зараз, калі спаўняецца 10 год Кастрычнікавай рэвалюцыі, неабходна адзначыць тыя дасягненьні, якія маюцца ў справе колектыўнага будаўніцтва.

На Беларусі ўмовы для разьвіцьця с.-г. колектываў былі спрыяючыя. У даваенны час у нас аграмадная плошча зямлі (1.042 тыс. дзес.) была ва ўладаньні паноў, а сялянства мела недахоп зямлі. Значыць з аднаго боку быў сельскі пролетарыят—батракі, а з другога сярод насельніцтва ўтварыўся поўпролетарыят—бедната. Зьвярнуўшыся ў вёску з гораду, рабочыя яшчэ дапаўнялі гэту сям'ю.

Вось тыя слаі, якія і зьявіліся організатарамі колектыўных гаспадарак. Якраз У. І. Ленін на І Зьезьдзе камбедаў і колектываў заўва-

жыў гэта, калі сказаў: „с.-г. колектывы перш за ўсё павінны абхапіць сваёй організацыяй пролетарскія і поўпролетарскія элемэнты вёскі, якія ў сваім руху змогуць уцягнуць і сялянства дзеля будаўніцтва сельскай гаспадаркі на соцыялістычніх асновах“. Але словы вялікага настаўніка не адразуператвараюцца ў жыцьцё. Мы бачым, што ў асноўным законе аб зямлі (Дэкрэт ад 2-IV 1918 г.), колектыўнаму земляробству было адведзена не значнае месца. І толькі ў 1919 годзе ў палажэньні аб земляўпарадкаваньні колектыўнае будаўніцтва займае цэнтральнае месца. У гэтым палажэньні заўважана, што на ўсе формы індывідуальнага (паасобнага) землякарыстаньня трэба глядзець, як на пераходныя формы, але яны павінны зьнішчацца шляхам не капіталістычнага ўдушэньня, а шляхам соцыялістычнага растварэньня.

Разьвіцьцё колектыўнага руху на Беларусі ішло неаднолькава. У гэтым сэнсе БССР можна падзяліць на дзьве часткі—1) Меншчыну 2) Віцебшчыну і Магілеўшчыну.



Агульны выгляд Камуны Карла Лібкнехта.

На Меншчыне колектывы пачалі організоўвацца толькі з 21 г. Раней гэтага часу польская окупацыя і бандытызм затрымоўвалі колектыўны рух.

Рост колектываў па Меншчыне паказвае табліца:

| На які час / Назва | 24-V.-1921 г. | Сьнежань 1921 г. | 1-I—1923 г. |
|---|---|---|---|
| Камуна . . . | — | 6 | 7 |
| с-г. арцель . . | 4 | 26 | 37 |
| Плошча зямлі (дзес). | — | 3.213 | 4.202 |

У 1923 годзе наступае як бы стабілізацыя гэтага ліку колхозаў, што ў значнай меры тлумачыцца імкненьнем зямельных органаў узмацніць і пашырыць паасобную сялянскую гаспадарку. А гэта дыктавалася агульна-эканамічнымі ўмовамі. Трэба было падняць вытвор-

часьць сельскай гаспааркі наогул. Колектывы-ж былі прадстаўлены самі сабе. Аднак колектыўны рух не застыў, а паступова рос і замацоўваўся. Далей у табліцы паказваецца рост колхозаў на ўсёй БССР, з 1919 г. па 1927 г.

| Назва колхозаў | 1919 | 1920 | 1921 | 1922 | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Камуны . . . | 12 | 23 | 29 | 34 | 40 | 44 | 44 | 45 | 48 |
| с.-г. арцелі . . | 5 | 32 | 55 | 90 | 139 | 266 | 282 | 257 | 295 |
| Т-вы па агульнай апрацоўцы зямлі . . | 7 | 19 | 25 | 29 | 45 | 68 | 85 | 66 | 76 |
| УСЯГО . . | 24 | 74 | 109 | 153 | 224 | 378 | 411 | 368 | 419 |

Як бачым, рост колектываў не скарачаўся, а, наадварот, павялічваўся. Толькі ў 1926 годзе заўважваецца зьмяншэньне на 43 кол. адзінкі. Гэта зьявішча тлумачыцца шпаркім ростам у 1925 г., калі шмат колектываў было з'організована, ня маючы пад сабою эканамічнага грунту.



Праца пры пачатку організацыі Камуны К. Лібкнехта. Сяўба ў 1919 г.

За гэты час існуючыя гаспадаркі ўзмацніліся. За апошнія 2 гады лік аб'яднаньняў ідзе ўгору. Таксама скараціліся плывучасьць людзкога складу.

Сацыяльны склад насельніцтва з пункту погляду дырэктыў партыі досыць вытрыманы. Большасьць членаў з сялянскай беднаты:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сялян безьзямельных | 31,5% | Рабочых . . . | 9,5% |
| „ малазямельных | 21,0% | Служачых і саматужнікаў | 4,5% |
| „ батракоў . | 30,5% | і інш. . . . . | 3% |
| | | | 100% |

На нацыянальнасьці — беларусаў 60 проц., яўрэяў — 23 проц. іншых 17 проц. (палякі, латышы і інш).

Партыйны склад паказаны ў табліцы (%%):

| Віды колхозаў | Членаў КПБ. | Кандыдат. КПБ. | ЛКСМ. | Беспартыйн. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| У камунах . . . | 6,2 | 3,7 | 3,7 | 86,4 | 100 |
| У арцелях . . . | 0,6 | 0.7 | 4,3 | 94,4 | 100 |
| У т-вах . . . | 0,2 | 0,1 | 5,4 | 94,3 | 100 |

Калхозны рух расьце сярод нацменшасьцяй і асабліва сярод яўрэйскага насельніцтва. Пачынаючы з 1925 г. па 1927 г. організованы 124 яўрэйскіх колектываў на плошчы 14.086 дзес. зямлі, дзе працуе 1.066 сем'яў у 4.681 чалавек.

Уся зямельная плошча колектываў БССР на 1927 г. раўняецца 50.416,7 дзес., што састаўляе 0,88 проц. ад агульнай с.-г. плошчы БССР.

Пахаць займае—56 проц., сенажаць—21 проц. сад і агарод.—4,3%, астатняя—лес, выган і інш.—18,7 проц.

Як забясьпечаны с.-г. колектывы капіталамі (па даных выбар. абсьледваньня), відаць з настунай табліцы:

У сярэднім прыходзіцца на 1 колектыўн. гаспадарку руб:

| Віды колектываў. | Будынкаў | Няжывога інвэнтару | Жывога інвэнтару | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Камуны . . . . | 7.842 | 4.096 | 4.018 | 15.956 |
| с.-г. арцелі . . . | 4.386 | 1.320 | 2.230 | 7.736 |
| Т-ва па агульнай апрац. зямлі . . . . | 7.474 | 1.087 | 2.832 | 8.693 |

Табліца паказвае, што капіталамі лепш забясьпечаны камуны. Але для плошчы колектыву гэта нявыскхая лічба. На 1 дзес. зямельнай плошчы тут прыпадае 89,3 р., а ў сялянскіх гаспадарках маецца 106,3 р. на 1 дзес. У колектываў ёсьць недахоп капіталаў, асабліва ў жывым інвэнтару.

Як забясьпечаны колектывы і сялянскія гаспадаркі коньмі, паказана ў табліцы.

Прыпадае дзесяцін пахаці на 1 каня:

| Віды колектываў. | У 1922 г. | 1924 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Камуны . . . | 12,4 | 11,0 | 9,5 |
| Арцелі . . . | 9,3 | 9,0 | 8,2 |
| Т-вы . . . . | — | 8,0 | 7,2 |
| Сялянскія гаспадаркі . | — | 5,3 | 5,1 |



Камунары на пакосе (Камуна К. Лібкнехта).

Значыць, рабочы конь у колектывах мае большую нагрузку.

Як забясьпечаны колектывы і сялянскія гаспадаркі малочнай жывёлай, паказана ў другой табліцы.

Прыходзіцца караў на 100 дзес. пахаці:

| Віды колектываў | 1922 г. | 1924 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Камуны . . . | 6,6 | 18 | 22 |
| Арцелі . . . . | 18,0 | 20,5 | 21 |
| Таварыствы . . . | — | 18,8 | 20 |
| Сялянскія гаспадаркі . | — | 27,7 | 31·4 |

У колектывах маецца менш кароў, чым у сялянскіх гаспадарках. Наступная табліца паказвае, колькі прыходзіцца кароў на 10 едакоў,

| Віды колектываў | 1922 г. | 1924 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Камуны . . . | 17,5 | 20,2 | 23,0 |
| Арцелі . . . | 25,0 | 26,0 | 29,5 |
| Т-вы . . . . . | — | 21,0 | 23,7 |
| Сяляскія гаспадаркі . | — | 25,2 | 30,0 |

Зноў-жа колектывы маюць менш кароў, чым маюць сялянскія гаспадаркі, але каровы колектываў значна лепшыя, чым сялянскія.

Галоўнай галінай у сельскай гаспадарцы колектываў зьяўляецца паляводзтва. У параўнаньні з сялянскімі гаспадаркамі ў колектывах засяваюцца больш выгадныя культуры. Так, на кожныя 100 дзес. засева занята рознымі культурамі:

| Гады | У колектыўных гаспадарках | | | | | У сялянскіх гаспадарках | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зярновыя | Тэхнічныя | Караньплод. і бульба | Сеяныя травы | Усяго | Зярновыя | Тэхнічныя | Караньплоды і бульба | Сеяныя травы | Усяго |
| 1922 . . . | 87,8 | 1,1 | 6,3 | 4,8 | 100 | 83,1 | 3,2 | 11,8 | 2,2 | 100 |
| 1924 . . | 72,07 | 2,76 | 10,59 | 14,58 | 100 | 82,6 | 3,4 | 10,3 | 3,7 | 100 |
| 1926 . . . | 67,58 | 2,80 | 11,97 | 17,65 | 100 | 78,6 | 4,6 | 11,9 | 4,9 | 100 |

Ураджайнасьць галоўных культур колектыўных гаспадарак таксама ў апошнія гады перавышае сялянскія ўраджаі, што можна ўгледзець з табліцы.

Ураджай галоўных культур.

| Культуры | У колектыўных гаспадарках | | | У сельскіх гаспадарках | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1922 г. | 1924 г. | 1926 г. | 1922 г. | 1924 г. | 1926 г. |
| Жыта . . . | 41,5 | 45,5 | 70,0 | 46,0 | 48,1 | 42,1 |
| Ячмень . . . | 46,0 | 46,0 | 76,0 | 45,0 | 51,2 | 46,0 |
| Авёс . . . | 30,7 | 47,0 | 77,0 | 51,0 | 55,7 | 45,9 |
| Бульба . . . | 60,2 | 587 | 738,0 | 523 | 548 | 5,72 |

Валавая прадукцыя колектыўных гаспадарак згодна вылічэньняў ЦСУ Беларусіі ўзрастае такім парадкам:

Валавы прыбытак колектыўн. гаспадар. (тыс. руб.).

| 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| 3.503,7 | 4.479,1 | 5.696,6 | 5.191,7 |

Якую частку прадуктаў у кожнай галіне гаспадаркі прадаюць колектывы, паказана ў табліцы (2-я, 4-я і 6-я графа):

| Галіны гаспадаркі | 1924 г. | | 1925 г. | | 1926 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Доля ў валавым прыбытку ў %% | Таварная частка ў %% | Доля ў валавым прыбытку ў %% | Таварная частка ў %% | Доля ў валавым прыбытку ў %% | Таварная частка ў %% |
| Паляводзтва . . . | 62,11 | 22,80 | 50,96 | 32,78 | 54,81 | 11,80 |
| Жывёлагадоўля . . | 23,63 | 5,40 | 23,88 | 7,73 | 24,15 | 5,06 |
| Садоўніцтва . . . | 4,0 | 92,56 | 9,79 | 9,19 | 5,78 | 86,53 |
| Тэхнічныя прад. . . | 10,26 | — | 14,34 | — | 15,26 | — |
| Таварная частка ад усей прадукцыі . | — | 21,2 | — | 25,2 | — | 20,0 |

Разам з ростам валавых прыбыткаў павялічваецца і таварнасьць. Галоўную частку таварнай масы складаюць прадукты паляводзтва. Таварная частка жывёлагадоўлі штогод павялічваецца.

Увядзеньне шматпольля ў колектывах паказана ў наступнай табліцы.

| Севазвароты | 1922 г. | 1924 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Трохпольле . . | 92,5 | 43,0 | 20,0 |
| Шматпольле . | 7,5 | 57,0 | 80,0 |

Колектывы Беларусі маюць і тэхнічныя прадпрыемствы. У мінулым годзе іх было:

| Віды прадпрыемстваў | Колькасьць | Віды прадпрыемстваў | Колькасьць |
|---|---|---|---|
| Млыноў паравых . | 16 | Крухмальняў . . | 5 |
| „ вадзяных . | 23 | Лесапільняў . . | 6 |
| Маслабойняў . . | 10 | Кузьняў . . . | 2 |
| Масла-сыра-вытворчыя заводы . . . | 23 | Усяго . | 86 |

Як бачым, больш паловы прадпрыемстваў складаюць млыны і масла-сыраварачныя заводы. У гэтым годзе колькасьць прадпрыемстваў павялічылася.

Агрыкультурная работа с.-г. колектываў разгортваецца і аказвае значны ўплыў на абкружаючае сялянскае насельніцтва. У колектывах сяляне знаходзяць злучныя пункты, ачышаюць на іх машынах насеньне, атрымоўваюць с.-г. машыны па пракат і інш.



Прыборка сена ў 1927 г. Камуна К. Лібкнехта.

У напрамку культурна-асьветнай працы ў колектывах ёсьць таксама дасягненьні. У іх маюцца клюбы, чытальні, бібліатэкі, у многіх з'арганізаваны ячэйкі КП(б)Б, ЛКСМБ і іншыя грамадзкія арганізацыі.

Пісьменнасьць насельніцтва згодна абсьледаваньня РСІ, у колектывах значна большая, чым у сялян. Трэба гэты рух колектываў перакінуць і ў сялянскія масы.

С.-г. колектывамі пройдзен ужо вялікі шлях у справе перабудовы сельскай гаспадаркі. Зараз у іх асобе мы маем фундамант для пабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычных пачатках, і мы на 10-й гадавіне Кастрычніка з гонарам можам сказаць, што словы і думкі Ўладзімера Ільліча ўжо ажыцьцяўляюцца на справе.

**Ц. Сэкцыя Колектываў.**

---

# Сыстэма с.-г. крэдыту ў мінулым і сучасным.

**Дарэвалюцыйныя формы с.-г. крэдыту.** Крэдытныя запатрабаваньні сельскае гаспадаркі на Беларусі ў дарэвалюцыйны час абслугоўваліся цэлым шэрагам самых рознастайных крэдытных устаноў, прычым найбольшая сума пазычковых капіталаў ішла на абслугоўваньне зваротаў з зямлёю (купля-продаж).

Існавала два дзяржаўных зямельных банкі: адзін пад назвай „*Шляхецкі*“, а другі „*Сялянскі*“ і апрача таго шэраг прыватных акцыянэрных зямельных банкаў, якія толькі тым і займаліся, што давалі пазычкі пад заклад зямлі. Сялянскі пазямельны банк хоць і меў назву сялянскага, але фактычна дапамагаў абшарнікам вызваліцца ад тых пустых

зямельных абшараў, якія засяваць пасьля адмены прыгоннага права наёмнай працай рабілася нямэтазгодным.

Ня меншая стракатасьць наглядалася і ў абслугоўваньні вытворчых патрэб сельскай гаспадаркі. Тут наглядаўся вельмі гостры падзел паміж крэдытаваньнем буйных абшарніцкіх гаспадарак і дробных сялянскіх. Крэдытныя запатрабаваньні абшырніцкіх гаспадарак здавальняў Дзяржбанк і шэраг прыватных банкаў, якія шырока адчынялі свае дзьверы гэтым гаспадаркам і шырокай хваляй улівалі ў іх пазычковыя капіталы.

Іншая справа была ў абслугоўваньні крэдытных патрэб сялянскіх гаспадарак і асабліва бядняцкіх. Туды пазычковыя капіталы пранікалі вельмі павольна, а размерам і формаю далёка не здавальнялі іх патрэб.

Доўгатэрміновага крэдыту на вытворчыя патрэбы сялянскіх гаспадарак, як на каня, карову, с.-г. машыну ня было. Толькі ў часе так званай Сталыпінскай зямельнай рэформы пачаў арганізоўвацца землеўпарадкаўчы крэдыт, які выдаваўся праз землеўпарадкаўчыя камісіі Галоўнага кіраўніцтва земляробства, але даваўся ён толькі тым, хто пераходзіў на хутары. На хутары-ж у той час садзіліся толькі больш заможная частка вёскі, значыць і крэдыт гэты пападаў у рукі больш моцных сялянскіх гаспадарак. Больш-менш нормальная крэдытная дапамога сялянству на яго вытворчыя патрэбы праводзілася толькі ўстановамі так-званага дробнага крэдыту. Да гэтых устаноў належалі валасныя пазычкова-ашчадныя касы і крэдытна-коопэрацыйныя організацыі (пазычкова-ашчадныя і крэдытныя таварыствы).

У нас на Беларусі крэдытна-коопэрацыйная справа зьявілася яшчэ ў 1898—1900 г. г.

Да 1907 году было 41 т-ва, а пасьля 1907 г. гэты від крэдытных організацый пачаў больш шырока разьвівацца. Асобліва разьвіцьцё крэдытна-коопэрацыйнай справы на Беларусі тлумачыцца тым, што ў царскія часы ўсякія праявы грамадзкай самадзейнасьці прыдушваліся, асабліва на акраінах, якой зьяўлялася Беларусь.

У 1916 г. на тэрыторыі сучаснай Беларусі налічвалася 495 пазычкова-ашчадных і крэдытных коопэрацыйных організацый, вакол якіх было аб‘яднана да 330 тыс. земляробаў і рамесьнікаў. Балянс гэтых організацый на 1 студзеня 1916 г. раўняўся 16.292 тыс. руб., прычым на долю сялянскіх і рамесьніцкіх укладаў прыходзілася 11.815 тыс. руб. (72 проц.). Дзяржаўныя і банкавыя крэдыты дасягалі толькі 2 міл. р. (12 проц.).

Валасных пазычкова-ашчадных кас налічвалася ў нас 362 з балянсам 7.043 тыс. руб., з якіх 4.273 тыс. руб. складалі сялянскія уклады.

Кіруючы апарат крэдытных т-ваў таго часу, а таксама і ў валасных касах знаходзіўся ў руках больш заможных груп вёскі, а адпаведна гэтаму ішоў і рух крэдытных сродкаў. Невялікія сродкі, што знаходзіліся ў гэтых установах дробнага крэдыту, пападалі ў тыя гаспадаркі, якія і без таго былі досыць моцнымі, а бядняцкая і нават серадняцкая гаспадарка амаль што не карысталася адтуль крэдытам. Гэтыя апошнія гаспадаркі былі пазбаўлены магчымасьці карыстацца організаванай крэдытнай дапамогай і звычайна пазычалі грошы ў вясковых „добродетелей“, вясковых і местачковых багацеяў, якія давалі ім у пазычку грошы на кабальных умовах.

**Характар пабудовы сучаснай сыстэмы с.-г. крэдыту і яе праца.** Кастрычнікавая рэволюцыя канчаткава зьнішчыла стары зямельна-крэ-

дытны інстытут. Нацыяналізацыя зямлі, забарона зьдзелак па куплі-продажы зямлі зрабілі гэты інстытут (зямельныя банкі) зусім непатрэбнымі.

Аднак у пачатку рэвалюцыйных падзей спынілі сваю дзейнасьць і крэдытныя ўстановы, якія дастаўлялі пазычковыя капіталы на вытворчыя патрэбы сельскай гаспадаркі.

Вайна і окупацыя (нямецкая і польская), якія вельмі разбурылі наогул народную гаспадарку Беларусі, зруйнавалі на вёсцы і крэдытна-коопэрацыйныя організацыі.

Савецкай уладай быў заснован для крэдытнай дапамогі сельскай гаспадарцы зусім новы крэдытны інстытут, вядомы пад назвай сыстэмы с.-г. крэдыту.

Сыстэма с.-г. крэдыту пабудавалася на прынцыпах, якіх ня ведае яшчэ ніводная краіна: яна пабудована на дзяржаўна-коопэрацыйнай падставе, дзе злучаецца кіруючая роля дзяржавы з ініцыятывай сялянскіх мас. Вышэйшыя зьвеньні гэтай сыстэмы пад назвай Сельбанкаў пабудованы ў выглядзе акцыянерных т-ваў з удзелам дзяржаўных і коопэрацыйных сродкаў, а ніжэйшыя зьвеньня прадстаўляюць сабою самастойныя коопэрацыйныя організацыі пад назвай с.-г. крэдытных таварыстаў.

Усе віды с.-г. крэдыту (буйны, дробны, землябудаўнічы, мэліорацыйны) аб'яднаны ў гэтай адзінай с.-г. крэдытнай сыстэме. Няма больш у савецкай краіне тэй стракатасьці, анархіі і крэдытнага рабаўніцтва сельскай гаспадаркі, што знае яшчэ сельская гаспадарка ў капіталістычных краінах. Адзін крэдытны апарат працуе ў нас у напрамку здавальненьня ўсіх крэдытных запатрабаваньняў сельскай гаспадаркі.

З кожным годам шырыцца сетка ўстаноў с.-г. крэдыту і растуць іх капіталы, якія ўліваюцца пераважна ў бедняцка-серадняцкія сялянскія гаспадаркі і спрыяюць узмацненьню ў земляробстве колектыўнай працы.

Прайшло 4 гады, як заснавалася сыстэма с.-г. крэдыту на Беларусі (1923 г.), але зараз яна ўжо складаецца з 198 с.-г. крэдытных т-ваў і 7 акрсельбанкаў з рэспубліканскім с.-г. банкам на чале, пры зборным балянсе ў суме 26.872 тыс. руб.

Калі прыглядзецца, як рос балянс беларускай сыстэмы с.-г. крэдыту, дык убачым, што балянс быў:

на 1/X—1924 г.— 2.819,9 тыс. руб. на 1/X—1926 г.—16.785 тыс. руб.
" 1/X—1925 г.—12.971,3 " " " 1/X—1927 г.—26.872 " "

Рост сродкаў за мінулы час пераважна ішоў за рахунак дзяржаўна-бюджэтных асыгнаваньняў. Такіх асыгнаваньняў за мінулыя гады ўлілося ў беларускую сыстэму с.-г. крэдыту непасрэдна 9,6 мільёнаў руб. і праз Цэнтрасельбанк (Саюзны с.-г. Банк) 14.864 тыс. руб.

Удзел мясцовых рэсурсаў, асабліва-ж сялянскіх зьберажэньняў, якія адыгрывалі такую значную ролю у былых крэдытных т-вах, яшчэ не займае значнага месца.

Але ўсё-ж такі ідзе паступова ўзрост і гэтых сродкаў.

Так паявая складка ў с.-г. крэдытных т-вах дасягае зараз да 4,1 р. на аднаго члена, а ўклады ў т-вах дасягаюць зараз сумы 372,6 т. р.

Сродкі, якія знаходзяцца ў сыстэме с.-г. крэдыту, разьмяркоўваюцца ў плянавым парадку і адыгрываюць вельмі значную ролю ва ўздыме сельскай гаспадаркі.

Праз сыстэму было прасунута ў сельскую гаспадарку Беларусі:

за 1923-24 г.— 1.005 тыс. руб. за 1924-25 г.— 7.284 тыс. руб.
„ 1925-26 г.—11.715 „ „ „ 1926-27 г.—15.800 „ „

Усяго—35.804 тыс. руб.

80 проц. сродкаў сыстэмы с.-г. крэдыту накіроўваецца на абслугоўваньне вытворчых патрэб сялянскай гаспадаркі, як паасобнай, так і злучанай у розныя формы с.-г. коопэрацыйных аб'яднаньняў.

Пераважную ролю сярод с.-г. пазычак адыгрываюць доўгатэрміновыя крэдыты, якія займаюць ужо 52 проц. сярод усіх пазычковых опэрацый сыстэмы с.-г. крэдыту.

З пачатку доля доўгатэрміновых крэдытаў была вельмі вялікай (каля 10 проц.), а затым з кожным годам павялічвалася: у пазычковым звароце за 1926-27 г. яны займалі 42 проц. Доўгатэрміновыя пазыкі выдаюцца з агульных сродкаў сыстэмы з 6 проц., а кароткатэрміновыя з 10 проц., у той час, як у дарэвалюцыйны час пазычкі звычайна выдаваліся з 11-12 проц.

На 1 кастрычніка 1927 г. завязана пазычковых капіталаў у сялянскіх гаспадарках і розных с.-г. згуртаваньнях, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку 25.400 тыс. руб.

Запазычанасьць-жа паасобных сялянскіх гаспадарак на 1-VII-1927 г. выяўлялася ў суме 9.308 тыс. руб., з якіх 4.228 тыс. руб. доўгатэрміновы крэдыт.

Пры выдачы с.-г. крэдыту ў паасобныя сялянскія гаспадаркі прымаецца пад увагу социяльнае становішча пазычаючага.

Далей табліца характарызуе накіроўваньне сродкаў сыстэмы с.-г. крэдыту ў паасобныя социяльныя групы сялянства за 1924-25 г., 1925-26 г. і першую палову 1926-27 г.

Выдадзена пазычак да агульнай сумы пазычак (у проц.).

| Групы гаспадарак | За 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|
| Беспасеўныя | 4,4 | 4,3 | 2,6 |
| Пасеў да 2 дзес. | 14,2 | 21,2 | 24,6 |
| „ „ 2-4 „ | 28,0 | 27,0 | 33,6 |
| „ „ 4-6 „ | 25,0 | 25,3 | 22,6 |
| „ „ 6-8 „ | 15,9 | 12,8 | 10,5 |
| „ „ 8-16 „ | 8,7 | 7,9 | 5,7 |
| Звыш 16 дзес. | 3,1 | 1,5 | 0,4 |
| Разам | 100 | 100 | 100 |
| Бясконным гаспадаркам | 33,0 | 31,8 | 35,4 |
| З 1 канём | 52,8 | 52,2 | 52,8 |
| „ 2 коньмі | 12,0 | 13,3 | 10,7 |
| „ 3 „ | 2,2 | 2,7 | 1,1 |
| Разам | 100 | 100 | 100 |

Як відаць, крэдытуюцца пераважна беднацка-серадняцкія гаспадаркі.

Аднак дзеля больш пэўнага забясьпечаньня і на карысных умовах пазычковымі капіталамі бедняцкіх гаспадарак, з 1925-26 г. савецкай уладай заснован у сыстэме с.-г. крэдыту яшчэ асобны фонд для ільготнага крэдытаваньня беднаты. Зараз гэты фонд дасягае 900 т. р., з якога выдаюцца пазычкі беднаце да 5-6 год з 5 проц. гадавых.

Апрача таго, для дапамогі беззьямельным і малазямельным гаспадаркам, якія палучаюць новыя кавалкі зямлі пры землеўпарадкаваньні, устаноўлен у сыстэме с.-г. крэдыту за рахунак бюджэтных асыгнаваньняў асобны землеўпарадкаўчы фонд, з якога даюцца пазычкі да 10 г. з $2^1/_2$ проц. гадавых. Разьмер гэтага фонду ў беларускай сыстэме с.-г. крэдыту дасягае ўжо 1 міл. руб.

З пачатку сродкі сыстэмы с.-г. крэдыту ішлі на здавальненьне сялянскіх гаспадарак па аднаўленьню іх асноўных капіталаў на набыцьце коняй, кароў, на будынкі і г. н. Але з мінулага году сродкам сыстэмы с.-г. крэдыту нададзен іншы напрамак. Зараз с.-г. крэдыт накіроўваецца пераважна на перабудову сельскай гаспадаркі: на землеўпарадкаваньне, травасеў, с.-г. машыны, мінэральнае ўгнаеньне, на індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі і на больш поўнае здавальненьне крэдытных запатрабаваньняў розных с.-г. коопэрацыйных т-ваў, арцеляй і асабліва колектыўных гаспадарак.

**Далейшыя задачы сыстэмы с.-г. крэдыту**. На парозе 10-цігодзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі беларуская сыстэма с.-г. крэдыту канчае свой організацыйны пэрыяд. Далей для ўзмацненьня соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне Саветаў перад сыстэмай с.-г. крэдыту стаяць наступныя задачы:

*Расьці ня толькі ў шырыню, але і ў глыбіню.* Адшукаць шляхі к папаўненьню сваіх рэсурсаў ня толькі за рахунак дзяржавы, а галоўным чынам за рахунах зьбіраньня сялянскіх укладаў.

*Узмацніць соцыялістычны сэктар нашага будаўніцтва.* Аддаць найбольш увагі прасоўваньню пазычковых капіталаў у розныя колектыўныя і коопарацыйныя вытворчыя згуртаваньні сялянства. Забясьпечыць шпаркі росквіт колектыўных гаспадарак, малочных, машынных мэліорацыйных і інш. т-ваў, а таксама найбольш поўна абслугоўваць патрэбы савецкіх гаспадарак.

*Забясьпечыць прасоўваньне с.-г. крэдыту ў бедняцка-серадняцкія сялянскія гаспадаркі:* зрабіць з с.-х. крэдыту зброю ўздыму бедняцкай і серадняцкай гаспадаркі.

*Спрыяць індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі і разьвіцьцю сыравіны* для прамысловасьці і экспорту. Накіроўваць крэдытныя рэсурсы ў першую чаргу на пабудову і пераабсталяваньне розных мерапрыемстваў па перапрацоўцы с.-г. прадуктаў, на пашырэньне электрафікацыі вёскі, на правядзеньне мерапрыемстваў у тых раёнах, дзе вырашчваюцца тэхнічныя і экспортныя культуры.

*Узмацніць удзел сыстэмы с-г. крэдыту ў справу наданьня сельскай гаспадарцы Беларусі жывёлагадоўчага ўхілу.* Пашырыць крэдытаваньне на набыцьцё завадзкой жывёлы (кароў, сьвіней) і на папаўненьне малочнымі каровамі беднацка-сераднацкіх гаспадарак у мясцох заснаваньня малочных арцеляй, забясьпечыць крэдытаваньне на набыцьцё макухі, вотрубя, організаваць фінансіраваньне збыту прадуктаў жывёлагадоўлі і г. д.

**Е. Трахімаў.**

# Пасёлкавае таварыства імя Цімірязева.

*(Цэрахоўскі раён, Гомельскае акр.).*

Паселкавае т-ва імя Цімiразева знаходзіцца ў Круглянска-Калінінскім с-с. ў пасёлку Цімiразева. З'арганізована яно ў 1925 г. Сяляне ў ім згуртаваліся па большай часьці беднякі і серадрякі.

| | | |
|---|---|---|
| Мелі зямлі ад 2—3 дзес. | — | 1 гаспадарка. |
| „ „ „ 3—4 „ | — | 8 „ |
| „ „ „ 4—6 „ | — | 6 „ |
| „ „ „ 6—8 „ | — | 2 „ |

Усяго аб'яднана 17 гаспадарак, з якіх адна безлашадная, адна мае 2-е коняй, а рэшта па аднаму каню.

Кароў адна гаспадарка мае 4, па дзьве каровы маюць 9 гасп., па адной—6 і адна гаспадарка зусім ня мае каровы.

Пры організацыі т-ва кожны гаспадар унёс паявога ўзносу 10 р. У 1925 г. пасёлак быў земляўпарадкаван; на кожнага едака прышлося па 1 дзес. зямлі. Усяго пасёлак мае вусадзебнай зямлі—12 дзес., пахатнай 101, сухадольнага сенакосу—13 дзес., заліўнога сенакосу—4, лесу мясцовага значэньня—2, 6; няўдобнай—3, 9; а разам 152 дзес.

Глеба па большай часьці лёгкі суглінак, сярэдняй ападзоленасьці часамі переходзячая ў супесь, часамі у пяшчаную і больш вязкую.

Т-ва імкнецца па магчымасьці палепшыць умовы свайго гаспадараньня. У 1928 годзе таварыства думае абсталяваць маслабойны завод, які будзе абслугоўваць і ўсё ваколічнае насельніцтва.

Па жывёлагадоўлі вось што зроблена: набылі кныра белай ангельскай пароды, аднаго раманаўскага барана і 3 маладых баранчыкі, 4 раманаўскіх аўцы і 35 авец мэтысаў раманскіх. Уцеплен адзін скотны двор і зроблена 3 дацкіх кармушкі. Зімою 3 каровы карміліся па нормах.

У пасёлку ўведзен васьміпольны севазварот з такім чаргаваньнем культур:

| | |
|---|---|
| 1. Папар | 5. Папар |
| 2. Жыта | 6. Жыта з канюшынай |
| 3. Бульба | 7. Канюшына першага году |
| 4. Авёс | 8. Канюшына другога году. |

Паасобныя культуры займаюць такія плошчы: жыта—24 дзесяціны, авёс—15 дзес., бульба—10 дзес. канюшына—18 дзес., ячмень—2 дзес. выка—3 дзес., лён—2 дзес., лубін—1 дзес., а рэшта пад папарам.

Крэдытовае т-ва дастаўляе пасёклу ўвесь насенны матэрыял.

Па паляводзтву т-ва наша таксама шмат чаго зрабіла, чаго няма ў ваколічных сялян. Так сябры т-ва заўсёды сваё насеньне сартуюць на трыеры. Увялі зяблявую воранку; на плошчы 35 дзес. увялі радавы пасеў. Ужываюць мінэральнае ўгнаеньне ў ліку 400 пуд.

Т-ва ў 1927 годзе адсартавала на трыеры на насеньне 2551 пуд. збожжа.

Т-ва мае свой насенны расаднік лугавых траў, які займае плошчу ў 2 дзес. На ўсёй плошчы занятай азімым жытам пасеяна толькі сартовае пяткоўскае насеньне; авёс таксама пасеян толькі сартовы „Залаты дождж", ураджай якога бывае вышэй за просты на 40 проц.

Таварыства мае свае такія машыны: *малатарню* з прыводам завода „Дзьвігацель рэвалюцыі“, *арфу* „Крестьянку“, *радавы сяўнік* завода „Красная Звезда“, *трыер*—Гейда, *культыватар, тры асыпнікі, сячкарню.* Сябры т-ва ўсімі машынамі карыстаюцца бясплатна.

Пасялчане выпісваюць 4 газэты.

Сувязь з Крэдытовым т-вам, Камітэтам Сялянскай Узаемадапамогі і аграномам добрая. Сябра таварыства зьяўляецца старшынёй раённага Крэдытовага т-ва.

Аграном **Муроўскі.**

---

# Бяркоўская малочная арцель.

Гэта арцель пачала сваю працу з 9-га траўня 1927 г. З'арганізавалася яна пад уплывам раённай аграноміі і некаторых перадавых сялян вёскі Бяркова. Найбольш гарачы ўдзел у справе арганізацыі арцелі прымала Ганна Вярынская 32 г.

Пытаньне аб арганізацыі арцелі падымалі аграномы ня раз і кожны раз гэта канчалася нічым, ня гледзячы на тое, што эканамічныя ўмовы спрыялі (г. Бабруйск знаходзіцца на адлегласьці 75 вёрст). Сенажаці там вельмі добрыя па берагох Пцічы. На адлегласьці 6 вёрст маецца 7 густа-заселеных пунктаў.

У красавіку 1927 г. аграчасьць Глускага РВК спрабавала яшчэ раз з'арганізаваць арцель, але насельніцтва не хацела браць крэдыт на малочны інвэнтар. Тады аграчасьць дала ў часовае карыстаньне свой інвэнтар і арцель усё-ж такі пачала працаваць. Пад кіраўніцтвам агранома Андрэева за 2 тыдні арцельлю было перапрацована да 6-ці пудоў масла. Гэтае масла прадалі Бабруйскаму Ц. Р. К. па 30 руб. за пуд. у той час, як у Глуску сяляне звычайна прадавалі масла па 16—18 руб. за пуд. Гэта відавочна паказала насельніцтву, якая вялікая карысьць ад малочных арцеляй. Толькі цяпер організацыя арцелі пашла шпаркім крокам. Было абсталявана памяшканьне пад завод і запрошаны спэцыялісты масладзел.

У далейшым рост арцелі быў такі:

| Месяцы | Лік сяброў | Лік кароў | Сярэдні лік кароў на 1 пайшчыка |
|---|---|---|---|
| Травень . . . | 24 | 69 | 2,3 |
| Чэрвень . . . | 27 | 90 | 3,3 |
| Ліпень . . . | 48 | 144 | 3,0 |
| Жнівень . . . | 48 | 144 | 3,0 |

З гэтай табліцы відаць, што за 2 м-цы травень і чэрвень лік пайшчыкаў, а разам з гэтым і кароў павялічыўся на 100%.

У ліпені ўсе сяляне вёскі Бяркова былі пайшчыкамі арцелі, а таксама і шмат сялян акружаючых вёсак.

Па ліку кароў ўсіх сялян пайшчыкаў магчыма разьбіць на такія групы:

| Месяцы | Лік членаў | Маюць кароў (шт.) | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| Май . . . | 24 | 4 | 7 | 6 | 4 | 1 | 2 | — |
| Чэрвень . | 27 | 4 | 7 | 6 | 4 | 4 | 2 | 3 |
| Ліпень . . | 48 | 6 | 13 | 16 | 7 | 1 | 4 | 1 |
| Жнівень . | 48 | 6 | 13 | 16 | 7 | 1 | 4 | 1 |

Як відаць з гэтай табліцы, у арцель запісваецца больш гаспадароў, якія маюць 1—2 каровы тады, як багацейшыя гаспадары самі возяць на рынак свае прадукты.

Зварот тавараў за чатыры месяцы паказвае наступная табліца:

| Месяцы | Паступіла малака ў літрах | На суму | | Выпрацавана масла ў клгр. | На суму | | 1% малака | Сярэдні % жыру ад усіх кароў | Выход масла |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. | К. | | Руб. | К. | | | |
| Май . . . | 5551 | 482 | 76 | 1631 (105 п. 27¼ ф.) | 3006 | 57 | 21093,8 | 3,8 | 9,18 |
| Чэрвень . | 9017 | 615 | 34 | | | | 34264,6 | 3,5 | 9,8 |
| Ліпень . . | 11288 | 785 | 56 | | | | 44814,4 | 3,7 | 8,50 |
| Жнівень . | 11059 | 756 | 64 | | | | 42024,2 | 4,2 | 8,34 |
| Усяго . | 37015 | 2539 | 30½ | 1631 | 3006 | 57 | 142197 | — | — |

18% усяго масла было продана прыватным гандляром, а 82% ЦРК. Сярэдняя цана за 1 кгр. была 1 р. 85 к. тады, як усе гаспадары, якія ня былі членамі арцелі, прадавалі сваё масла па 1 р. 25 к. за кілё. За 4 м-цы кожны пайшчык палучыў у сярэднім да 83,6 р. прыбытку, а адна карова ў сярэднім дала каля 27 р. прыбытку. Апрача таго, кожнаму гаспадару зьвяртаецца здыманае малако.

З усяго гэтага відаць, як выгадна організацыя малочнай арцелі. Раней шмат малака ішло ў глум, бо кожнаму гаспадару паасобку ня было карысьці гнаць каня за 30—70 в. у горад, каб прадаць 2 фунта масла. Пры арцелі-ж гэтага ня можа быць.

Процант жыру ў малаку ў сярэднім даходзіць да 3,75. Гэта гаворыць за тое, што нашы мясцовыя сялянскія каровы даволі жырнамалочныя. Трэба адзначыць, што за паказаны час кароў не падкармлівалі і наогул скаціна ў Бяркоўскай арцелі знаходзіцца ў звычайных сялянскіх умовах. Праўда, у апошні час сяляне пачалі думаць, каб палепшыць догляд за жывёлай.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што сельская гаспадарка можа хутка падняцца толькі праз колектыўную працу і таму організацыя малочных арцеляй павінна зрабіцца важнай задачай аграномаў. Агр. **Шульман**.




# Падрахункі і пэрспэктывы разьвіцьця лясной гаспадаркі БССР.

*(Да 10-й гадавіны Кастрычнікавае Рэвалюцыі).*

**Становішча лесу да вайны**. Лясная гаспадарка ў сучасны момант займае даволі значнае месца ў агульнай сыстэме народнай гаспадаркі БССР і, як крыніца непадатковага даходу, вельмі значна ў дзяржаўным бюджэце.

З гэтае прычыны да 10-е гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі неабходна выявіць, што даў Кастрычнік лясной гаспадарцы, якая розьніца паміж лясной гаспадаркай да рэвалюцыйнага часу і пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, адзначыць нашы дасягненьні ў гэтай галіне народнай гаспадаркі і вызначыць бліжэйшыя задачы лясной гаспадаркі.

Як вядома, Беларусь з даўных часоў была вядома сваімі лясамі. У другой палове мінулага стагодзьдзя лясная плошча на сучаснай Беларусі складала каля 4.912.900 гэкт. або 45 проц. Па карыстаньню лясы належалі:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Дзяржаве . . | 758.000 | гэкт. | або | 14 | проц. |
| Паном . . . | 3.811.900 | „ | „ | 79 | „ |
| Сялянам . . . | 196.000 | „ | „ | 4 | „ |
| Іншым карыстацелям | 149.000 | „ | „ | 3 | „ |
| Усяго . . | 4.912.900 | гэкт. | | 100 | проц. |

Як відаць, галоўнае месца ў агульнай лясной плошчы займалі памешчыцкія лясы, якія складалі каля 86 проц. агульнай плошчы. Адгэтуль вынікае, што лясныя багацьці і іншыя галіны гаспадаркі да Кастрычнікавае рэвалюцыі амаль цалкам знаходзіліся ў руках паноў-капіталістых і складалі іх так званую „сьвятую“ ўласнасьць.

Калі ў быўшых дзяржаўных лясох, складаўшых значную велічыню (каля 14 проц. ляснога фонду) да рэвалюцыі лясная гаспадарка вялася больш-менш па пляну, дык ў панскіх лясох амаль ніякай плянавасьці ня было. Лес высякалі бяз усякай сыстэмы і правіл вядзеньня лясной гаспадаркі. Лесаўпарадкаваньне ня праводзілася. Ня было ніякіх мераприемстваў па культурнаму і натуральнаму лесааднаўленьню. У многіх выпадках лясы высякаліся дзесяткамі тысяч дзесяцін і зямля з-пад лесу пераходзіла да іншага сельска-гаспадарчага выкарыстоўваньня.

З шалёнаю сьпешкаю ішла купля і продаж лясоў розным купцом. Прапіўшыяся і і збанкруціўшыся паны часта застаўлялі і перазастаўлялі лясы банкам і спэкулянтам.

Такое драпежніцкае гаспадараньне паноў скора дало самыя адмоўныя вынікі ў вядзеньні лясной гаспадаркі. Лясны фонд за тэрмін ад 1889 да 1915 г. зьменшыўся з 45 проц. да 29 проц., гэта значыць за 30 год было высечана да 60 проц. лесу. Высякаліся галоўным чынам лясы хваёвыя і цьвёрда-лісьцяных парод, якія вывозіліся за межы, як дарагі тавар. Па даных замежных перавозак за 1897 гады было адпраўлена лесаматэрыялу па вадзяных і чыгуначных шляхох каля 6.000.000 куб. мэтраў страявой драўніны. Такія каштоўныя пароды, як дуб, ясень, клён, чорная вольха і інш., к моманту рэвалюцыі амаль цалкам былі зьнішчаны.

Гэтай шалёнай высечцы лясоў дапамагала і геаграфічнае палажэньне беларускіх лясоў, якія знаходзіліся блізка рэчак—Заходняй Дзьвіны, Нёмна і Дняпра, злучаных Бярэзінскім, Агінскім і Дняпроўска-Бугскім каналамі і мелі выхад на замежны і украінскі рынак.

Як вялікі былі страты лясной гаспадаркі ад панскага гаспадараньня наогул і асабліва на Беларусі, відаць з таго, што нават царскі урад прымушан быў выдаць закон, каб абмяжоўваць правы ўласьнікаў лесу. Выданьнем гэтага закону царскі ўрад думаў паставіць лясную гаспадарку ў больш спрыючыя ўмовы для яе разьвіцьця. Але на справе



Буралом у лесе ад ранейшага неправільнага карыстаньня лесам.

гэты закон ня меў ніякай вартасьці, бо і царскі ўрад быў клясавы і ён складаўся з паноў і капіталістых, якія цягнуліся да нажывы ад спэкуляцыі лесам.

Возьмем такі факт: быўшы вялікі князь Мікалай Мікалаевіч у Барысаўскай акрузе меў каля 150.000 дзес. лесу, князь Паскевіч каля

100.000 дзес., князь Радзівіл каля 75.000 дзес. і граф Чапскі быўшы галава Менску—каля 40.000 дзес. Гэты сьпіс быўшых магнатаў можна было-б павялічыць, але даволі і пералічанага, каб упэўніцца, што паміж панамі, быўшым урадам розьніцы ніякай ня было. Усе яны былі з аднаго поля ягадкі і ня мала яны выпілі крыві працоўных масаў Беларусі.

Такім чынам, можна зрабіць адзін вынік, што да Кастрычнікавай рэвалюцыі правіл організованага вядзеньня лясной гаспадаркі ня было. Лясы высякаліся ў вялікай колькасьці самым драпежніцкім чынам і гэтым самым наносілася непаправімая страта народнай гаспадарцы Беларускай краіны. Дзесяткі мільёнаў рублёў за прадаены лес ішлі ў кішэні князёў, паноў растратчыкаў, сьпякулянтаў і банкіраў для іх уласнага гультайскага жыцьця. Усё гэта ўзятае разам нанесла Беларускай лясной гаспадарцы непаправімы ўрон, а разам з ім і ўсёй народнай гаспадарцы краіны.

**Лясная гаспадарка ў час вайны**. Вялікія былі афяры лясной гаспадаркі і ад імпэрыялістычнай вайны. Вайна канчаткова разбурыла лясную гаспадарку Беларусі, дзе на працягу некалькіх год адбываліся ваенныя падзеі. Асабліва зьверскі абыходзіліся з лесам белапалякі ў 1920 годзе; яны захапілі з сабою ўсе пляны і дакуманты ляснога ведамства, спалілі гатовыя лесаматэрыялы, якія знаходзіліся каля чыгунак і сплаўных шляхоў, падпальвалі цэлыя лясныя плошчы.

Лютаўская рэвалюцыя не зрабіла ніякіх зьмен у лясной гаспадарцы. Палітыка часовага ўраду насіла сьляды згодніцтва ці вярней захавала ўсе быўшыя дарэвалюцыйныя парадкі аж да захаваньня зямельна-цэнзавых леса-ахоўчых камітэтаў пад кіраўніцтвам тых-жа паноў.

**Лясная гаспадарка і Кастрычнік.** Кастрычнікавая рэвалюцыя зрабіла грунтоўны пераварот у лясной гаспадарцы. Усе лясы, як скарбовыя, таксама ўдзельныя, царкоўныя, манастырскія, панскія і сялянскія былі нацыяналізаваны. З гэтых лясоў быў утворан адзін дзяржаўны лясны фонд рэспублікі. Толькі цяпер ідэя ўсенароднага значэньня лесу, як сацыяльнага блага, стала сапраўдным фактарам, толькі цяпер лясныя багацьці сталі крыніцаю эканамічнага замацаваньня народнай гаспадаркі краіны, а працоўныя масы гораду і вёскі маглі разьлічваць на палепшаньне стану лясной гаспадаркі і захаваньня яе ад канчатковага зьнішчэньня. Увесь-жа даход ад лясных багацьцяў працоўныя маглі выкарыстоўваць для культурных мэт і аднаўленьня сельскай гаспадаркі Без павялічэньня можна сказаць, што Кастрычнікавая рэвалюцыя дала працоўным масам значныя дасягненьні у справе заваяваньня лясных багацьцяў.

Пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі можна было чакаць, што лясная гаспадарка палепшыцца, але гэтага ня здарылася з тае прычыны, што пачаліся цяжкія годы грамадзянскай вайны і ўмяшацельства замежных капіталістых у нашу унутраную барацьбу. Транспарт і прамысловасьць перасталі атрымоўваць з Данбасу апал. Гарады замярзалі. Прышлося рабіць масавыя высечкі лесу для забясьпячэньня апалам фабрык, заводаў, чыгунак, дзяржаўных устаноў і гарадоў. На гэты час, калі рабочая кляса і працоўныя масы вялі ўпартую барацьбу з сваімі клясавымі ворагамі, прышлося адступіць ад правіл вядзеньня лясной гаспадаркі дзеля захаваньня рэвалюцыі. Толькі пасьля канца грамадзянскай вайны і пераходу да мірнага будаўніцтва, лясная гаспадарка БССР аднаўляецца.

Гэта было ў 1921-22 годзе. Да гэтага часу ужо вызначыліся асновы Савецкай лясной палітыкі, а іменна: 1) сталае і бесперапыннае карыстаньне лесам без зьмяншэньня запасу драўніны, 2) забесьпячэньне дзяржаўных і мясцовых патрэб у драўніне і 3) павялічэньне найбольшых даходаў.

Такая палітыка вышэйшых законадаўчых устаноў дала магчымасьць лічыць лясную гаспадарку самастойнай галінаю народнай гаспадаркі. У выніку такой палітыкі была прызнана неабходнасьць фінансаваньня лясной гаспадаркі па дзяржбюджэту, як на вытворчыя мэты, так і на ўтрыманьне ляснога апарату.

Побач з гэтым было вырашана пытаньне аб стварэньні ляснога апарату, вызначэньні межаў і падзелу лясных плошчаў на адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі—лясьніцтвы. Усю гэту работу прыходзілася пачынаць занова, бо царскія формы кіраваньня лясною гаспадаркаю не ахоплівалі ўсіх лясоў.

**Нашы дасягненьні ў лясной гаспадарцы.** Калі ўсё гэта параўнаць з цяперашнім становішчам леса, якога мы дасягнулі к 10-й гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі і за такі кароткі час, дык мы маем ужо вялікія дасягненьні, а іменна:

Арганізавана . 187 лясьніцтваў на 17000 гэкт. кожнае.
„ . 817 аб'ездаў на 5—6 тыс. „ „
„ . 4455 абходаў на 1000 гэкт. „

Агульны лік тэхнічна-службовага апарату ўзрос так:

Лясных спэцыялістых:

| | 1921 г. | 1927 г. |
|---|---|---|
| У лясьніцтвах, акруговым апараце і па лесаўпарадкаваньню . . . | 194 чал. | 793 чал. |
| З вышэйшай адукацыяй . . . | 9,6 проц. | 20 проц. |

Заработная плата:

| | 1924 г. | |
|---|---|---|
| Лясной варце—лясьніку . . . | 5 руб. | 20 руб. |
| Аб'езчыку . . . . . . . | 9 „ | 30 „ |
| Нам. лясьнічага . . . . . | 17,5 „ | 65 „ |
| Лясьнічаму . . . . . . | 21 „ | 84 „ |

Ня менш важнай задачай была пабудова 5-ці гадовага пэрспэкцыйнага пляну лясной гаспадаркі БССР, які меў падлік таго, што можа даць лес і падлік запатрабаваньняў дзяржавы і насельніцтва на апал. А плянавае вядзеньне лясной гаспадаркі вымагае поўнага выяўленьня нашых лясных багацьцяў і прымяненьня ў лесе ўсіх гаспадарчых мерапрыемстваў.

У час пераходу ўсіх лясоў у рукі дзяржавы, гаспадарка была разбурана. Лесаўпарадкаўчых плянаў ня было, чаму лесаўпарадкаваньне і стала неадкладнай задачай.

**Лесаўпарадкаваньне**. Разгортваньне лесаўпарадкаўчых работ паказана па гадох:

Табліца земляўпарадкаваньня (у гэктарах):

| Якая праца | 1920—21 г. | 1921—22 г. | 1922—23 г. | 1923—24 г. | 1924—25 г. | 1925—26 г. | 1926—27 г. | Усяго ўпарадкавана | Не ўпарадкавана |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Упарадкавана лясоў дзяржаўных, мясцовага знач. і лясоў асоб. прызначэньня | 10898 | 100027 | 162110 | 194636 | 397014 | 405754 | 463000 | 1715469 | |
| У проц. . . . | 0,29 | 2,6 | 4 | 5 | 10 | 11 | 13 | 45 | 55 |
| Расходы на лясную гаспадарку . . | — | — | — | 124570 | 272880 | 348950 | 430404 | 1176804 | |



Сасна з дамешкаю елкі. Сьмілавіцкае л-ва.

З паказаных даных бачым, што работы па лесаўпарадкаваньню з кожным годам усё павялічваюцца і ў канцы 1926-27 г. застаецца неўпарадкаваных 1.123.287 гэкт. лесу.

Чарговая задача, якая стаіць перад урадам, гэта на працягу 2-х бліжэйшых год закончыць упарадкаваньне застаўшыхся 1.123.387 гэкт.

Гэта работа будзе выканана, калі замежныя капіталісты не пашкодзяць нашаму мірнаму гаспадарчаму будаўніцтву. Ужо на 1927—1928 апэрацыйны год па дзяржбюджэту асыгнавана 753.733 руб., на якія будзе лесаўпарадкавана 905.600 гэкт. лясной плошчы. Рэшта будзе земляўпарадкавана ў 1928-29 годзе.

**Лясы мясцовага значэньня**. Адначасова з правядзеньнем работ па лесаўпарадкаваньню Савецкі ўрад БССР даручыў Наркамзему

ў 1924 годзе выдзяліць з дзяржаўнага ляснога фонду пэўную катэгорыю лясоў дзеля перадачы іх у лясы мясцовага значэньня і земфонд. Дзеля больш лёгкага задавальненьня насельніцтва драўнінаю і ўцягненьня яго ў леса-гаспадарчую дзейнасьць дзяржава передала сялянству часткі лясоў для плянамернага карыстаньня і аховы.

На колькі гэта заданьне выканана, можна бачыць з далейшага:

Абследавана і перададзена лесу ў лясы мясцовага значэньня:

| | |
|---|---|
| Сялянскім аб'яднаньням . . | 485.206 гэкт. |
| С.-г. камунам і колектывам . | 33.196 „ |
| Саўхозам. . . . . | 9.000 „ |
| Усяго . | 527.402 гэкт. |

Перададзеная плошча лясоў у мясцовае карыстаньне складае 14 проц. да дзяржлясоў. У склад перaданых лясоў мясцовага значэньня ўвайшлі таксама і буйныя сялянскія лясы на плошчы 421.916 гэкт.

Лес атрымалі ў мясцовае карыстаньне 346.590 сялянскіх двароў, а ў сярэднім на адзін двор прыпадае 1,4 гэкт. (ад 0,8 гэкт. да 2,9 гэкт.).

Па складу дрэвастану лясы мясцовага значэньня характэрызуем так: іглістых парод 71 проц. і лісьцяных 29 проц.

Штогоднае карыстаньне драўнінаю складае 669.500 мэтр., у тым ліку будаўляны—234.600 куб. мэтр. і дравяны 434.900 куб. мэтр. Калі лічыць атрыманую драўніну з лясоў мясцовага значэньня па сялянскай таксе 1924 г., дык выйдзе, што сельскае насельніцтва штогодна мае бясплатна драўніны на суму 1.125.000 руб., а з гандлёвай надбаўкай 220 проц.—3.500.000 руб. Гэта драўніна ў адносінах да агульнага водпуску вясковаму насельніцтву штогодна складае 15 проц.

З агульнай плошчы лясоў мясцовага значэньня ў 527.402 гэкт. патрабавалася ўпарадкаваць 363.784 гэкт.

Да 1927 г. праведзена лесаўпарадкаваньне на плошчы 163.484 гэкт. або 45 проц. Астатнія 203.000 гэкт. прызначана лесаўпарадкаваць у 1927-28 годзе. Адначасова з перадачай лясоў мясцовага значэньня праведзена адмежаваньне з дзяржаўнага ляснога фонду вучасткаў у зямельны фонд 465.607 гэкт., для надзяленьня беззямельных і малазямельных сялян. Вось асноўныя рысы ляснoе палітыкі Савецкае ўлады БССР.

**Лесааднаўленьне**. Цяпер пяройдзем да разгляду галоўных прац у лясной гаспадарцы. Грунтоўнай працай у лясной гаспадарцы зьяўляецца лесааднаўленьне на неаблесяных плошчах.

Лесааднаўленьне адбываецца: натуральным шляхам, пасадкаю сеянцаў і засевам лесу ў падрыхтаваную глебу.

Хаця натуральнаму аднаўленьню лясоў Беларусі спрыяюць кліматычныя і глебавыя ўмовы, аднак ёсьць шмат высечак, прагалін і гарэй безнадзейных у адносінах прыроднага лесааднаўленьня, якія патрабуюць спэцыяльных мер для аблясеньня. Гэтыя плошчы зьявіліся ў выніку розных вайсковых падзей на абшарах Беларусі, калі лес зьністажаўся без усякіх лесагадоўных абмеркаваньняў (паўсюдная пасьба скаціны, кепскі догляд і інш.).

Такім чынам, усе гэтыя неаблесяныя плошчы трэба было аблесіць культурнымі (штучнымі) спосабамі лесааднаўленьня.




Рост культурнага лесааднаўленьня ў БССР

У якіх разьмерах гэтыя мерапрыемствы праведзены можна бачыць з наступных лічбаў:

| Гады. | Колькасьць гэкт. | Агульная сума у руб. |
|---|---|---|
| 1921-22 | 170,4 | — |
| 1922-23 | 667,5 | — |
| 1923-24 | 3372,5 | 26980 |
| 1924-25 | 4096,4 | 49157 |
| 1925-26 | 7078,0 | 94936 |
| 1926-27 | 12042,0 | 179105 |
| Усяго | 27426,8 | 350178 |

Застаўшуюся не аблесеную плошчу ў 99049 гэкт. мяркуецца аблесіць к 1930 г.

**„Дзень Лесу“**. Вельмі важнае значэньне ў справе лесааднаўленьня, маюць адносіны грамадзянства да лесу. З гэтай мэтай штогодна праводзіцца „Дзень Лесу“, у часе якога выконваюць работы: па закладваньню лясных школак, засеву і пасадцы лесу, абсаджваньне дрэвамі вуліц і дарог, абчыстка лесу ад рознага лому, правядзеньне процівапажарных прасек і інш.

Такое сыстэматычнае правядзеньне з году ў год „Дню Лесу“ будзе вабіць к яму ўсё больш і больш грамадзкай увагі.

У мінулым 1925-26 г. ў „Дзень Лесу“ былі выкананы працы: засевам і пасадкаю леса была занята 538 гэкт., закладзена 35 лясных школак плошчаю ў 15.671 кв. мэтр. і 8 паркаў плошчаю 24.616 кв. мэтр; абчышчана ад лому 2057 гэкт. лесу, праведзена абсадка вуліц і дарог на працягу 126 кл. мэтр.; апрача таго, пасаджана 46.260 шт. дрэў вясковых, местачковых і гарадзкіх селішчаў. У 1166 пунктах былі прачытаны лекцыі, даклады, праведзены гутаркі і экскурсіі з лікам удзельнікаў і слухачоў 88.000 чалавек.

**Лясная мэліорацыя**. У шэрагу розных мерапрыемстваў па адбудаваньню лясной гаспадаркі паважную ролю маюць лесамэліярацый-

ныя працы. Так, плошча пясчаных прастораў Беларусі складае 210.881 гэкт., якая ня толькі ня прыносіць карысьці для насельніцтва, але, наадварот, яны многа прыносяць яму урону, бо сыпучыя пяскі заносяць поле. Загэтым на замацаваньне сыпучых пяскоў і зьвернута ўвага.

Ужо зараз абсьледавана пяскоў на плошчы ў 36.400 гэкт. і замацована шэлюгой і аблесена 2.460 гэкт.; закладзена шэлюговых плянтацыяў 6, 7 гэкт. і лесамэліорацыйных лясных школак на 11,62 гэкт.

Неабходна і ў далейшым гэтыя мерапрыемствы пашыраць, уцягваючы ў іх вясковае насельніцтва.



Перад правядзеньнем работ у „Дзень Лесу".

**Лясныя школы**. Упамінаючы аб вышэйшай лясной адукацыі ў Беларусі, належыць адзначыць, што ў гэтым кірунку маюцца вялікія дасягненьні. Існуючы лясны факультэт пры Горацкай с.-г. Акадэміі выпускае штогодна сто вучоных лесаводаў. Лясныя тэхнікумы выпускаюць у год сярэдняй кваліфікацыі лясных працаўнікоў да 30 чал.

Такім чынам, у сучасны момант Беларусь забясьпечана кваліфікаванымі ляснымі працаўнікамі.

Лясная вопытная справа ў Беларусі згрупавана ў веданьні Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, пад кіраўніцтвам якога праводзіцца цэлы шэраг мерапрыемстваў заснованых на вывучэньні прыроды лесу.

**Ахова лясаў.** Для аховы лесу застаецца чакаць шмат лепшага. Страта ад лесапарушэньняў па даных на 1-Х 1926 г., па ўсёй БССР з Гомельшчынай выражаецца ў суме 2.016.637 руб., што складае каля 10 проц. лясных прыбыткаў рэспублікі.

Слабасьць аховы тлумачыцца недахопам ляснoй варты (велічыня абходу ў сярэднім 720 гэкт. і аб'езду 3.900 гэкт.), адсутнасьцю казённых памяшканьняў, нездавальняючай збройнасьцю, недахопам коняй для аб'езчыкаў, маруднасьцю разгляда ў судох спраў аб лесапарушэньнях.

На 1-Х 1926 г. было казённых кватэр у лясьнічых 32,5 проц., аб'езчыкаў 31,6, лясьнікоў 22,2 проц.

**Запасы драўніны**. Цяпер разгледзім, якія каштоўнасьці мы палучаем ад лясной гаспадаркі для здавальненьня патрэб насельніцтва і дзяржавы. Каштоўнасьць леса, як вядома, самая рознастайная, але галоўнае гэта атрыманьне драўніны, якая ў нашых умовах пакуль што зьяўляецца першай па неабходнасьці ў жыцьцёвых патрэбах. Вось мы разгледзім, у якім разьліку высякалася драўніна за шэраг папярэдніх гадоў (у тыс. куб. мэтр.):

| | Таварнай драўніны | Дравяной | Усяго |
|---|---|---|---|
| 1920-21 г. | 970,0 | 3116,0 | 4086,0 |
| 1921-22 г. | 1224,9 | 1489,0 | 2713,9 |
| 1922-23 г. | 1467,3 | 2112,3 | 3579,6 |
| 1923-24 г. | 1448,3 | 1997,8 | 3446,1 |
| 1924-25 г. | 2349,6 | 2983,8 | 5333,4 |
| 1925-26 г. | 3245,0 | 5515,4 | 8760,4 |
| 1926-27 г. | 2768,0 | 5151,2 | 7919,2 |

Як бачым з паказаных табліц, у лясох БССР (без лясоў мясцовага значэньня), захоўваючы прынцып сталага карыстаньня, мы штогодна высякалі драўніны на суму да 4 з лішнім мільёнаў куб. мэтр.

Усяго за 7 гадоў высечана да 35 мільёнаў куб. мэтр.

Хістаньне па гадох водпуску драўніны тлумачыцца ростам попыту на драўніну з боку прамысловасьці і вясковага насельніцтва, а таксама перадачай значных плошчаў ў земфонд.

З паказанай колькасьці драўніны, як галоўнага, так і выпадковага карыстаньня і земфондаў адпушчана (у тыс. куб. мэтр.):

| | Насельніцтву | | | Прамыслов; транспарту і інш. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Таварнай | Дравяной | Усяго | Таварнай | Дравяной | Усяго |
| 1920-21 | 512,0 | 1875,0 | 2387,0 | 458,0 | 1241,0 | 1699,0 |
| 1921-22 | 447,6 | 1034,8 | 1482,4 | 777,3 | 454,2 | 1231,5 |
| 1922-23 | 379,4 | 1033,1 | 1412,2 | 1087,9 | 1079,2 | 2167,1 |
| 1923-24 | 473,5 | 845,6 | 1319,1 | 974,8 | 1552,2 | 2127,0 |
| 1924-25 | 897,7 | 1451,6 | 2349,3 | 1451,9 | 1532,2 | 2984,1 |
| 1925-26 | 996,3 | 1919,2 | 2915,5 | 2248,7 | 3596,7 | 5845,4 |
| 1926-27 | 863,2 | 5532,0 | 3395,2 | 1904,8 | 2619,2 | 4524,0 |

Як бачым, вясковаму нясельніцтву за 7 гадоў адпушчана ў сярэднім 43 проц. з агульнай колькасьці высечанай драўніны.

Дрэўніна вясковаму насельніцтну адпушчалася без гандлёвай надбаўкі і акрамя гэтага бяднейшай часткі штогодна вызначаўся фонд для бясплатных і льготных водпускаў ў крэдыт да 3-х гадоў.

Вось лічбы, якія пакажуць нам, колькі за апошнія 3 гады адпушчана лесу вясковаму насельніцтву па зьніжанай таксе (ў руб.):

| | Бясплатна і па зьніжанай таксе (на суму) | У крэдыт па таксе без гандлёвай надбаўкі | Па таксе без гандлёвай надбаўкі |
|---|---|---|---|
| 1924-25 | 350303 руб. | 154107 руб. | 1090046 руб. |
| 1925-26 | 443470 „ | 219940 „ | 1349293 „ |
| 1926-27 | 309000 „ | 618000 „ | 2182100 „ |
| Усяго | 1102773 руб. | 991507 руб. | 5621444 руб. |

Калі лічыць адпушчаную насельніцтву льготна драўніну па цэнах з гандлёвай надбаўкай, дык выходзіць, што за 3 гады вясковае насельніцтва адтрымала ад дзяржавы ільгот на суму да 15 мільёнаў р.




Безплатна У крэдыт Па таксе 1922-24 1925-27
Апушчана насяльніцтву драўніны за 1926-27 г. у руб. Драўніна ў паг. куб. мэтр.

Зразумела, што адпушчаная драўніна і існуючыя ільготы ня вырашаюць поўнасьцю праблему здавальненьня вёскі лесаматэрыялам і апалам, але пры нашай беднасьці на лес і гэта зьяўляецца вялікай дапамогай вёсцы з боку дзяржавы, чаго ні ў аднэй буржуазнай краіне няма.

**Лясныя распрацоўкі.** Узрастаючыя патрэбы ў драўніне для сельскай гаспадаркі, высунулі пытаньні аб гаспадарчых распрацоўках лесу непасрэдна апаратам лясьніцтваў. Пачаткам гэтых прац было: распрацоўка драўніны ў парадку догляду за лесам і адчыненьне складаў, адкуль здавальнялася драўнінаю насельніцтва.

Да гэтага часу ў сельскіх мясцовасьцях адчынена 27 лясных складаў, праз якіх было рэалізавана 399.065 куб. мэтр. драўніны. З гэтай колькасьці 82 проц. складае драўніна, сабраная пры доглядзе за лесам.

Такім чынам, пастаўленая намі мэта сябе апраўдала, бо лясныя нарыхтоўкі да канца 1926-27 года складаюць суму прыблізна каля 5 мільёнаў руб.

**Лясны прыбытак.** Вельмі важнае значэньне мае лясны прыбытак у яго грашовым паступленьні.

Лясны прыбытак пачаў расьці з 1920-21 года. Паступовы рост прыбытку ў лясной гаспадарцы паказан у наступнай табліцы (у руб.)

| | Прамое карыстаньне | Пабочнае карыстаньне | Лесапаруш. і інш. | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1920-21 г. | — | — | — | 2896 | руб. |
| 1921-22 „ | — | — | — | 117365 | „ |
| 1922-23 „ | 394020 | 21768 | 17995 | 433783 | „ |
| 1923-24 „ | 2480870 | 50072 | 70434 | 2601373 | „ |
| 1924-25 „ | 5831169 | 28893 | 197008 | 6057070 | „ |
| 1925-26 „ | 19869680 | 29089 | 379593 | 20278362 | „ |
| 1926-27 „ | 23000000 | 50000 | 450000 | 23575000 | „ |

Як бачым рост ляснога прыбытку з году ў год павялічваецца наогул, таксама прыбытак павялічваецца і на кожны гэктар лясной плошчы, што характэрызуецца другою табліцаю:




1921-22 г. 1922-23 г. 1923-24 г. 1924-25 г. 1925-26 г. 1926-27 г.

Рост прыбытку ад лясоў БССР.

| | 1913 г. | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| **Прыбытак** | | | | | |
| з аднаго гэктара ўдобнай лясной плошчы (руб.) . . . | 9-66 | —97 | 2-57 | 8-50 | 8-92 |
| У процантах . . . . | 100 | 10 | 26,6 | 87,9 | 92,3 |
| **Расход** | | | | | |
| на 1 гэктар . . . . | 1-87 | —23 | —76 | 1-31 | 1-23 |
| У процантах. . . . | 100 | 12,3 | 40,6 | 70,0 | 65,7 |

Як бачым, лясны прыбытак мае галоўную ролю сярод усіх неналогавых паступленьняў рэспублікі, збор якога многа значыць для соцыялістычнага будаўніцтва нашай краіны.

З усяго сказанага можна зрабіць вынік, што к 10-й гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі, за невялікі час лясная гаспадарка пачала ўзмацняцца і разьвівацца.



Культура сасны ў 45 год.

Аднак, і паказаных дасягненьняў мала; узрост народнай гаспадаркі, індустрыялізацыя краіны высоўваюць новыя задачы перад лясной гаспадаркай.

У мэтах хутчэйшай рэорганізацыі лясной гаспадаркі на падставе паказаных прынцыпаў, у бліжэйшы час павінен быць праведзен шэраг безадкладных мерапрыемстваў, накірованых к лепшаму і больш поўнаму скарыстаньню лясного багацьця краіны. Для гэтага неабходна:

1. Узмацненьне плянавай работы ў галіне рэорганізацыі лясной гаспадаркі.

2. Узмацненьне і ўпарадкаваньне фінансіраваньня лясной гаспадаркі, павялічэньне асыгнаваньняў на леса-будаўнічыя і лесакультурныя работы, на ўзмацненьне аховы лесу ад самачынных высечак, пасьбы скаціны і лясных пажараў.

3. Правядзеньне мерапрыемстваў па інтэнсыфікацыі лясной гаспадаркі.

4. Падзешаўленьне лесаматэрыялу шляхам скарачэньня накладных расходаў на ўтрыманьне адміністрацыйнага апарату.

5. Вывучэньне эканамічных працэсаў у лясной гаспадарцы.

6. Далейшае скарачэньне ліка дзяржаўных лесанарыхтоўчых арганізацый.

7. Рэорганізацыя лясной прамыслов. па эканамічнай мэтазгоднасьці.

8. Упарадкаваньне лясной гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня.

Пералічаныя мерапрыемствы павінны ўзмацніць лясную вытворчасьць у некалькі раз.

**В. Ткачоў.**




# Сельская гаспадарка Беларусі за 10 год.

Беларусь зьяўляецца аднэй з пераважна сельска-гаспадарчых краін у Савецкім Саюзе. Процант сельска-гаспадарчага насельніцтва ва ўсім Саюзе складае 83,5 проц., а для Беларусі гэты процант ровен 86.

Таксама Беларусь адзначаецца і вялікай шчыльнасьцю насельніцтва (каля 60 чал. на 1 кв. вёрсту). Шчыльнасьць сельска-гаспадарчага насельніцтва ў Беларусі ўступае толькі цэнтральна-прамысловай частцы РСФСР. Шчыльнасьцю сельска - гаспадарчага насельніцтва Беларусь блізка падыходзіць да такіх інтэнсыўных краін, як Данія і Ангельшчына. Сельская гаспадарка дае і галоўную частку нацыянальнага прыбытку, як гэта можна ўбачыць з наступнае табліцы:

Валавы прыбытак Рэспублікі ў міл. даваенных рублёў
(Згодна кантрольных лічбаў Дзяржпляну БССР).

| Годы | Сельская гаспадарка Абсол.ліч. | У %% | Лясная гаспад., рыбалоўст., паляваньне і г. д. Абсол. л. | У %% | Прамысловасьць Абсол. л. | У %% | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1924-25 г. | 365,9 | 80,7 | 33,5 | 7,4 | 53,94 | 11,9 | 453,34 |
| 1925-26 г. | 377,4 | 76,3 | 41,5 | 8,4 | 75,66 | 15,3 | 494,56 |
| 1926-27 г. | 374,0 | 74,9 | 40,6 | 8,1 | 84,05 | 17,0 | 499,15 |

Тэмп росту валавое прадукцыі прамысловасьці больш значны, чым прадукцыі сельскае гаспадаркі, што выклікае зьніжэньне (паступовае) удзельнай вагі сельскае гаспадаркі ў нацпрыбытку Рэспублікі. Але цяпер, як і ў бліжэйшым дзесяцігодзьдзі, за сельскай гаспадаркай застаецца галоўная роля.

**Земляўладаньне і землякарыстаньне.** Найбольш значныя зьмены ўнесла рэволюцыя ў земляўладаньне і землякарыстаньне.

Па статыстычных зьвестках перапісу 1887 г. земляўладаньне складалася такім чынам:

Сялянскія землі (надзельныя і купленыя) 31,5 проц. усяе плошчы.
уласьніцкія да 50 дзесяцін . . 1,9 „ „ „
уласьніцкія звыш 50 дз. на гаспадарку . 56,3 „ „ „
казённыя і царкоўныя землі . . . 10,3 „ „ „

Зьмены за пэрыяд 1887—1917 г. такія:

Сялянскія земляўладаньні складалі . . 34,4 „ „ „
уласьніцкія да 50 дз. вырасьлі да . , 18,3 „ „ „
буйна-уласьніцкія зьнізіліся да . 40,7 „ „ „

Кастрычнікавая рэвалюцыя, адабраўшы зямлю ў паноў і ліквідаваўшы зямельную ўласнасьць, перадала ў сялянскае карыстаньне 1042 тыс. дз., з якіх—810,3 тыс. дз. годны для сельска-гаспадарчага карыстаньня, што дало магчымасьць значна пашырыцца сялянскай сельска-гаспадарчай плошчы (на 19 проц.). У сучасны момант ня лічачы лясное плошчы, малюнак землякарыстаньня мае наступны выгляд:

| Годы | Землі сялян. Абсол. | У %/% | Дзяржмаёмасьць Абсол. | У %/% | Землі с./г. значэн. у лясах. Абсол. | У %/% | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1926-27 г. | 6405.9 т. д. | 96,0 | 163,7 | 2,5 | 103,7 | 1,5 | 6672,3 |

Масавае земляўпарадкаваньне, як вынік аграрнай рэвалюцыі і спэцыяльныя мерапрыемствы ўлады па землянадзяленьню, абрэзка поўпрацоўных гаспадарак, забясьпечылі значную ліквідацыю безпасеўных гаспадарак, поплеч з зьмяншэньнем буйна-пасеўных гаспадарак.

Гэта характарызуюцца наступнай табліцай:

Процант гаспадарак рознай велічыні да агульнага ліку гаспадарак.

| Год | Безпасеўных | Пасеў да 2-х дзес. | Да 2—6 д. | Да 6—8 д. | Звыш 8 д. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1917 г. . | 9,8 | 22,9 | 55,3 | 6,6 | 5,4 |
| 1926 г. . | 1,4 | 24,4 | 66,5 | 5,2 | 2,5 |

Рост насельніцтва, які быў вельмі інтэнсыўным на Беларусі, выклікаў к часу рэвалюцыі вельмі значнае здрабненьне гаспадарак. Землязабясьпечанасьць двара моцна падала. Ад 1887 г. да 1917 году колькасьць пахаты, якая прыпадае на 1 гаспадарку, зьменшылася на палову. Ад часу рэвалюцыі пытаньне землякарыстаньня ўскладнялася моцным працэсам выдзелу новых гаспадарак. Вось чаму сярэдняя забясьпечанасьць зямлёй двара не магла асабліва павышацца. Але ўсё-ж, у сярэднім на 1 гаспадарку плошча пахаты паднялася на 1,1 проц., а плошча сенажаці—на 12 проц., а на 1 душу сельскага насельніцтва плошча пахаці паднялася на 17,1 проц. і сенажаці—на 30,3 проц.

У 1926-27 годзе сярэдняя забясьпечанасьць зямлёю роўна 8,03 дз. усіх ужыткаў.

Трэба заўважыць, што Беларусь і зараз зьяўляецца ўсё-ж такі краінай аграрна перанаселенай.

Шлях, на які стала сялянства ў апошні час—шлях інтэнсыфікацыі гаспадаркі, пры агульнай індустрыялізацыі краіны зьявіцца фактарам вырашэньня крызісу аграрнага перанасяленьня.

Зараз пярэйдзем да тых зьмен, якія ўнесены гадамі рэвалюцыі ў склад сельскае гаспадаркі. Мы застановімся толькі на грунтоўных і галоўных элемэнтах, якія характарызуюць сыстэму сельскай гаспадаркі. Самыя дасягненьні за 10-цігодзьдзе Рэвалюцыі мы пастараемся

высьвятліць на падставе тых зьмен, якія мелі месца ў скарыстоўваньні тэрыторыі і гаспадарчых капіталаў.

Эволюцыя сельска-гаспадарчых ужыткаў мае наступны выгляд:

| Гады | Сяліба і пахаць | Сенажаць | Выган | Лес і хмызьняк | Няўдобіца | Інш. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1887 г. . . | 30,0 | 8,7 | 3,2 | 38,6 | 17,4 | 2,1 | 100 |
| 1917 ,, . . | 35,3 | 12,5 | 4,0 | 29,6 | 10,1 | 5,8 | 100 |
| 1925 „ . . | 37,0 | 14,6 | 4,1 | 28,1 | 10,4 | 5,8 | 100 |
| 1926 ,, . . | 37,9 | 14,6 | 5,5 | 25,8 | 10,4 | 5,8 | 100 |
| 1927 „ . . | 38,6 | 14,9 | 4,8 | 25,6 | 10,3 | 5,8 | 100 |

Зьмены за 30 год да рэвалюцыі забясьпечылі рост пахаці і сенажаці за лік лясных плошчаў і няўдобіцы. Зямельная цесната, паколькі яна адчуваецца і пасьля рэвалюцыі, вымушае гэты процэс цягнуцца і далей, выклікаючы павялічэньне сельска-гаспадарчай плошчы, хоць і дарагой цаной—зьмяншэньнем, галоўным чынам, лясных плошчаў. Зварочвае на сябе ўвагу даволі высокая велічыня прыродных кармовых ужыткаў (на 1 дз. пахаці прыпадае 1,56 дз. сенажаці).

**Ральніцтва.** З асобных галін сельскае гаспадаркі Беларусі найбольшую вагу маюць дзьве галіны—ральніцтва і жывёлагадоўля. Перш зьвернем увагу на зьмены, якія адбыліся ў палявой гаспадарцы. Разгледзім, якія зьмены адбыліся ў скарыстоўваньні пахаці, пасеўнай плошчы.

Велічыня пасеўнай плошчы ў тысячах дзесяцін.

| Годы | Пасеўная плошча | Процант да папярэдняга года | Процант да 1916 г. |
|---|---|---|---|
| 1916 г. . . | 2365,8 | 100 | — |
| 1924 „ . . | 2648,4 | 116,2 | 116,2 |
| 1925 „ . . | 2843,0 | 107,3 | 120,1 |
| 1926 „ . . | 2939,0 | 103,3 | 124,2 |
| 1927 „ . . | 3020,9 | 102,8 | 127,6 |

Пасеўная плошча расла ў гады рэвалюцыі і, як мы бачылі, у 1927 годзе яна перавышае 1916 год на 27,6 проц.

Агульны характар палявое гаспадаркі досыць яскрава абмалёўваецца тымі зьменамі, якія мелі месца ў зьменах проценту пасеўнае плошчы да пахаці, што можна бачыць з наступнай табліцы:

Процант пасеўнае плошчы да пахаці:

| | 1887 г. | 1917 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Засеўная плошча у %% | 61,1 | 68,9 | 58,0 | 71,1 | 71,6 | 72,3 |

Рост скарыстоўваньня пашні, які меў месца і ў 1887 годзе скарачаў проц. папару. Калі для тыповай трохполкі характэрна 33 проц. папару, дык у 1927 годзе процант папару складае 27,7.

Найбольш поўна вызначаецца тэндэнцыя ломкі трохполкі ў суадносінах культур у пасеве.

Суадносіны палявых культур.

| ГОДЫ | Збожав. | У тым ліку збожав. азімыя | Зярновыя яравыя | Бульба | Прадзільныя | Сеяныя травы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1877 . . . | 89,8 | 46,9 | 42,9 | 6.8 | 2,8 | 0.6 |
| 1901 . . . | 84,4 | 45.8 | 38,6 | 9,6 | 3,4 | 2,6 |
| 1916 . . . | 83,1 | 41,2 | 41.9 | 8,8 | 4,2 | 3,9 |
| 1920-21 . . | 85,9 | — | — | 9,5 | 3,1 | 1.5 |
| 1924 . . . | 81,5 | 43,6 | 37,9 | 11,3 | 3,5 | 3,7 |
| 1925 . . . | 79,2 | 41.3 | 37,9 | 12,1 | 4,0 | 4,1 |
| 1926 . . . | 77,9 | 40,2 | 37,7 | 12.99 | 4,6 | 4,6 |
| 1927 . . . | 76,6 | 39,3 | 37.3 | 13,5 | 4,8 | 5,1 |

З 1887 году мае месца бязупыннае зьніжэньне збожавых і рост у пасеву гандлёвых працаінтэнсыўных культур. Гэта эволюцыя культур мае месца аж да рэвалюцыі, паказваючы рост сельскае гаспадаркі. У часы рэвалюцыі гаспадарка прымае больш натуральныя формы гаспадараньня. У 1920 годзе мы маем упадак гандлёвых культур і траў. Далей пачынаецца новы рост гаспадаркі з яшчэ большым тэмпам.




Павялічэньне засеваў бульбы за 10 год.

У 1924 годзе мы маем яшчэ некаторае зьніжэньне прадзільных і траў. Апошнія-ж гады ня толькі аднавілі тыя суадносіны асобных культур, якія былі да рэвалюцыі, але к 10-цігодзьдзю Рэвалюцыі забясьпечылі і іх узрастаньне ў параўнаньні з дарэвалюцыйным часам, асабліва бульба. Бульба, якая займала 8,8 проц. пасеву ў 1916 годзе, дасягнула 13,5 проц. у 1927 годзе. У асобных раёнах процант бульбы яшчэ больш значны (Бабруйская і Слуцкая акр.), як гэта можна бачыць з прыкладзеных картаграм.

Травы, хоць самі па сабе і не зьяўляюцца працаінтэнсыўнымі культурамі, але іх рост зьяўляецца пабочным паказчыкам тэй інтэнсыфікацыі гаспадаркі, якая мае месца пры гэтым (павялічэньне ўдзельнае вагі жывёлагадоўлі), і дае спрыяючыя ўмовы для пладазьменнага ральніцтва. Зараз спынімся на ўраджайнасьці.

| ГАДЫ | Азімае жыта | Азімая пшаніца | Ячмень | Авёс | Бульба | Лён-семя | Лён-валакно |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1911-15 . . | 48,2 | 54,3 | 45,9 | 47,0 | 454,0 | 29,0 | 23,6 |
| 1924-27 . . | 47,2 | 51,7 | 49,1 | 50,2 | 581,0 | 21,9 | 17,1 |

Значна зьменшылася ўраджайнасьць ільну і узрасла ўраджайнасьць бульбы.

Далей пераходзім да характарыстыкі жывёлагадоўлі.

**Жывёлагадоўля**. Штогодны прырост да вайны буйнае рагатае жывёлы вызначаўся 1,63 проц. Гады вайны і рэвалюцыі не маглі не выклікаць скарачэньня жывёлы. Але ўжо к 1925 году вызначыўся і ўздым жывёлагадоўлі, пры гэтым тэмп уздыму быў найбольш высокі па буйнай рагатай жывёле, забясьпечыўшы к апошняму часу шчыльнасьць пагалоўя буйнае рагатае жывёлы значна вышэй, чым гэта было ў 1916 годзе.

Шчыльнасьць пагалоўя буйнае рагатае жывёлы (на 100 дз. пасеву).

| 1916 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| 39,3 | 43,3 | 44,0 | 47,1 | 48,4 | 48,4 |

Даныя апошніх год паказваюць павялічыўшуюся шчыльнасьць жывёлы, у сялянскай гаспадарцы.

Да рэвалюцыі буйнае рагатае стада характарызавалася адносна высокім процантам у стадзе дарослай жывёлы. Даныя, якія прыводзяцца ніжэй сьведчаць, што і зараз тэндэнцыя малочнага кірунку стада не паслабела, але, наадварот, узмацнілася.

Склад стада буйнай рагатай жывёлы ў процантах:

| ГАДЫ | Каровы | Валы і быкі | Маладняк | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1917 . . . | 57,2 | 2,8 | 40,0 | 100 |
| 1924 . . . | 61,0 | 4,3 | 39,7 | 100 |
| 1925 . . . | 58,7 | 5,2 | 36,1 | 100 |
| 1926 . . . | 61,8 | 5,0 | 32,9 | 100 |
| 1927 . . . | 62,0 | 4,5 | 33,5 | 100 |

Найбольш выразны малочны кірунак стада наглядаецца ў акругах Менскай, Віцебскай, Слуцкай і Аршанскай. У акругах Мазырскай, часткаю Бабруйскай і Барысаўскай удзельная вага дарослай жывёлы значна меншая. Тут ужо стада больш мяснога кірунку.

Цікава будзе прасачыць, як ішоў рост жывёлагадоўлі ў гаспадарках рознай буйнасьці.

Буйнай рагатай жывёлы на 100 гаспадарак:

| ГАДЫ | Безкароўных | 1 карова | 2 каровы | 3 каровы | 4 каровы і больш |
|---|---|---|---|---|---|
| 1917 . . . . | 9,5 | 39,4 | 35,2 | 11,1 | 4,8 |
| 1924 . . . . | 6,2 | 58,7 | 29,8 | 4,5 | 0,8 |
| 1525 . . . . | 5,4 | 51,1 | 35,1 | 6,9 | 1,5 |
| 1926 . . . . | 4,3 | 46,7 | 38,4 | 8,5 | 2,1 |

Такім чынам, у 1926 годзе пры агульным павялічэньні шчыльнасьці жывёлы, значна паменшылася безкароўнасьць, калі было забясьпечана больш роўнамернае разьмеркаваньне стада.

На Беларусі, пры разьвіцьці бульбы, вялікае значэньне мае сьвінагадоўля. Акрамя ўнутранага скарыстаньня, сьвінагадоўля ў дарэвалюцыйны час давала 5 проц. сел.-гасп. экспарту. Гады вайны выклікалі значнае скарачэньне сьвінагадоўлі. Аднаўленьне сьвінагадоўлі ішло больш павольным тэмпам, чым для буйнай рагатай жывёлы, дасягнуўшы ўзроўню 1916 г. толькі ў 1925 г. і забясьпечыўшы некатарае перавышэньне к 1927 г.

Шчыльнасьць сьвінога пагалоўя на 100 дзес. пасеву;

| 1916 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| 42,1 | 31,3 | 37,5 | 43,3 | 44,4 | 44,5 |

У даваенны час сярэдні штогодны прырост конскага пагалоўя раўняўся 0,84 проц. і быў меншы за рост пасеўнай плошчы. Вайна і рэвалюцыя выклікалі скарачэньне конскага складу, але к 1926 г. дасягнут усё-ж узрост конскага стада 1916 г. Адначасова ўзрастаньне конскага стада забясьпечыла і больш роўнамернае разьмеркаваньне коняй.

На 100 гаспадарак прыходзіцца:

| ГАДЫ | Без раб. жывёлы | 1 галава | 2 галовы | 3 галовы і больш |
|---|---|---|---|---|
| 1917 . . . | 15,5 | 52,6 | 25,7 | 6,2 |
| 1924 . . . | 16,9 | 71,9 | 10,6 | 0,6 |
| 1925 . . . | 14,2 | 71,0 | 13,6 | 1,2 |
| 1926 . . . | 13,0 | 73,0 | 13,0 | 1,0 |

Агульны ўзрост сельскае гаспадаркі, павялічыўшаяся яе інтэнсыўнасьць забясьпечыла да 1926 г. павышэньне нацыянальнага прыбытку на 1 душу сельскага насельніцтва ня толькі ў параўнаньні з дарэвалюцыйным, але нават і з даваенным часам. Калі ў 1911-1915 г. г. на адну душу прыпадала 80,7 руб., дык у 1926 г. гэта дае 83,7 даваенных рублёў.

*(Працяг будзе).*

# Сельская гаспадарка Гомельшчыны.

Першы дэкрэт Савецкай ўлады ў дні Кастрычнікавай рэвалюцыі быў напісаны аб адабраньні зямлі ад памешчыкаў і перадачы яе працоўнаму сялянству. Такім чынам, на запытаньне, што дала селяніну Кастрычнікавая рэвалюцыя—можна адказаць: „няма памешчыкаў, няма дваран, а ёсьць сялянская гаспадарка, якая с кожным годам расьце".

Карыстаньне зямлёю зьмянілася так:

| | 1917 г. дзез. | 1927 г. дзес. |
|---|---|---|
| 1. Зямля дваран . . . | 525.132 | — |
| 2. Зямля пад гарадамі . | 32.342 | 62.581 |
| 3. Зямля працоўнага карыстаньня . . . . | 903.800 | 1.042.309 |
| 4. Лясы дзяржавы . . | — | 366.384 |

Такім чынам, сялянскае землякарыстаньне павялічылася на 138.509 дзес., або на 16 проц. у параўнаньні з даваенным часам.

Прайшло 10 гадоў з таго часу, калі рабочыя і сяляне прагналі фабрыкантаў і памешчыкаў і павінны былі ўзяцца за адбудову гаспадаркі, але ў першыя тры гады існаваньня улады рабочых і сялян ня было яшчэ магчымасьці узяцца за адбудову гаспадаркі, разбуранай імпэрыялістычнай вайной.

Зробленыя зьмены ў землякарыстаньні далі магчымасьць зрабіць і грунтоўную перабудову сельскай гаспадаркі, паказчыкам чаго зьяўляецца земляўпарадкаваньне. У дарэвалюцыйны час было праведзена земляўпарадкаваньне на плошчы 9.614 дзес. а к 1927 г. земляўпарадкавана 428.127 дзес. або ў 50 разоў больш, чым у дарэвалюцыйны час.

Кастрычнікавая рэвалюцыя ня толькі зьмяніла формы землякарыстаньня, але і стварыла належныя ўмовы для беднаты. Характарызуем гэта данымі на 1917-27 г.

| | 1917 г. проц. | 1927 г. проц. |
|---|---|---|
| 1. Было безпасеўных гаспадарак . . . . . . . | 10 | 0,8 |
| 2. Пры земляўпарадкаваньні застаўлена беднаты на старых сялібах . . . . . . | — | 59 |
| 3. Занята бедняцкімі гаспадаркамі бліжэйшых і лепшых зямель . . . . . . . | — | 30 |

Паказаныя лічбы гавораць, як скараціўся процант безпасеўных гаспадарак і палепшылася становішча беднаты.

**Мэліарацыя** ў акрузе да рэвалюцыі праводзілася толькі на памешчыцкіх землях у мэтах палепшаньня панскіх лясоў. На сялянскіх-жа землях ніякай мэліарацыі не праводзілася з прычыны заблутанасьці землякарыстаньня і адсутнасьці належных мерапрыемств. Толькі пасьля рэвалюцыі, калі была ліквідавана прыватная ўласнасьць на зямлю, прадастаўлены тэхнічныя сілы і крэдыты дзяржаваю, мэліарацыя пачала хутка разьвівацца. У 1927 г. ужо налічваецца 104 мэліарацыйных т-ва, якія палепшылі 14.860 дзес. сялянскіх зямель.

На справу мэліарацыі зям'органамі патрачана 209.012 руб., а насельніцтвам 172.654 руб.

Разьвіцьцё земляўпарадкаваньня і мэліарацыі стварылі належны грунт для росту жывёлагадоўлі і палявой гаспадаркі. Так, напрыклад, да рэвалюцыі шматпольныя гаспадаркі займалі 350 дзес., а да 1926 г. савецкай аграноміяй пераведзена на шматпольле 51.388 дзес.:

Беднякія гаспадаркі на плошчы 17.359 дзес.
Серадняцкія „ „ „ 28.273 „
Заможныя „ „ „ 5.776 „

Пасеўная плошча павялічылася нават ў параўнаньні з 1916 г. Пасеўная плошча была ў 1916 г. 208.099 дзес.
„ „ „ „ 1927 г. 261.205 „

Зьмены ў суадносінах палявых культур таксама паказваюць аб інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі.

| Назва расьлін | 1916 г. проц. | 1927 г. проц. |
|---|---|---|
| Зярновыя . . . | 77,7 | 64,6 |
| Бульба . . . . | 11,4 | 19,5 |
| Канюшына . . . | 1,4 | 3,4 |
| Лён . . . . | 4,9 | 5,1 |
| Караньплоды . . | 4,6 | 7,4 |

Такім чынам сельская гаспадарка ўжо значна падняла сваю таварнасьць.

**Жывёлагадоўля** акругі ў дарэвалюцыйны час была ў заняпадзе; ня было належнай кармовай базы і зусім не давалася сродкаў на заатэхнічныя мерапрыемствы з боку дзяржавы.

Зараз-жа, дзякуючы мерапрыемствам савецкай улады, жывёлагадоўля вырасла як колькасна, так і па сваёй якасьці. Даю параўнаньне роста жывёлагадоўлі:

| Від жывёлы | 1917 г. | 1926 г. |
|---|---|---|
| Коняй. (тыс галоў) | 119 | 138 |
| Рагатай скаціны „ | 219 | 252 |
| Сьвіней „ „ | 237 | 245 |
| Авечак „ „ | 165 | 359 |

Побач з ростам ліку скаціны прайшло і выраўніваньне сялянскіх гаспадарак у забясьпечанасьці скацінаю.

| Катэгорыя гаспадарак | 1917 г. проц. | 1927 г. проц. |
|---|---|---|
| Безлашадныя . . . . | 13,54 | 10,56 |
| 1-2 коняй . . . . . | 70,88 | 85,13 |
| 3-4 „ . . . . . | 15,58 | 4,31 |
| Без кароў . . . . . | 8,17 | 5,78 |
| 1-2 каровы . . . . . | 76,00 | 83,55 |
| 3-4 „ . . . . . | 15,83 | 10,64 |

Як бачым, скарачаецца працант крайніх груп гаспадарак і ўзрастае сярэдняя група.

Пры агульным росьце эканомікі сельскай гаспадаркі павялічваецца і забясьпечанасьць с.-г. інвэнтаром. Так на 1000 гаспадарак было інвэнтара:

| Назва | 1917 г. проц | 1927 г. проц. |
|---|---|---|
| Малатарняў (шт.) . | 9,5 | 21 |
| Арфаў . . . . | 16 | 85 |
| Сячкарняў . . . | 2 | 18 |
| Радковых сяўнікоў | — | 0,67 |
| Плугоў . . . . | 877 | 930 |
| Сох . . . . | 427 | 46 |
| Трактараў . . . | — | 7 |

Павялічваецца лік с.-г. машын з адначасовым ростам т-ваў. У 1927 г. іх налічваецца 81 машынне т-ва, якія зьвязваюць насельніцтва па групах так:

Беднякоў . . . 32,5 проц.
Сераднякоў . . . 65 „
Замежных . . . 2,5 „

У далейшым дзеля разьвіцьця сельскай гаспадаркі неабходна дамагацца магчыма большага коопэраваньня насельніцтва, каб пры колектыўнай працы прысьпешыць тэмп разьвіцьця селськай гаспадаркі на сацыялістычных падставах.

**Масюкоў.**

# Чаго дасягнуў раён за час рэвалюцыі.

Да рэвалюцыі ў нашым раёне (быўш. воласьці) ня было ніводнага дасьледчыка. Газэт ня выпісвалі і ня чыталі, школ было мала. Усюды сялянскае поле абкружалі абшары памешчыкаў. Шматпольля ня было, а цэркваў было штук 7-8.

Кіно і спэктакляў селянін ня бачыў. Лубіну і штучната ўгнаеньня сяляне ня сеялі на полі. Коопэратываў і розных т-ваў, як мэліорацыйныя, крэдытовыя, машынныя і інш. ня было. Ня было і агравучастка. Кораньплодаў сяляне ня сеялі і не давалі каровам. Корм давалі пад ногі. Цёплых хлявоў не будавалі, але ўсяго і не пералічыць.

А ад чаго ўсё гэта так? Ад нязнаньня. Але вось да ўлады прышлі Саветы. Іх мэтай было даць зямлю і веды вёсцы. Цяпер што-ж дасягнута за 10 год рэвалюцыі? А вось што. У раёне адчынен агравучастак, дзе працуе тры аграномы. Пабудавана 3 электрастанцыі (Падблонская, Блонская і Пухавіцкая). Выпісваецца сялянамі шмат газэт, кніжак і журналаў (да 2.000 экз.), ёсьць 8 хат-чытальняў. Ёсьць летнія дзіцячыя ясьлі, дзе летам даглядаюцца дзеці ў час палявой працы.

Сяляне пераходзяць на пасёлкі з шматпольлем. Земляўпарадкаваньне ідзе поўным ходам. Заявы ад сялян ляжаць па 2-3 г. пакуль іх земляўпарадкуюць, бо не хапае каморнікаў. На памешчыцкіх землях якія засталіся ад раздачы сялянам, організованы саўхозы, камуны і колхозы, якія дапамагаюць сялянам палепшыць сваю гаспадарку, даючы сартовае насеньне ў абмен на сялянскае, ачышчаюць сялянская і шмат інш.

У сялян зьявіліся веды праз газэту і часопіс; яны сталі паляпшаць сваю гаспадарку. У раёне працуе мэліорацыйнае т-ва. Сяляне шмат сеюць бульбы, канюшыны на корм і лубіну на ўгнаеньне Спэктаклі і кіно амаль што бачыў кожны селянін і сялянка. Садзяць сяляне сады, а некаторыя гадуюць і прышчэпы на продаж. Шмат сялян парабілі кармушкі і цёплыя відныя хлявы.

Гэта ўсё дала Савецкая ўлада наладжваючы раённыя і інш. выстаўкі. Цяпер у час сьвята сяляне ідуць у хату-чытальню паслухаць які-небудзь даклад, або пачытаць кнігу.

Працуюць у раёне і розныя ячэйкі, як Мопр'у, Асоавіяхіму, КП(б)Б, ЛКСМБ, Жанаддзел, Камітэт С. Уз. Ёсьць шмат коопэратываў і інш.

Усё гэта дала Савецкая ўлада праз свой друк і сваіх працаўнікоў.

Селянін **А. Карнейчык**,

(х. Сарачынава).

---

# Нашы дасягненьні ў навукова-дасьледчай працы.

Савецкая Беларусь, у сучасных яе граніцах, да Кастрычнікавай рэвалюцыі амаль што ня мела сваіх навукова-дасьледчых устаноў. Толькі ў галіне культуры балот мы мелі адну Менскую Балотную дасьледчую станцыю, якая працуе з 1912 г. Па другіх галінах сельскае гаспадаркі мы былі лепшым прыкладам „нявежаства“ царскіх часоў.

Шпаркае разьвіцьцё дасьледчай справы ў БССР пачынаецца толькі пасьля адходу з Беларусі белапалякаў і пасьля 1-2-х гадоў мірнага

будаўніцтва Савецкага ўраду. Апрача *Магілеўскай дасьледчай станцыі лекавых расьлін* ораганізаванай ў 1917 г., усе іншыя дасьседчыя установы пачынаюць організоўвацца з 1922-25 г.

Зараз мы маем 5 раёных сельск.-гасп. дасьледчых станцый—*Горацкую, Віцебскую, Менскую, Турскую і Палескую* і 6 станцый спэцыяльнага прызначэньня—*Менскую балотную, Магілеўскую* лекавых расьлін, *Менскую аховы расьлін,* Менскую *машыннаспробную, Забалацкую балотную гаспадарку і Цэнтральную лясную станцыю* ў Горках. Для вывучэньня клімату існуе Мэтэоролёгічнае Бюро, яднаючае 22 мэтэоролёгічн. станцыі II разраду, 48 станцыі III разр. і 46 вадамерна-дажджамерных пастаў.

Акрамя гэтага, ужо напярэдадні 10-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі, організаваўся Беларускі Навукова-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Ляеное Гаспадаркі імя Ў. І. Леніна з дапаможнымі ўстановамі, як Зоотэхнічная, Сьвінаводная і Бульбяная дасьледчыя станцыі (акрамя ўстноў прынятых ад НКЗ).

Такім чынам там, дзе да Кастрычнікавай Рэвалюцыі было амаль „пустое месца“, к 10-ай гадавіне мы маем значную сетку Навукова-Дасьледчых устаноў. За гэты час праролена вялікая організацыйная праца, вынікі якой у хуткім часе павінны сказацца. Навукова-дасьледчыя ўстановы ўсю сваю навуковую думку накіроўваюць на інтэнсыфікацыю і паляпшэньне сельскае гаспадаркі.

Рост дасьледчай справы магчыма бачыць па асыгнаваньнях дзяржавы, якія ў першую чаргу адбіваюцца на тэмпе і аб'ёме працы.

Асыгнаваньні на дасьледчую працу (т. руб).

| ГАДЫ | 1913 г. | 1914 г. | 1915 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. *) | 1927-28 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Асыгнавана . . | 37.087 | 41.634 | 39.480 | 30.796 | 145.409 | каля 300.000 | каля 500.000 |
| Лік устаноў . | 1 | 1 | 1 | 9 | 11 | 12 | 14 |

Трэба адзначыць, што некаторыя досьледы вырашаюцца на станцыях у працягу дзесяцігодзьдзяў. Але і ў даны момант па некаторых галінах мы маем дасягненьні. Скажам аб гэтым толькі ў самых кароткіх рысах.

**Паляводзтва.** Галоўныя задачы аддзелаў паляводзтва Горацкай, Віцебскай, Менскай, Турскай і Палескай станцый гэта распрацоўка і высьвятленьне пытаньняў тэхнікі сельскае гаспадаркі:

1) шуканьне шляхоў інтэнсыфікацыі паляводзтва;
2) кармадабываньне і
3) паляпшэньне глебы праз лепшы вырабы і ўгнаеньне.

У выніку дзейнасьці станцыі мы маем ужо прыклады значных ураджаяў на дасьледчых палёх. Так па даных за 1926 г. па некаторых дасьледчых дзялянках на Станцыях былі ўраджаі, перавышаючыя ў 3-5 разоў сярэднія ўраджаі жыта па БССР і ў $2^1/_2$ разы па бульбе.

---

*] Разам з асыгнаваньнямі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту.

Паказваю гэта ў табліцы ўраджаяў за 1926 г. (у двайных цэнтнэрах[1]):

| Назва культуры | Сярэднія па БССР | На дасьледчых палёх | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Горацкая станц. | Менская станц. | Віцебская станц. | Турская станц. |
| Жыта (зярно) . . | 6,31 | 32,0 | 28,32 | 26,4 | 20,0 |
| Бульба (клубн.) . | 85,73 | 192,9 | 202,58 | 225,9 | 215,7 |

Такая вялікая розьніца паміж сярэднімі ўраджаямі па БССР і магчымымі ўраджаямі, прыклады якіх даюць дасьледчыя станцыі, тлумачыцца нашай адсталасьцю і старымі прыёмамі гаспадараньня.

Досьледамі станцый СССР устаноўлена, што шматпольлем можна падняць ураджаі на 80-100 проц., мінэральнымі ўгнаеньнямі на 30-50 проц., рацыянальным варабам глебы на 25-40 проц. і сартавым насеньнем на 20-30 проц.

З не надрукаванай яшчэ працы аўтара данага артыкулу *„Вынікі палявых досьледаў з угнаеньнямі па Меншчыне“* таксама відаць, што поўнае мінэральнае ўгнаеньне па Меншчыне павышае ўраджай жыта на 46,3 проц., аўса на 48,1 проц., ячменю на 41,1 проц. і бульбы на 44,4 проц.

У тэй-жа працы аўтара па Меншчыне паказаны наступныя лічбы па ацэнцы асобных угнаеньняў, якія прыведзены ў табліцы:

Аплата аднаго пуда ўгнаеньня ў пудох ураджая.

| Назва ўгнаеньня | Салетра | Супэрфасф. | Тамасш. | Калійная соль 30% | Калійная соль 40% | Салетра | Супэрфасф. | Тамасшлак | фасфарыт | Калійная соль 30% | Калійная соль 40% |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сярэдняя норма угнаеньня ў пуд. на дзес. . . . . . | 6[2]) | 18 | 24 | 19 | 6 | 6 | 20 | 24 | 35 | 10 | 6[3]) |
| жыта { зярно . . . . . | 3,5 | 0,75 | 0,6 | 1,8 | — | — | 1,1 | 0,9 | 0,66 | 1,3 | — |
| жыта { салома . . . . . | 11,7 | 1,3 | 1,1 | — | — | — | 1,4 | 0,9 | 0,9 | 2,7 | — |
| Авёс—зярно . . . . . . . | 2,8 | 0,8 | 0,5 | — | 1,8 | 3,1 | 1,0 | 0,5 | — | 1,2 | — |
| „ салома . . . . . . | 4,0 | 1,0 | 1,3 | — | 1.6 | 4,7 | 1,1 | 0.9 | — | 2,6 | — |
| Ячмень . . . . . . . . | 3,0 | 0.8 | 0,6 | — | 1,4 | — | 0.8 | 0,6 | — | — | 1,4 |
| „ . . . . . . . . | 4.0 | 0,8 | 0,6 | -- | 1,3 | — | 0,2 | 0,3 | — | — | 2.5 |
| Бульба . . . . . . . . | 24,1 | 7.5 | 4,3 | — | 4,7 | 19,1 | — | 1,2 | — | — | 11,2 |

Як бачым, мінэральнае ўгнаеньне ў нас добра аплачваецца і можа знайсьці сабе шырокае прымяненьне пры зьніжэньні цэн на ўгнаеньне.

---

[1]) Двайны цэнтнэр—100 кілё.
[2]) Пад бульбай 9 пуд.
[3]) „ „ 11,25 пуд.

Шырокім ужываньнем мінэральных угнаеньняў разам з іншымі культурнымі прыёмамі гаспадараньня, замежныя краіны ў мінулым стагодзьдзі паднялі ўражайнасьць сваіх палёў на значную вышыню, што можна бачыць з табліцы ўраджаяў зярнавых хлябоў (у двайных цэнтнэрах на гэктар):

| | 1770-1780 г. | 1885 г. | 1895 г. | 1905 г. | 1913 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Данія . . . | — | 22,33 | 23,98 | 26,68 | 28,48 |
| Галяндыя . . . | — | 18,13 | 19,63 | 24,28 | — |
| Нямеччына . . | 6,75 | 14,99 | 17,54 | 19,78 | 22,78 |
| Францыя . . . | 6,75 | 11,54 | 13,04 | 13,34 | 13,49 |
| Расія . . . | — | 5,10 | 5,85 | 6,60 | 6,75 |

**Сэлекцыя і насеньняводзтва**. У мэтах замены малаўраджайнага засьмечанага насеньня ў насельніцтва, у апошнія гады НКЗ зьвярнуў вялікую ўвагу на работы па сэлекцыі і насеньняводзтву. Вывядзеньне новых лепшых сартоў с.-г. расьлін вядзецца ў нас на дасьледчых станцыях. Горацкая станцыя займаецца вывучэньнем усіх збожавых расьлін, лёну і канюшыны; Віцебская Станцыя вывучае гародныя расьліны, Турская—лугавыя і Менская бульбяная дасьледчая станцыя павінна будзе заняцца вывучэньнем сартоў бульбы.

Досьледы ўжо дазволілі нам выдзяліць для далейшага размнажэньня жыта „Пяткускае", авёс—„Пабеда" і „Залаты Дождж", зімовую пшаніцу „Высокалітоўскую", ячмень „Ганна Ганхен", і „Лебядзіная шыя", бульбу „Вольтман" і „Сылезію".

„Залаты дождж" ужо размножаны да дзесяткаў тысяч пудоў.

Практычнае насеньняводзтва організавана так, што дасьледчыя станцыі даюць сотні пудоў таго ці іншага сорту для далейшага размнажэньня Дзяржаўнай Насеннай Культуры, якая організавана з 4-х саўхозаў—каля Воршы і з 4-х саўхозаў—каля Гомеля (на больш лёгкіх глебах). Дзяржнасенкультура размнажае перададзены ёй сорт да тысяч пудоў і перадае ў саўхозы, якія ў сваю чаргу размнажаюць да дзясяткаў тысяч пудоў і перадаюць у насеньняводныя таварыствы. Ад насеньняводных таварыстваў ён паступае к насельніцтву.

З 1929 г. насельніцтву будуць передадзены першыя партыі палепшанага сартавога насеньня.

Для кантроля за захоўваньнем якасьці сартавога насеньня з 1927 г. мы маем 4 Кантрольна-Насенныя Станцыі—у Менску, Гомелі, Віцебску і Горках.

**Садоўніцтва**. Аддзел Садоўніцтва Горацкай с.-г. Дасьледчай Станцыі заснован у 1922 г.

Аддзелам садоўніцтва шляхам абсьледваньня ўстаноўлен асартымэнт пладовых насаджэньняў для паўночна-ўсходняй часткі Беларусі:

антонаўка (большасьць), штрэйфлінг, бабушкіна, цынамонавое паласатае, пуцімка, кальвіль пахучы, ружовае і інш.

Досьледамі па апылкаваньню выяўлена, што чыстыя насаджэньні аднэй антонаўкі альбо бабушкіна ці цынамонавага паласатага амаль што не пладаносяць. Каб сад пладаносіў, патрэбна ў ім мець рознастайны асартымэнт дрэў.

Нагляданьні за 25 сартамі крупнаплоднай садовай землянікі паказалі, што найлепшымі для ўмоў станцыі зьяўляюцца сарты *„Юкунда", „Пабядзіцель", „Дырэктар Юльке", „Рошчынская", „Альфонс", „Абрыкос" і „Рэйнскае золата"*.

Досьледы Р. Гуржага з зімовым захоўваньнем яблык паказалі, што ў БССР амаль што няма сартоў яблык, прыгодных для доўгатэрміновай лёжкі зімою. Найлепшым па лежкасьці і большаму даходу (154 проц. на капітал) аказаўся сорт „бабушкіна". Гэта пытаньне захоўваньня пладоў у зіму, пры пабудове пладахранілішч, павінна адыграць паважную ролю ў разьвіцьці нашага садоўніцтва.

**Гародніцтва.** Па гародніцтву з 1923 г. вядзе працу *Віцебская станцыя.*

Па досьледах станцыі з капустай (за 4 гады) на першым месцы па ўраджайнасьці стаіць капуста „Капэнгагэнская рыначная"—50,96 тон качаноў на гэкт., затым ідзе „Браўншвэйская"—50,43 тон на гэкт., „Слава"—47,73 тон і „Сабураўка"—43,45 тон на гэкт. Вялікі ўраджай і добрай якасьці дае капуста „Беларуская Я. Мароза", але яна лёгка паражаецца капуснай кілой.

З розных сартоў кармавых буракоў найлепшы ўраджай даў бурак „Экендорфскі чырвоны", бручка—„Краснасельская", морква—„Белая зялёнагаловая".

Да размнажэньня насеньня гэтых сартоў станцыя ўжо прыступіла.

**Лекавыя культуры**. Работамі *Магілеўскай дасьледчай станцыі лекавых расьлін* магчыма лічыць устаноўленым, што культура валярыяны, наперсьцянкі, беладоны, шалфея, аптэчнай румянкі, дурману, карыяндры і інш. зьяўляецца прыгоднай для ўмоў Беларусі.

Так, сярэднія даныя ўраджайнасьці найбольш пашыраных культур па станцыі даюць наступны малюнак:

| РАСЬЛІНА | Ураджай у пуд. з дзес. | Цана 1 пуд. | Валавы прыбытак |
|---|---|---|---|
| Валярыяны . . | 30 пуд. сухога кораня | 16 руб. | 480 руб. |
| Чырвоная Наперсьцянка . . . | 100 пуд. сухога лісту | 14 „ | 1.400 „ |

**Культура балот**. Досьледы па культуры балот вядзе Менская Балотная Дасьледчая Станцыя з 1912 г. і Забалацкая Балотная Дасьледчая Гаспадарка з 1923 г. За гэты час Менскай Балотнай Станцыяй здабыта шмат цікавага матэрыялу па культуры балот Беларусі. Значная частка гэтага матэрыялу ўжо надрукавана ў выданьнях станцыі.

Каб каротка ахарактэрызаваць дасягненьні Менскай Балотнай Станцыі за гэты час, трэба прывесьці ўраджайныя даныя гэтай станцыі па розных культурах (сярэднія за 11 год).

| НАЗВА КУЛЬТУР | Ураджай 1 дз. ў пуд. | | Кошт пуда*) | | На суму | | Затраты за год на культуры **) | | Агульны даход за вылічэньнем расходаў | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зярна ці корань-клубень пладоў | Сена ці саломы | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| Бульба | 1.123 | — | -- | 23 | 370 | 59 | 76 | 14 | 294 | 45 |
| Капуста | 1.830 | — | — | 21 | 384 | 30 | 100 | 18 | 284 | 12 |
| Кармавая рэпа | 3.000 | — | — | 10 | 300 | — | 64 | 74 | 235 | 26 |
| Авёс: | | | | | | | | | | |
| 1) Зярна | 116 | — | 1 | 16 | 185 | 86 | 57 | 86 | 127 | — |
| 2) Саломы | — | 270 | — | 19 | | | | | | |
| Канюшына і цімаф. (3-х гадов. луг) | — | 334 | — | 48 | 160 | 32 | 56 | 24 | 104 | 08 |
| Жыта азімае: | | | | | | | | | | |
| 1) Зярна | 110 | — | 1 | 18 | 162 | 10 | 60 | 36 | 101 | 74 |
| 2) Саломы | — | 190 | — | 17 | | | | | | |

На фоне нашых 40-50 пудовых ураджаяў на мінэральных глебах, гэты ўраджай робіць надзвычайнае ўраджаньне.

Аб працы і дасягненьнях Забалацкай Балотнай гаспадаркі успамінаць ня буду, бо яна даволі поўна аб сваёй працы друкавала ў „Плугу“ раней.

Наогул-жа дасьледчымі станцыямі з году ў год зьбіраецца навукова-дасьледчы матэрыял, які дазволіць нам у бліжэйшыя гады будаваць нашу гаспадарку на навуковых падставах.

**М. Савіцкі.**

---

# Менская балотная станцыя.

Заснавана Менская Балотная станцыя ў 1912 г. і такім чынак к 10-цігодзьдзю Кастрычніка налічвае 15 гадоў сваёй працы. Наша станцыя зьяўляецца старэйшай балотнай станцыяй у Саюзе. Такім чынам, дасьледчая праца па культуры балот перш пачалася на Беларусі і гэта не выпадкова. Аграмадныя зямельныя плошчы Беларусі заняты балотамі ($^{1}/_{5}$ тэрыторыі), дзе сельскае насельніцтва можа знайці сабе працу. У шмат якіх раёнах Беларусі сялянства стаіць пад уладаю і націскам балот.

---

*) Сярэднія цэны па ўсей БССР за 1924-25 г.

**) Гэта выдаткі на штучнае ўгнаеньне, гадавы кошт карыстаньня інвэнтаром і кошт насеньня.

Галоўнай задачаю Менскай Балотнай станцыі ад пачатку яе працы было найці практычныя прыёмы длаператварэньня балотных пустынь у сенажаць і поле. К 10-й гадавіне Кастрычніка станцыя мае бязумоўны посьпех у вырашэньні гэтай асноўнай задачы.

1. Балотная станцыя на падставе сваіх досьледаў і назіраньняў дала правільныя нормы асушкі балот.

2. Балотная станцыя даказала, што без мінэральных угнаеньняў не мажліва выгаднае скарыстаньне балота пасевамі. Станцыя паказала, што беларускія тарфянікі маюць нязьлічаны запас азоту, чаму могуць абыходзіцца без натуральнага гною і наадварот самі могуць служыць азотным угнаеньнем для бедных пескавых плошч.

3. Балотная станцыя даказала, што на правільна асушаных і ўгноеных балотах вырастае вельмі добры ўраджай збожжа, бульбы, караньплодаў, сеяных траў, які ў тры разы перавышае ўраджай сялянскага поля.

4, Станцыя даказала, што пры сярэдніх ураджаях—збожжа 120 п. зярна, бульбы 1.200 пуд., сеяных траў 350 пуд. расходы на асушку, выраб і ўгнаеньне балота пакрываюцца ўраджаем. Такім чынам арганізацыя гаспадаркі на балоце зусім рэальная справа, што і ўлічыў Савецкі ўрад.

5. За апошнія 5 гадоў станцыя падгатавала каля 20 інструктароў для работы на балоце.

6. Свае ідэі і дасягненьні станцыя надрукавала ў сваіх працах, якіх вышла 14 нумароў.

7. Тэрыторыя гаспадаркі Балотнай станцыі займае зараз 250 дз. замест ранейшых 45. Маецца цэлы шэраг гаспадарчых і жылых будынкаў. Наогул-жа дасягненьні Менскай Балотнай станцыі вельмі каштоўны, як з боку тэорыі, так і практыкі.

**М. Д.**

---

# 10-цігодзьдзе Кастрычнікавай рэвалюцыі і Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў.

Сьвята 10-й гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі ёсьць сьвята дасягненьняў Савецкай рабоча-сялянскае ўлады.

Адным з такіх дасягненьняў зьяўляецца Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў. Організацыя Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў у БССР, як колектыва шырокіх мас сялянства зьвязаных аднэй агульнай ідэяй, зьяўляецца вынікам палітыкі Комуністычнай партыі на вёсцы і тых культурна-агранамічных мерапрыемств, якія праводзіліся Савецкаю ўладаю ў сельскіх гаспадарках за гэтыя 10 гадоў і якія ў сваю чаргу выклікалі шырокую самадзейнасьць насельніцтва ў перабудове сельскае гаспадаркі на новых соцыяльных пачатках.

Па свайму характару Інстытут Сялян-Дасьледчыкаў ёсьць масавая навукова-дасьледчая організацыя, заснаваная галоўным чынам на актыўнасьці і самадзейнасьці шырокіх мас сялянства. Перад інстытутам стаяць наступныя задачы:

1) організацыя шырокіх мас сялянства дзеля колектыўнай і сумеснай з дасьледчымі станцыямі і аграномамі навукова-дасьледчай працы ў сельскай гаспадарцы.

2) Вучот шуканьняў самога насельніцтва і яго вопытаў па паляпшэньню сельскай гаспадаркі.

3) Вырашэньне пытаньняў па паляпшэньні і організацыі сельскае гаспадаркі на новых соцыялістычных пачатках.

Організацыю і кіраўніцтва працай Інстытуту Сялян-Дасьледчыкаў узяў на сабе Беларускі Навукрва-Дасьледчы Інстытут Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна пры СКН БССР, які разам з Наркамземам БССР выдзяліў дзеля гэтага спэцыяльнае Бюро Сялян-Дасьледчыкаў і адпаведныя для працы сродкі. Бюро складзенна з двух прадстаўнікоў ад Навукова-дасьледчага Інстытуту, двух ад Наркамзема і аднаго ад сялян-дасьледчыкаў. Прадстаўнік ад сялян-дасьледчыкаў пакуль што яшчэ не вызначаны.



Старэйшы селянін-дасьледчык Я. К. Мароз.

Бюро распачало сваю працу ў сакавіку м-цы 1927 г. і ў першую чаргу прыступіла да выяўленьня сялян-дасьледчыкаў і закладкі досьледаў.

У гэтым годзе досьледы закладаліся галоўным чынам з угнаеньнямі (мінэральныя ўгнаеньні, гной і торф) пад розныя культуры і па сортаапрабаваньню (авёс і бульба), але ёсьць і такія досьледы, як вывучэньне папараў, час і гушчыня пасеву і г. д. Працу сваю Бюро Сялян-Дасьледчыкаў праводзіць праз дасьледчыя станцыі і раённых аграномаў, прыстасоўваючы тэмы і схэмы досьледаў да ўмоў кожнага раёну.

Усяго выяўлена і аб'яднана па Беларусі 286 сялян-дасьледчыкаў, у лік якіх уваходзяць 10 колектыўных гаспадарак, 20 саўхозаў, 8 школ, розных тыпаў і адна дзіцячая калёнія.

Гэты лік сялян-дасьледчыкаў разьмяркоўваецца наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Менскай агранамічнай станцыяй | аб'яднана | . . | 77 | сялян |
| Турскай | „ | „ | 80 | „ |
| Горацкай | „ | „ | 16 | „ |
| Віцебскай | „ | „ | 22 | „ |
| Менскай балотнай | „ | „ | 16 | „ |
| Часопісьсю „Плуг“ | „ | „ | 41 | „ |
| Бюро Сялян-Дасьледчыкаў | | „ | 34 | „ |

З Палескай Станцыі матэрыялу пакуль што не атрымана.

Анкеты атрыманы пакуль што толькі ад 95 дасьледчыкаў, чаму зараз пакажам толькі некаторыя адказы.

Навуковы досьлед патрабуе ад селяніна належнай падрыхтоўкі, чаму я прывяду лічбы аб адукацыі сялян-дасьледчыкаў.

Па адукацыі сяляне-дасьледчыкі разьмяркоўваюцца так:

Маюць сярэднюю адукацыю . 6 дасьлед.
Скончылі пачатковую школу . 56 „
Няпісьменных. . . . 4 „
З хатняй адукацыяй . . 14 „
Не паказана адукацыя . . 15 „

Усяго . 95 дасьлед.

З гэтага відаць, што няпісьменных вельмі мала, а большая частка дасьледчыкаў скончылі пачатковую школу, куды ўвайшлі скончыўшыя 4-5 клясаў сярэдняе школы.

У адносінах умоў досьледу, важна таксама, хто вядзе досьлед. Калі прагледзець сялян-дасьледчыкаў з гэтага боку, дык мы бачым, што найбольш усяго вядуць досьледы самі гаспадары. З 95 дасьледчыкаў—два зьяўляюцца братамі гаспадароў, тры—сынамі і адна жонка гаспадара. Тут мы бачым, што сялянка бярэцца за дасьледчую працу. У гэтым напрамку Інстытуту сялян-дасьледчыкаў прыдзецца яшчэ працаваць для ўцягненьня гаспадыні ў дасьледчую працу, што зьяўляецца неабходнаю ўмоваю сталае дасьледчае працы ў сельскай гаспадарцы.

Па стажу сяляне-дасьледчыкі большаю часткаю яшчэ маладыя, галоўным чынам з 1927 г. Але ёсьць і даволі старыя.

| Год пачатку дасьл. працы | Лік дасьл. | Год пачатку дасьл. працы | Лік дасьл. |
|---|---|---|---|
| 1927. . . . | 44 | 1921 . . . | 1 |
| 1926. . . . | 21 | 1920 . . . | 3 |
| 1925. . . . | 6 | 1913 . . . | 2 |
| 1924. . . . | 4 | 1904 . . . | 1 |
| 1923. . . . | 1 | 1900 . . . | 1 |
| 1922. . . . | 1 | | |

Аднак усе гэтыя даныя, напэўна зьменяцца пры поўнай распрацоўцы, калі анкеты будуць атрыманы ад усіх сялян-даследчыкаў.

**Чуйко.**

# Сельска-гаспадарчая кніжка на дапамогу вёсцы.

Сельска-гаспадарчая кніга зьяўляецца аднэй з форм аградапамогі. Разам з кніжкаю с.-г. часопісь і газэта для селяніна становяцца школай і падручнікам у яго штодзённай працы. Значыць, добрая сельска-гаспадарчая кніга у нас мае самую шырокую сялянскую аўдыторыю. Праўда, сялянства пакуль што малаактыўны чытач, але разгортваньне савецкай уладай розных мерапрыемств па перабудове сельскай гаспадаркі і пашырэньні аградапамогі наогул значна павялічвае самадзейнасьць сялянства і попыт на сельска-гаспадарчую сялянскую кнігу.

Адкажам толькі на адно пытаньне, як здавальняецца сялянскі попыт на гэту кнігу і тут-жа скажам некалькі слоў, што разумеецца пад „сялянскай с.-г. кніжкай“.

Сялянская с.-г. кніжка апрача іншых асаблівасьцяй, якія вымагаюцца ад сялянскае кніжкі, патрабуе яшчэ пэўнага ўлічваньня раённасьці, г. з. тэма кніжкі павінна дакладна адбіваць невялікі с.-г. раён з боку яго прыроды, эканомікі, кірунка разьвіцьця сельскай гаспадаркі, узроўня с.-г. культуры наогул і г. д. Выяўленьне гэтата прынцыпу зьяўляецца вельмі шырокім вымаганьнем, чаму для стварэньня сялянскай с.-г. кніжкі павінны быць прыцягнуты самыя выдатныя працаўнікі с.-г. навукі і практыкі, раённыя с.-г. дасьледчыя станцыі аграномы-бытазнаўцы, сяляне-дасьледчыкі, гаспадары-практыкі.

Пры такім поглядзе на сялянскую с.-г. кніжку трэба сказаць, што да рэвалюцыі нават расійская аграномія пэўную сялянскую кніжку мела ў вельмі абмяжованым ліку тэм. Большасьць с.-г. популярнай літаратуры пісалася „для сялян“, інакш для ўсіх раёнаў Расіі. Гэта-ж расійская кніжка „для сялян“ пападала і ў гарады Беларусі, далей якіх яна не ішла. Лічаныя назвы былі выданы перад самай вайною на Беларусі земствам.

У нас стварэньне сялянскай с.-г. кніжкі пачынаецца толькі пры Савецкай ўладзе, калі стала пачала разгортвацца аградапамога насельніцтву. І гэта зусім зразумела. Усе мерапрыемствы дзяржавы, якія праводзяцца для перабудовы сельскай гаспадаркі, патрабуюць самай шырокай популярызацыі сярод сялян, а далей і ацэнкі практычных вынікаў, як рэзультата гэтых марапрыемств.

Зусім зразумела, што практычнае стварэньне і пашырэньне с.-г. літаратуры сярод сялян спачатку бярэ на сябе Наркамзем, як камісарыят, які непасрэдна зьвязан з с.-г. вытворчасьцю. У два першыя гады больш-менш нармальнай працы савецкай улады на Беларусі (1921-22 г.) выдаюцца галоуным чынам лістоўкі на тэмы розных с.-г. кампаній (пашырэньне пасеўнай плошчы, пасева лубіну, траў, злучная кампанія і г. д.). У далейшы час і да гэтага часу справаю выданьня с.-г. літаратуры заняты Беларускае дзяржаўнае Выдавецтва — „Сялянская с.-г. бібліатэчка“ і Наркамзем—масавая с.-г. літаратура ў сувязі з рознымі мерапрыемствамі Наркамзему і часткаю краязнаўча-агранамічная літаратура.

Дзяржаўнае Выдавецтва штогодна выпускае каля 20 друк. аркушаў „сялянскай с.-г. літэратуры“, што дае 10—15 брашур з тыражом 5—10 тыс. кожная.

Параўнаўча з гэтым с.-г. выдавецкая праца Наркамзему мае некалькі большы аб‘ём. Так, аб‘ём і тыраж выданьняў НКЗ, калі тут улічваць с.-г. часопісь „Плуг“, можна паказаць так:

| Гады | Выдана (лік арк.) | Тыраж |
|---|---|---|
| 1921 . . . | 1 | 18.000 |
| 1922 . . . | 27 ½ | 15.300 |
| 1923 . . . | 31 ¼ | 12.600 |
| 1924 . . . | 31 ½ | 10.000 |
| 1925 . . . | 79 ½ | 79.200 |
| 1926 . . . | 89 ½ | 97.750 |
| 1927 (9 м-цаў) . | 113 ½ | 57.500 |
| Усяго . | 373 ¾ | 250.350 |

Сюды не ўваходзяць выданьні Кіраўмэліозема і некаторыя выданьні Ляснога Кіраўніцтва.

З агульнага ліку тыража на с.-г. літаратуру прыпадае 84.210 экз. і на часопісь „Плуг“ (за 2 г. 9 м-цаў) 166.140 экз.

**Пашырэньне с.-г. літаратуры**. У першыя гады с.-г. літаратура пашыралася выключна дарма і ў падарку разьмеркаваньня паміж зямельным органамі і агранамічнымі працаўнікамі раёнаў. Прынцып платнасьці пачаў уводзіцца з 1925-26 г. Для ілюстрацыі гэтага пакажу лічбы пашыраньня с.-г. літаратуры за апошнюю палову мінулага 1926-27 г.

Пашырана с.-г. літаратуры за 6 м-цаў (I.IV—I.X) 1927 г.

| Чые выданьні | Платна | Дарма | Усяго |
|---|---|---|---|
| Выданьні НКЗ . | 18.087 | 1.347 | 19.434 |
| Чужыя . . | 3.110 | 252 | 3.362 |
| Разам . . | 21.197 | 1.599 | 22.796 |

Усяго-ж за 1927-27 г. пашырана платна с.-г. літаратуры (апрача „Плуга“) на суму 3091 р. 32 к. Часопісі „Плуг“ за 1925—1927 г. (I-X) пашырана 156.559 экз., а па падпісцы толькі за 21 м-ц двух год (1926-27 г.) пашырана 85.289 экз.

Налічча застаўшейся с.-г. літаратуры на складзе з 250 тыс. тыража на 1-е кастрычніка 1927 г. складае даволі абмяжаваны лік:

| Выданьняў НКЗ | Чужых выданьняў | „Плуг“ за 1925-27 г. |
|---|---|---|
| 15.239 | 2.768 | 9.587 экз. |

Як бачым,застаўшаяся літаратура на складзе не правышае па ліку экз. і поўгадовай прадажы. Ня менш пашыраецца сялянскай с.-г. літаратуры і Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам з „Сялянскай бібліотэчкі“.

Гэта вельлі выразна сьведчыць, што і ў нас ёсьць даволі шырокі рынак на с.-г. раённую літаратуру. Можна сказаць большае: мы яшчэ далёка не здавальняем яго сваімі выданьнямі, бо яны яшчэ даволі абмяжованы па ліку тэм нават для беларускага с.-г. раёну. Па шмат якіх пытаньнях сельскай гаспадаркі ў нас (у выд. БДВ і НКЗ) няма популярнай літаратуры, напрыклад, няма ніводнай кніжкі пра лён, вырашэньне кармовага пытаньня, здабываньне торфу і г. д. А гэта для нас сур'ёзныя пытаньні.

Вось чаму Наркамзему прыходзіцца часткаю пашыраць і чужыя выданьні, а таксама мы назіраем, як даволі шырока пашырае ў БССР расійскую с.-г. кніжку т-ва „Книга деревне“.

Усё гэта гаворыць аб тым, што і далей нам патрэбна шырэй разгортваць працу па выданьню популярнай с.-г. літаратуры, зьвяртаючы самую пільную увагу на тое, каб гэта літаратура, як найлепш адпавядала умовам і кірунку разьвіцьця нашай сельскай гаспадаркі і была-б зьвязана з усёй сыстэмай мерапрыемств дзяржавы, якія праводзяцца ў галіне сельскай гаспадаркі.

Залежваньне папулярнай с.-г. кніжні пакуль што не наглядаецца; наадварот ёсьць недахоп. Адсюль зразумела, што зусім мэтазгодным павінна быць і павялічэньне асыгнаваньняў на выданьне с.-г. літаратуры, як на самы карысны від аградапамогі. Між тым, асыгнаваньні па Наркамзему на гэту справу вельмі і вельмі абмяжованы.*).

Больш здавальняючыя асыгнаваньні на працягу бліжэйшых двух-трох год дапамаглі-б наладзіць амаль поўнае здавальненьне новай савецкай вёскі мясцовай с.-г. літаратурай.

**С. Тупяневіч.**

---

# Мае дасягненьні за 1923-27 г.

У 1923 г. я атрымаў пасёлкавы вучастак на шмат каму вядомай Лысай Гары (Меншчына). Вучастак гэты ўвесь зарос палыном, кустамі і мохам. Распрацаваць яго пад ворыва было вельмі цяжка, а карысьць у першы год была малая. Першы ўраджай з 1¼ дзес. даў 32 п. ня вельмі добрага зярна. Суседзі сьмяяліся з мяне і казалі, што „прыдзецца гаспадару памерці з голаду“, але ўсё гэта надавала мне яшчэ больш ахвоты працаваць над гаспадаркаю.



Селянін-дасьледчык П. Трапашка.

Веды мае па сельскай гаспадарцы ў той час былі ня вельмі шырокія, а навучыцца мне ня было ў каго. Вось я і пачаў чытаць розныя сел.-гасп. часопісі і ў іх знайшоў шлях да правільнай пастаноўкі сваёй гаспадаркі.

Вясною 1924 г. я разьбіў сваё поле на 5 палёў. Пасеяў караньплоды—турнэпс і буракі. Турнэпсу ў той час яшчэ ня было па вёсках, ня было і на сел.-гасп. выстаўцы ў дзень „Сьвята Ураджаю“.

Пяціпольле ў мяне пратрымалася толькі 2 гады і я зьмяніў яго на 9-ціпольле.

---

*) Асыгнаваньні на выдавецкую працу разам з жур. „Плуг“ па каштарысу Наркамзема: 1923-24 г.—3085 руб. 80 к., 1924-25 г.—10.000 руб., 1925-26 год—7.510 руб., 1926-27 г.—7.250 р., 1927-28 г.—5.000 р.

Цяпер параўнаю ўраджай 1923 г. і 1927 г.:

Ураджай 1923 г.

Жыта з 1$^{1}/_{4}$ дзес.=10 коп—32 пуд.
Аўса $^{1}/_{4}$ „ —40 „
Пшаніцы $^{1}/_{4}$ „ — 7 „
Бульбы з 1 дзес. . 600 пуд.
Сена з 2 „ . 95-100 пуд.

Ураджай 1927 г.

Жыта 20 коп 40 сн.—95 п.
Аўса 15 „ —92 п. 10 ф.
Ячмень 3 „ —13 п.
Бульбы 1 дзес. 1200—1300 п.
Гарох, выка, пшаніца немалоч.
Канюшына . . . . . 170 п.
Сена з 2 дзес. . . . . 140 п.

Павялічэньне колькасьці сена залежыць ад палепшаньня сенажаці шляхам баранаваньня, ужываньня попелу і мінэральных угнаеньняў, а таксама дзякуючы зьнішчэньню куп'я і кустоў.

Пачынаючы з 1924 г. я правёў такія досьледы:

а) Уплыў попелу і мінэральных угнаеньняў на канюшыну:

1. Без угнаеньня . . . . . 200 пуд.
2. З падсевам попелу 4 п. на кв. саж. . 280 „
3. „ супэрфосфату 56 клгр. на 150 к. с. 336 пуд.

б) Пасеў жыта на розных угнаеньнях (на падзоле):

Зярна з дзес.

1. Па канюшынішчы без угнаеньня . . 56 пуд.
2. „ „ + тамасаўка 3 п. на 100 к. с. 100 „
3. „ „ + гной 1200 п. на дзес. . 118 „
4. „ лубіну . . . . . . 96 „

в) Падсеў лубіну ў жыта.

Пасьля прыборкі жыта лубін пачаў шпарка расьці. 16-га жніўня я падлічыў зялёную масу на 2-х кв. саж. У сярэднім кожны сажань даў 10 фун., што ў пераводзе на дзес. дае 600 пуд. Гэты лубін я думаю скарыстаць, як зялёнае ўгнаеньне пад бульбу ў наступным годзе.

г) Досьлед з некаторымі сартамі жыта і пшаніцы.

Гэтыя сарты я атрымаў ад рэдакцыі часопісі „Плуг". 20-га верасьня я пасеяў іх на вучастку з-пад бульбы і атрымаў такія вынікі:

| Назва расьлін | Плошча засеву | Пасеяна | Ураджай | |
|---|---|---|---|---|
| | | | з дзелянкі | з дзес. |
| Маскоўск. сел.-гасп. Акадэміі № 93 . . . . | 6,5 кв. с. | 1 фун. | 3 кгр. 200 гр. | 96 пуд. |
| Alborubrum . . . . . | 6,5 „ | 1 „ | 4 „ 200 „ | 126 „ |
| Gracum . . . . . | 3 „ | 0,5 „ | 1 „ 300 „ | 80 „ |
| В. Літоўская . . . . | 3 „ | 0,5 „ | 1 „ 780 „ | 88 „ |
| Жыта альпійскае . . . | 6 „ | 1 „ | 4 „ 55 „ | 113 „ 3 ф. |
| Жыта нямытлінскае . . | 6 „ | 1 „ | 3 „ 700 „ | 92$^{1}/_{2}$ „ |

У гэтым годзе, як пшаніцу, так і жыта я зноў пасеяў на асобных дзялянках. Мае суседзі—сяляне вельмі зацікавіліся гэтымі досьледамі і прасілі, каб у будучым годзе я даў ім патроху насеньня.

Вельмі дзякую рэдакцыю часопісі „Плуг" за насеньне і за клопаты аб нас—сялянах.

Сел. **П. Трапашка**.




# Аб дасягненьнях у жывёлагадоўлі БССР за 1917—27 г.

Значэньне жывёлаводзтва БССР можна характэрызаваць валавым даходам яго за 1911—1926 г. г. у параўнаньні з другімі галінамі сельскай гаспадаркі, а таксама мажлівымі яго пэрспэктывамі хаця-б у 1930 г.

На адну душу сельскага насельніцтва даход ад жывёлагадоўлі (у даваенных руб.) вылічваўся так:

| | |
|---|---|
| 1911-13 г. | 30 р. 50 к. |
| 1924-25 „ | 32 „ 50 „ |
| 1929-30 „ | 41 „ 84 „ |

На 1 дзес. сельска-гаспадарчай плошчы гэты валавы даход складаў:

| | |
|---|---|
| 1911-13 г. | 49,1 р. |
| 1924-25 „ | 47,3 „ |
| 1929-30 „ | 53,5 „ |

Такім чынам, у бліжэйшым будучым жывёлаводзтва па свайму валавому даходу і процанту рыначных лішкаў абгоніць палявую гаспадарку. У 1924-25 г. жывёлаводзтва ўжо перавышала валавы даход паляводзтва на 7 мільёнаў руб., а рыначнасьць на 4 проц. А гэта мае яшчэ большае значэньне, калі адзначыць, што ўсе зоотэхнічныя мерапрыемставы Наркамзема БССР пачалі праводзіцца толькі з 1923 г. Да вйны-ж лік зоотэхнічных працаўнікоў быў вельмі абмяжован. Апрача таго, у той час нічога не рабілася для сялянскай жывёлагадоўлі.

Толькі плянавая праца Наркамзема пры Савецкай уладзе дала выразны кірунак рацыяналізацыі жывёлагадоўлі БССР, што ўжо зараз дае пэўныя вынікі.

Прыводжу колькасны рост жывёлагадоўлі па лічбах ЦСУ.

На 100 гаспадарак прыходзілася галоў жывёлы:

| | 1923-24 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|
| Коняй | 119,3 | 131,5 | 132,8 |
| Кароў | 234,3 | 271,3 | 264,5 |
| Сьвіней | 205,7 | 260,7 | 263,2 |

Тое-ж самае на 100 дзес. пахаці:

| | 1923-24 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|
| Коняй | 18,8 | 19,7 | 19,6 |
| Кароў | 27,7 | 31,1 | 31,4 |
| Сьвіней | 25,7 | 31,2 | 31,3 |

Асаблівым пастаянствам выдзяляецца рост кароў, з прычыны растучай зацікаўленасьці насельніцтва ў малочнай гаспадарцы, разьвіцьцём малочнай коопэрацыі і арганізацыяй кормаздабываньня.

Адмоўным бокам у малочным кірунку жывёлагадоўлі трэба лічыць скарачэньне ліку быкоў, але пры наліччы коопэрацыйнай арганізаванасьці і належных мерапрыемстваў Наркамзема гэты недахоп зараз ужо траціць сваю гастрату.

Дзеля якаснага палепшаньня мясцовай малочнай скаціны зараз разгортваецца гняздовая праца над ёю праз кантрольныя таварыствы, саюзы жывёлаводаў, злучныя пункты і г. д. Пакуль што такая даволі паглыблёная праца вядзецца над чырвонай беларускай скацінай у Самахвалаўскім раёне. Тут уся праца грунтуецца на самадзейнасьці сялян, якія аб'ядналіся ў *Саюз жывёлаводаў чырвонай беларускай скаціны,* і 2 кантрольных т-ваў. Тут-жа працуе 40 злучпунктаў.



Бык чырвонай беларускай пароды сел. Б. Валодзькі (Самахв. р.) Вага 27 п. у 1 г. 5 м.

У Віцебшчыне і Магілеўшчыне прыняты той-жа самы мэтад працы, дзе таксама вядзецца праца над мясцоваю кароваю.

Для правільнай пастаноўкі і нормальнага разьвіцьця малочнай гаспадаркі, прымаюцца ўсе меры і для больш шырокага разьвіцьця малочнай коопэрацыі з мэтаю пашырэньня масла-сыравытворчых заводаў. Мы ўпэўнены, што высока-малочная карова—лепшая забясьпека бядняцкай гаспадаркі.

З усіх мерапрыемстваў, якія праводзіць Наркамзем для разьвіцьця жывёлагадоўлі назаву толькі некаторыя.

*Паказальнае кармленьне кароў* знаёміць сялян з прыёмамі культурнага кармленьня і ўтрыманьня кароў і спосабамі зьніжэньня сабекошту малака. З 1923 г. па 1927 г. было праведзена паказальнае кармленьне па ўсіх раёнах БССР з лікам кароў да 2.000.

*Правільная гадоўля цялят* таксама праводзіцца ўвесь час. У 1926 г. была праведзена прыкладная гадоўля 37 цялят, у 1926-27 г.—75.

Далей цэлы шэраг мерапрыемстваў Наркамзема і праведзеную працу ў галіне малочнай жывёлагадоўлі паказваю ў табліцы:

| Што зроблена | Колькасьць | За які час |
|---|---|---|
| 1. Ухвалена лепшых быкоў . . | 1.671 | 1924-25 г. |
| 2. Організована злучпунктаў . . | 1.483 | " |
| 3. Пакрыта матак . . . . | 66.799 | " |
| 4. Перабудована хлявоў . . . | 1.309 | " |
| 5. Організована кантрольных т-ваў . | 20 | 1925-26 г. |
| 6. Куплена кантрольных прыбораў . | 55 | " |
| 7. Організавана малочных арцеляй . | 177 | 1924-26 г. |

*Канявод ств а.* Для палепшаньня сялянскіх коняй праводзіцца цэлы шэрах мерапрыемстваў, як організацыя злучпунктаў, адабрэньне жарабкоў, гадоўля жарабкоў і матак на конзаводзе і г. д.

Апрача працы на конзаводзе, Наркамзем разам з с.-г. коопэрацыяй організаваў закупку жарабкоў у СССР. У 1926 г. было куплена 15 жарабкоў рысістай пароды. Конны завод рэорганізован і пераведзен у лепшы саўхоз „Прудок" Гомельскай акр. Лік жарабкоў і матак на заводзе даведзен да 167 галоў. Таксама павялічан лік злучных жарабкоў у саўхозах. У 1925 г. іх было 53, у 1926—82.

Для работы племяных жарабкоў у злучную кампанію ў канаводных раёнах у саўхозе Самуэлева (Меншчына) адчынена дзяржаўная завадзкая канюшня, дзе зараз знаходзіцца 34 жарабкі. Да канца 1927 г. будзе закуплена яшчэ 3 рысістых жарабкі і 3 цяжкавозы.

Для больш шырокага выкарыстаньня чыстакроўных жарабкоў адчынена 6 станцый штучнага запладненьня (3 у Гомельскай акр. і па аднэй у Мазырскай, Менскай і Магілеўскай).

У 1926 г. было праведзена абсьледаваньне конягадоўлі ў некаторых раёнах Слуцкай, Аршанскай і Магілеўскай акр., а ў 1927 г.—у Менскай і Мазырскай.

Для дапамогі безлашадным сялянскім гаспадаркам у 1926 г. адчынены крэдыты на суму 1.804.600 руб.

Усе гэтыя мерапрыемствы Наркамзема закладваюць грунт для шпаркага разьвіцьця конягадоўлі ў БССР.

*Сьвінаводзтва.* Дзеля дасягненьня найвышэйшай таварнасьці сьвінаводзтва, ў першую чаргу намечана шырокае пашырэньне племяных сьвіней для паляпшэньня мясцовай сьвіньні. Гэта праводзіцца праз цэлы шэраг зьвязаных паміж сабою мерапрыемстваў, як організацыя сьвінзаводаў, вырашчываньне племянога матэрыяла на злучпунктах і організацыя сьвіных расаднікаў і г. д.

У 1925-26 г. налічвалася 2 племяных сьвіных заводы, 82 расаднікі і 192 злучпункты. У 1927 г. адкрыты адзін сьвінзавод, 20 расаднікаў і 100 злучпунктаў. У 1927-30 г. будзе адчынена яшчэ 4 сьвінзаводы па акругох БССР. Уся праца ў кірунку якаснага палепшань-

ня сьвіней праводзіцца гнездавым мэтадам, каб мець мажлівасьць вызначаны раён насыціць поўнасьцю племяным матэрыялам. Зараз такая праца праводзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы Беларусі.

Апрача паказаных мерапрыемстваў з 1925 году праводзіцца зоотэхнічная праца, як паказальны адкорм сьвіней на мяса, конкурсы, выстаўкі і г. д.



Мешанцы першага пакаленьня адкормленыя на бэкон.

Такім чынам, Наркамзем праводзіць увесь час працу, якая-б стварыла нам хутчэй прамысловую сьвінагадоўлю як для ўзмацненьня спажываньня сьвініны насельніцтвам, так і для вывазу заграніцу.

Для правядзеньня ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў у галіне жывёлагадоўлі штогодна павялічваецца і сетка зоотэхнічнага пэрсонала. Так, у 1924 г. было 5 працаўнікоў у 1925—16, у 1926—50, 1927—59.

Правядзеньне ўсіх мерапрыемстваў па жывёлагадоўлі ў жыцьцё мажліва было толькі дзякуючы дзяржаўным асыгнаваньням, якія штогодна павялічваліся так: 1924-25 г.—25.000 руб., 1925-26 г.—122.000 руб., 1926-27 г.—110.683 руб.

П. Ластоўскі.

---

# Савецкая вэтэрынарыя на Беларусі.

У дзесятую гадавіну Кастрычніка, неабходна адзначыць каротка становішча вэтэрынарнай справы да рэвалюцыі і прагледзець разьвіцьцё яе на працягу апошніх 4-5 гадоў.

Пачатак разьвіцьця вэтэрынарыі на Беларусі ў дарэвалюцыйны час трэба аднесьці да 1911 году, калі пасьля скасаванага *Кіраўніцтва па справах земскай гаспадаркі* ўзьніклі ў Беларускіх губэрнях земскія ўстановы

Дзеля характэрыстыкі становішча вэтэрынарнай справы ў 1911 г. прывядзем вынікі з справаздачы быўшай Менскай губэрскай земскай управы.

„На аднаго вэтўрача прыходзілася ад 2.000 да 8.000 кв. вёрст плошчы вучастка і да 150.000 галоў хатняе жывёлы; далёкія селішчы знаходзіліся на адлегласьці 50-150 вёрст ад вэтэрынарных пунктаў".

У сярэднім на кожнага вэтўрача прыпадала звыш 4.000 кв. вёрст плошчы вучастка.

Па агульнай суме асыгнаваньняў Земстваў на вэтэрынарную частку ў 1913 г. Беларускія губэрні займалі апошнія месцы ў разраду 40 іншых земскіх губэрняў, а іменна: Магілеўская губэрня займала 31-е месца (асыгнаваньні па губэрні выражаліся ў суме 97.865 рублёў), Менская губ.—35 месца (асыгнаваньня—82.063 руб.) і Віцебская губэрня—38 месца (64.556 рублёў).

Выдаткі на вэтэрынарыю ў капейках на адзінку скаціны выражаліся так: па Магілеўскай губ.—8,16, па Віцебскай—7,31 і Менскай 5,17. Цікава адзначыць, што б. Менская губэрня па выдатках на адзінку скаціны займала самае апошняе месца ў шэрагу іншых земскіх губэрняў, а іменна 30-е.

Калі да асыгнаваньняў земстваў далучыць выдаткі на вэтэрынарыю з сум гарадзкіх устаноў і з сум працэнтнага збору, то ў сярэднім на адзінку скаціны выдаткавалася 8,7 капеек.

У пасьлярэвалюцыйны пэрыяд поўнае фінансаваньне вэтэрынарнай справы па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэтам пачалося толькі з 24-25 году. З прычыны беднасьці вэтбюджэту ў 1923-24 г. за аказаньне вэтлекавай дапамогі і за вэтсанітарную работу бралася аплата па ўстаноўленай таксе.

Платнасьць за вэтдапамогу, а таксама плата за мэдыкамэнты не маглі спрыяць разьвіцьцю вэтэрынарнай дапамогі наогул і вэтлекавай асабліва.

Цьвёрдая фінансавая база, падведзеная пад вэдмэрапрыемствы ў 1924-25 г., з кожным годам усё больш і больш узмацняецца.

| | | |
|---|---|---|
| У 1924-25 | годзе на адзінку скаціны асыгноўваецца | — 7,6 к. |
| „ 1925-26 | „ „ „ „ „ | —17,5 „ |
| „ 1926-26 | „ „ „ „ „ | —20,6 „ |

Сума асыгнаваньняў ў 1926-27 г. выражаецца ў 740.495 руб.

Побач з узмацненьнем вэтбюджэта, расьце і колькасьць вэтўрачэбных вучасткаў:

| | | |
|---|---|---|
| У 1912 годзе было ўсяго . . . | 39 | вуч. |
| „ 1922-23 „ „ „ . . . | 44 | „ |
| „ 1924-25 „ „ „ . . . | 67 | „ |
| „ 1925-26 „ „ „ . . . | 92 | „ |
| „ 1926-27 „ „ „ . . . | 100 | „ |
| Разам з Гомельшчынай . . . | 113 | „ |

Неабходна адзначыць, што штаты вэтўрачэбных вучасткаў за адсутнасьцю вэтўрачоў запоўнены прыблізна на 50 проц.

На кожны вэтўрачэбны вучастак прыходзіцца ў сярэднім плошча ў 1.100 кв. кілёмэтраў (радыус вучастка раўняецца 18,8 кіл.) і прыходзіцца 26.000 адзінак скаціны.

Дзеля таго, каб ясьней прадставіць аб'ём выпаўненай работы ў галіне аказаньня вэтлекавай дапамогі, культ-асьветнай працы і працы на шчапеньню, неабходна паказаць лічбы за некалькі год.

Лекавая дапамога коням і буйнай раг. жывёле.

| ГАДЫ | Прынята хворых па першаму разу | % аказаньня лекавай дапамогі ў параўнаньні да агульнай колькасьці коняй і буйнай рагатай скаціны |
|---|---|---|
| 1912 г. . . . . . | 111.764 | 3,5 |
| 1923-24 г. . . . . . | 92.379 | 3,9 |
| 1924-25 „ . . . . | 180.774 | 6,6 |
| 1925-26 „ . . . . | 277.125 | 10,1 |

Праведзена лекцый і гутарак:

| ГАДЫ | Праведзена лекцый і гутарак | Колькасьць слухачоў |
|---|---|---|
| 1912 г. . . . . . | ня было | ня было |
| 1923-24 г. . . . . | 1.870 | 74.679 |
| 1924-25 „ . . . . | 2.859 | 123.946 |
| 1925-26 „ . . . . | 3.202 | 130.951 |

Зроблена прышчэпак:

| ГАДЫ | Сібірская язва коням і буйнай раг. жывёле | % прышчэп. да агульнай колькасьці кон. і буйн. раг. скац. | Чума, краснуха і сэптыц. сьвін. | % прышчэп. да агульнай колькасьці сьвіней | Вытворч. вакцын і сываратак Бел. Вэт. Бакт. Інст. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1912 г. . . . . . | 17.521 | 0,54 | 7.113 | 0,5 | ня была |
| 1923-24 г. . . . | 17.383 | 0,74 | 20.823 | 1,53 | 341,9 (у літрах) |
| 1924-25 г. . . . | 22.678 | 0,82 | 40.398 | 2,29 | 929,4 |
| 1925-26 г. . . . | 29.302 | 1,07 | 56.506 | 3,12 | 1.088,7 |

Прыведзеныя лічбы паказваюць, што Савецкая вэтэрынарыя на Беларусі ўжо пераступіла даваенны ўзровень ва ўсіх галінах вэтсправы.

С. Серпаў.




# Дзесяцігодзьдзе Кастрычніка—сьвята садоўніцтва.

Пашырэньне садоўніцтва—ёсьць адзнака ўздыму культурнасьці краіны і яе насельніцтва.

Ніхто ня будзе спрачацца аб прыбытковасьці карысных галін для народнай гаспадаркі; але садоўніцтва мае вялікае значэньне для выхаваньня моладзі. Хто змалку зрадніўся з садам, даглядаў за ім, той ніколі не забудзецца яго хараства. І калі сялянства з Беларусі альбо з Украіны выязжае шукаць шчасьця ў Сібір на Далёкім Усходзе, дык яно ніколі не забываецца садоўніцтва. Праўда, клімат гэтых краін вельмі сьцюдзёны для нашых сартоў, але каляністы не супакойваюцца і шукаюць магчымасьці абзавесьціся садком з сібіркі, кітайкі, якіх-небудзь ягадных раслін і г. д.

Кастрычнік даў сялянам зямлю, лепшыя спосабы земляўпарадкаваньня, моцную аградапамогу, моцную коопэрацыйную сетку і ўпэўненасьць у магчымасьці будаваць рабоча-сялянскую дзяржаву.

З першых гадоў пасьля рэвалюцыі пачалася надзвычайная цяга да закладаньня новых садоў сялянствам. З пашырэньнем земляўпарадкаваньня гэта цяга дасягае вялічэзных разьмераў. У сучасны момант насельніцтва БССР патрабуе больш 1 мільёну прышэч. У дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай Рэвалюцыі мы маем больш 200 гэктараў пладовых гадавальнікау па акругах. Значны процант гадавальнікаў зьяўляецца маемасьцю Наркамзему і Белсельтрэсту. Большасьць іх павінна організавацца па тыпу вялізных Садовых Устаноў, дзе маюцца ўзорныя гандлёвыя сады, гародніцтва, гароднае насеньняводзтва, дэкарацыйныя расьліны, пасекі, музэі для правядзеньня курсаў. Заўважым, што па сваёй організацыі лепшым пладовым гадавальнікам і садовай гаспадаркай БССР зьяўляецца савецкая гаспадарка „Лютня“ каля Мсьціслаўля (Аршанская акруга).

Наша пажаданьне, каб і іншыя садовыя гаспадаркі будаваліся па такому-ж прынцыпу, як „Лютня“.

Садовыя установы, як „Лютня“—лепшы падарунак Савецкай улады сялянству.

Другой падставай для пэўнага ўздыму садоўніцтва зьяўляюцца дасьледчыя садова-гародныя станцыі. Мы маем 6 год існаваньня Горацкай Садовай станцыі, 6 год аддзелу гародніцтва Віцебскай дасьледчай станцыі і 2 гады аддзелу пладоўніцтва і гародніцтва пры Белар. філіалу Інстытуту Прыкл. Батанікі (у Менску).

Беларускі Навукова-Дасьл. Інстытут імя Ў. І. Леніна шырока падыходзіць да справы організацыі дасьледчага садоўніцтва. Апрача на-

званых станцый маецца на увазе адчыніць станцыі ў Менску і у Гомельшчыне.

Адзначым, што ў верасьні г. г., калі нам давялося абсьледваць садоўніцтва Гомельшчыны, працаўнікі Акрза акруговага т-ва садаводаў шчыра віталі ідэю арганізацыі культурнага цэнтру ў іх краю.

Пажадаем нашым дасьледчым установам будавацца на моцным навуковым грунце, мець сталы лік вучоных працаўнікоў, добрае абсталяваньне і здавальняючыя умовы для вытворчай працы.

Трэцяй падставай для шпаркага ўздыму садоўніцтва—зьяўляецца вучэбная справа. Мы маем 6-ці гадовае існаваньне катэдры садоўніцтва. ў Горках, Марына-Горскі тэхнікум садоўніцтва. Гэтыя прадметы уваходзяць у праграму с.-г. тэхнікумаў, школ сялянскай моладзі, пэдтэхнікумаў і г. д. Мы маем штогод шматлікія курсы для насельніцтва.



Праф. М. І. Бурштэйн. Горкі, с.-г. Акадэмія.

Са здавальненьнем мы павінны пералічыць шэраг маладых выдатных садоводаў-гадаванцаў б. Горацката Інстытуту і Белар. Дзярж. с.-г. Акадэмі. (т. т. Гуржы, Карлсон, Цімашкоў—навуков. працаўнікі Акадэміі, т. Калер у Мсьціслаўшчыне, Коканоў і Лубоўскі ў Віцебшчыне, Сьцяпанаў і Цэхнавічар у Марына-Горскім тэхнікуму, Пагарэлаў у Гомельшчыне, Кудравіцкі ў Смаленшчыне, Старавойтава ў дасьлд. гадавальніку Мічурына і г. д.). Калі адзначыць, што да рэвалюцыі наогул ня было аграномаў-садаводаў з вышэйшай адукацыяй, дык у сучасную пару шэраг маладых вучоных арганізатараў стаяць на варце надзвычайнага ўздыму сялянскага працоўнага садоўніцтва.

Адным з найцікавейшых зьявішч нашай эпохі зьяўляецца арганізацыя Інстытуту сялян-дасьледчыкаў пры Беларускім Інстытуце імя У. І. Леніна.

За апошпія гады на нашых абшарах вызначаліся самабытныя сялянскія базы, дзе шмат дзесяткаў гадоў вядуцца каштоўныя досьледы адносна шэрагу галін сельскай гаспадаркі.

Апрача таго, нараджаюцца маладыя піанэры сялян-дасьледчыкаў, якія цягнуць за сабой ваколічнае насельніцтва да лепшай тэхнікі, лепшага колектыўнага жыцьця, лепшага быту.

Праз часопісь „Плуг“ мы знаёмімся з іх дасягненьнямі, імкненьнямі і грамадзкімі думкамі. Праз „Плуг“ наогул уся сельска-гаспарчая БССР нам робіцца бліжэй, больш зразумелай у сваіх бязупынных шуканьнях вышэйшых форм гаспадараньня.

Дык няхай жыве вялікае сьвята Кастрычніка ў садоўніцтве.

Няхай далей з посьпехам глыбока ўзорвае родныя нівы „Плуг“ пад талентным кіраўніцтвам яго правадыроў у напрамку злучэньня ўсей агранамічна-сялянскай думкі БССР.

Праф. **М. Бурштэйн.**

---

# Садоўніцтва Беларусі і яго першачарговыя практычныя задачы.

Беларусь мае ўсе ўмовы для пасьпяховага разьвіцьця садоўніцтва. Налічча значных плошчаў лёгкіх суглінкавых глеб, мяккі клімат, значна разьвітая сетка чыгуначных і асабліва вадзяных шляхоў, значны лішак працоўнае сілы ў вёсцы і інш.—усё гэтае вельмі спрыяе разьвіцьцю садоўніцтва, як прамысловае галіны сельскай гаспадаркі.

Асаблівы посьпех ва ўмовах Беларусі мае пладоўніцтва; яно зьяўляецца самай высокай таварнай галінай сельскай гаспадаркі. Агульная плошча садоў на абшарах Беларусі дасягае ў сучасны момант да 28 тыс. гэкт., з якіх 17 тыс. гэкт. знаходзяцца на землях сялянскіх гаспадарак і 11 т. гэкт. на землях саўхозаў, колхозаў, камун і садова-гародніх т-ваў. Валавая прадукцыя садоўніцтва ва ўраджайныя гады дасягае 10 мільёнаў пуд., а ў годы няпоўнага ўраджаю 6 мільён. пуд. Прадукцыя гэта ў апошнія гады разьмяркоўваецца так:

1) вывозіцца за межы Беларусі— 2,5 мільён. пуд.
2) збываецца на мясцовыя рынкі—2-2,5 „ „
3) рэшта да 5 (мільёнаў пудоў) спажываецца вясковым насельніцтвам вытворчых раёнаў.

За апошнія тры гады назіраецца асабліва шпаркае павялічэньне вывазу садовіны. У параўнаньні з 1911—1914 г. г. вываз садовіны павялічыўся амаль у 3 разы. Вывозіцца з Беларусі, галоўным чынам, антонаўка; яна знаходзіць сабе вялікі збыт у Ленінградзе і на рынках Украіны.

Буйнымі раёнамі прамысловага садоўніцтва Беларусі зьяўляецца Гомельскі, Бабруйскі, Менскі і Магілеўскі.

Пакуль што пашырэньне садовай плошчы ўстрымоўваецца адсутнасьцю пасадачнага матэрыялу, але гэта замінка хутка будзе ліквідавана. Наркамземам вызначаны шэраг мерапрыемстваў, якія павінны забясьпечыць далейшае разьвіцьцё данае галіны сельскай гаспадаркі.

*На адным з першых месц* пастаўлена пытаньне аб організацыі сеткі пладовых выхавальнікаў для забесьпячэньня пасадачным матэрыялам насельніцтва. Патрэбнасьць у пасадачным матэрыяле насельніцтва Беларусі для пасадкі новых і для падтрыманьня старых садоў дасягае ў сучасны момант штогодна да 600 штук. Між тым усе пладовыя выхавальнікі, якія займаліся масавай падрыхтоўкай пасадачнага матэрыялу ў мінулым, у час вайны спынілі сваю дзейнасьць. Наркамзему прышлося паставіць пытаньне аб заснаваньні новай сеткі выхавальнікаў.

Праца па організацыі гэтай сеткі выхавальнікаў распачата ў 1924-25 годзе.

Далей закладка выхавальнікаў па гадох ішла так:

| ГАДЫ | Лік выхав. | Плошча ў гэкт. |
|---|---|---|
| 1924-25 . . . . | 15 | 101 |
| 1925-26 . . . . | 21 | 104 |
| 1926-27 . . . . | 12 | 133 |
| Усяго. . | 48 | 338 гэкт. |

Такім чынам, у сучасны момант на Беларусі маецца 48 выхавальнікаў з агульнай плошчай у 338 гэкт., з якіх мяркуецца штогодна мець да 800 тысяч штук прышчэп. Першы выпуск прышчэп з выхавальнікаў, заснаваных у 1924-25 г., будзе восеньню 1928 г. Усяго ў першы год будзе выпушчана на продаж да 250 тыс. штук; увосень-жа 1929 г.—500 тыс. і ўвосень 1930 г.—800 тыс. шт. Значыць, бягучы 1927 г. зьяўляецца апошнім годам крызісу на пасадачны матэрыял. Прадукцыя садовых выхавальнікаў дасьць магчымасьць нам садзіць штогодна ня менш 2.000 гэкт. новых садоў, на што будзе ўваходзіць да 400.000 шт. прышчэп, а рэшта прышчэп будзе ісьці на рамонт старых садоў.

Па разьмеру плошчы заснаваныя выхавальнкі разьмяркоўваюцца так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) 3,5— 7 гэкт. | 23 | выхав. на плошчы | 93,16 гэкт. |
| 2) 7,5—10 „ | 19 | „ „ „ | 149,10 „ |
| 3) 10,5—24 „ | 6 | „ „ „ | 95,74 „ |

Выхавальнікі належаць:

| | Лік | Плошча |
|---|---|---|
| 1) Акрземаддзелам . . , . . | 6 | 76 гэкт. |
| 2) Белсельтрэсту . . . . . | 14 | 101 „ |
| 3) С.-г. камуне, колхозам і коопэрацыі . | 21 | 115 „ |
| 4) С.-г. школам . . . . . | 4 | 29,10 „ |
| 5) Іншым організацыям . . . . | 3 | 17,22 „ |

*Другім грунтоўным пытаньнем* у далейшым разьвіцьці садоўніцтва ў нас зьяўляецца організацыя пунктаў па тэхнічнай перапрацоўцы садовіны. Да гэтага часу пладоўніцтва Беларусі вялося выключна на збыт сьвежых пладоў.

Цяпер нам трэба шукаць шляхоў разьвіцьця садоўніцтва, якія-б зрабілі прадукты пладоўніцтва даступнымі ня толькі гарадзкому, але і вясковаму насельніцтву несадовых раёнаў. А гэта ўказвае нам на неабходнасьць тэхнічнай перапрацоўкі садовіны на фабрыцы, як гэта бывае з прадукцыяй іншых спэцыяльных галін сельскае гаспадаркі. У Амэрыцы, напрыклад, да 60 проц. ураджаю садовіны праходзіць праз фабрыкі. Зараз і ў нас, у саўхозе Забалацьце Аршанск. акр., будуецца сушыльна-вінаробчы завод, які будзе прапушчаць у сэзон да 100 тыс пудоў сьвежай садовіны. Такія-ж заводы намечана пабудаваць у Гомельскай, Бабруйскай і Віцебскай акругах. Фабрыка будзе выпускаць

сухія плады, пладова-ягаднае віно і яблычнае цеста, што мае добры збыт на мясцовым і замежным рынках.

Само сабою зразумела, што новы кірунак у пладоўніцтве *вымагае і дасьледваньня садоўніцтва.* Праца і ў гэтым напрамку вядзецца Наркамземам і садовымі навукова-дасьледчымі ўстановамі БССР і Саюзу. Зараз заканчваецца анкетнае абсьледваньне садоўніцтва прадпрынятае Наркамземам. Апрача таго, увесь час праводзіліся дасьледваньні пладовых насаджэньняў на мясцох Горацкай дасьледчай станцыяй па садоўніцтву пад кіраўніцтвам Проф. М. І. Бурштэйна і Аддзелам садоўніцтва *Усесаюзнага Інстытуту прыкладное батанікі і новых культур* у асобе проф. В. В. Пашкевіча. На падставе ўсіх гэтых матэрьялаў і будзе праведзена раёнаваньне пладоўніцтва Беларусі.

Апошняй задачай у галіне садоўніцтва зьяўляецца коопэраваньне насельніцтва—утварэньне спэцыяльнае садова-гароднае с.-г. коопэрацыі. Толькі пры організованасьці самаго насельніцтва, пры яго актыўным удзеле магчыма будзе ажыцьцявіць намечаныя мерапрыемствы, узьняць прыбытковасьць пладоўніцтва, якое павінна адыгрываць вялікую ролю ў справе ўзмацненьня таварнасьці сельскае гаспадаркі Беларусі.

Садавод **К. Хабэнка.**

---

# Вінаробства на Віцебшчыне.

Неспагадныя ўмовы для сбыту фруктаў у сырым відзе пры іх дрэннай якасьці і большасьці ў садох летніх гатункаў, прымусілі Акраза ўзяцца за організацыю тэхнічных прадпраемств па пераробцы садавіны.

Самы прыбытковы від тэхнічнай пераробкі ў нас ёсьць вінаробства, якое ў Віцебскай акрузе практыкавалася з 1895 г. Першым піанэрам гэтай справы лічыцца М. Д. ЗОМБЕРГ грамадзянін Высачанскага раёну Крыкаўскга с.-с. з вёскі Лашнёва. Пазнаёміўся М. Д. Зомберг з вінаробствам на сельска-гаспадарчай выстаўцыў г. Дзьвінску ў 1895 г., дзе былі прадстаўлены экспанаты фруктовых і ягадных він з Латвіі і Ковенскай губэрні. Вярнуўшыся з выстаўкі, Зомберг прыступіў да вырабу фруктовых він, выпісаўшы неабходнае абсталяваньне з Адэсы. Спачатку ён вырабляў па 30-40 вёдзер у год, а з 1908 г., калі пабудоваў спэцыяльнае памяшканьне пад завод і склеп, дык ён пачаў вырабляць штогодна па 350-400 вёдзер яблачнага віна 14-18° моцы. Усё віно вельмі добра разыходзілася сярод мясцовага насельніцтва па 5 р. за вядро. Чыстага прыбытку з вядра Зомберг палучаў па 2 р. 50 кап. У 1909 г. Зомбергам былі прадстаўлены ўзоры вырабляемага на сельска-гаспадарчую выстаўку ім віна, за што „Российским Обществом плодоводства“ ён быў прэміраваны. У 1914 г. праца завода была спынена, дзякуючы таму, што на завод быў накладзен вялікі падатак. Толькі у 1926 г. ў жніўні м-цы завод зноў пачаў працаваць, але ўжо гаспадаром яго зьявіўся Зомберг і другія яго суседзі, якія ў ліку 9 чалавек організавалі вінаробную арцель.

Восеньню 1926 г. арцель атрымала 1000 р. крэдыту на вінаробства, дакупіла некаторы інвэнтар і ў сэзон вырабіла 320 вёдзер яблачнага віна, якое цяпер з вялікай охвотай купляецца мясцовым насельніцтвам (40 кап. за бутэльку). Суседнія жыхары кідаюць піць самагонку і купляюць віно. У сэзон 1927 г. прэдпаложана вырабіць 1000 вёдзер.

Другім вінаробам на Віцебшчыне зьяўляецца Ф. А. Прэйс, селянін Віцебскага раёну, Рудніщчэнскага с.-с., вёскі Гароднікі. Ф. А. Прэйс, калі ня мэў яшчэ гаспадаркі, дык служыў на Маркаўшыне на Прадзільнай фабрыцы рабочым. У 1905 г. яго, як палітычнага злачынцу, садзяць у вастрог, а потым высылаць у Латвію, дзе яму ўдалося скончыць вінаробныя курсы пры заводзе. Пасьля курсаў Ф. А. Прэйс зварочваецца ў Віцебшчыну і каля Прадзільнай фабр. у Маркаўшчыне ён пачынае выробляць фруктовае віно. На віно было такое вялікае запатрабаваньне, што Прэйс гадавы выраб давёў да 400-500 вёд. Спыніў працу завод у 1914 г.

Цяпер ужо Прэйс мае сваю гаспадарку, якую набыў у 1917 г. і, як выдатны грамадзкі працаўнік, ён у лістападзе 1926 г. арганізаваў вінаробную арцель, у склад якой уваходзіць 10 чалавек суседзяй Прэйса. Вясной 1927 г. арцель атрымала 1000 р. доўгатэрміновага крэдыту і прыступіла да пабудовы агнятрывалага памяшканьня пад завод (5-х 6 саж.), якое будзе пабудована праз год. Памяшканьне завода разлічана на выраб 3000 вёдзер віна ў год. У восень 1928 г. завод ужо пачне працу.

Па ініцыятыве Акрземаддзелу вясною 1927 г. на сродкі доўгатэрміновага крэдыту арганізаваны буйны вінаробны завод у саўгасе Вымна, Сураскага ЦВК. Вытворчасьць заводу разлічана на 4000 вёдзер у год. У гаспадарцы Вымна было адпавядаючае памяшканьне дзеля вінаробнага заводу. Завод поўнасьцю абсталяваны машынамі і ўжо к 1 Кастрычніка г. г. выпаўніў 45 проц. нагрузкі. Бліжэйшае насельніцтва вельмі зацікавілася разьвіцьцём гэтага віду прамысловасьці. Для захалусных садовых раёнаў такі від мерапрыемств дасьць вялікі ўздым высока, інтэнсыўнай галіны—садоўніцтва, а для насельніцтва танны і карысны напітак фруктовых він.

**М. Лубоўскі.**

---

## Паштовая скрынка.

Селяніну **Старавойтаву**. *Як ставіць досьледы*, высылаем Вам інструкцыю Бюро сялян-дасьледчыкаў і належную літаратуру.

Селяніну **Крупеніну**. З. Ваш матэрыял скарыстаем.

Сел.-дасьлед. **Г. Шасьціткy**. Па скарыстаньні Вашага матэрыялу перашлем Віцебскай дасьледчай станцы.

**Выданьне Наркамзему.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Р. Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*